№ 27 (960) 7 верасня 2016 www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць раз на месяц, у першую сераду

**НОВЫ ФАРМАТ — 24 СТАРОНКІ**



### Самы загадкавы беларускі чыноўнік

Што кажуць землякі пра Вакульчыка? Рэпартаж з радзімы старшыні КДБ.
**Старонка 6.**

# Старым тут не месца?

## Старасць у Беларусі можа і павінна быць іншай. Старонка 13.

**Мастацтвазнаўца абвінавაціла дактароў мінскай паліклінікі ў чэрствасці і хамстве**
Чым усё скончыцца?
**Старонка 12.**

**«Вайна за незалежнасць пачынаецца з першага стрэлу»**
Як пабудаваная абарона Швейцарыі, Нарвегіі, Фінляндыі, Аўстрыі.
**Старонка 8.**

**Зорны час і галгофа Аркадзя Смоліча**
Пра аднаго з архітэктараў беларускай нацыі піша Анатоль Сідарэвіч.
**Старонка 16.**

**Замах на імператара ці жончын нагавор?**
Справа пана Любанскага пачалася ў беларускай глыбінцы, але дайшла да самых высокіх кабінетаў Расійскай Імперыі. Піша гісторык Зміцер Дрозд.
**Старонка 18.**

**Марта**
Алесь Кіркевіч.
Апавяданне.
**Старонка 22.**

**«А дачка ў яе была плечавой на трасе»**
Віктар Шукеловіч.
Апавяданне.
**Старонка 23.**

**«Я доўга цярпеў, але прыйшоў час быць самім сабой»**
Бізнэсовец Васіль Астроўскі ўступіў у БНФ і ідзе на выбары.
**Старонка 5.**

**Яркія моманты «выбараў»**
Лагвінец, Хашчавацкі, Анісім…
**Старонкі 3–5.**

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## Ад рэдактара

Памёр дыктатар Узбекістана Карымаў. Ударыў яго інсульт. Звезлі медыцынскіх свяціл з усяго свету. Тыя канстатавалі адразу, што мозг яго быў ужо памершы. Але ўлады пра тое не адразу аб'явілі. Цела ляжала, пакуль «вузкае кола» вырашала, хто пераемнік. Нарэшце пахавалі ў Самаркандзе, горадзе Тамерлана — вялікага цара ўзбекаў старых часоў. Нагадала гэта ўсё інсульт Сталіна. «Як мы без яго жыць будзем? Хто нас абароніць? Хто нам будзе пенсіі плаціць?» — плакала народная цемра.

Няма Карымава — а Узбекістан стаіць, нікуды не падзеўся. Як быў адсталы, так і ёсць.

Шмат думак, шмат абмеркаванняў выклікала раптоўная смерць чалавека, які не вагаўся, страляць у свой народ ці не.

У Беларусі тэмай тыдня будуць «выбары» **(старонка 3)**, але нямнога пра іх напішаш, калі ўсё там ужо наперад ясна.

На гэтым этапе мы працягваем лічыць тэму бяспекі і абароны Беларусі найважнейшай. Таму аддаём дзве паласы пад агляд таго, як арганізаваная сістэма тэрытарыяльнай абароны і рэзерву ў супастаўных еўрапейскіх краінах **(старонкі 8—9)**.

На паласе пошты і меркаванняў **(старонка 11)** —крык душы мінскай настаўніцы Таццяны Карэлінай, а таксама дарагія сэрцу лісты падзякі ад мамы заўчасна памерлага ўнікальнага мовазнаўцы Змітра Саўкі ды ад Эдуарда Пальчыса.

У нумары змяшчаем адразу тры вартыя гістарычныя матэрыялы. Даследаванне Анатоля Сідарэвіча пра Аркадзя Смоліча — сапраўдная класіка. Да раней вядомых гісторык дадае новаадкрытыя факты **(старонка 16)**.

Радасна, што па-беларуску пішуцца выдатныя апавяданні. У гэтым нумары гэта «Марта» Алеся Кіркевіча з Горадні і «А дачка яе была плечавой на трасе» Віктара Шукеловіча, які каранямі з Жупран і душою там застаецца **(старонка 22)**.

Твор Кіркевіча напісаны ў цікавай форме: гэта прыквел да раней апублікаванага «Зацкаванага ваўка».

На наступныя нумары ў рэдакцыйнай шуфлядзе ўжо ляжаць новыя творы Таццяны Барысік і Віктара Дашука — тых, каго таксама ні з кім не зблытаеш, хоць ты надрукуй без імені.

Наша газета і надалей будзе з'яўляцца ў кіёсках у першую сераду кожнага месяца. А на сайце nn.by мы публікуем стужку навін. У жніўні, дарэчы, сайт чыталі з 440 тысяч розных камп'ютараў і тэлефонаў. Што цікава, 49% артыкулаў цяпер прачытваюцца з мабільнікаў, а не з камп'ютараў.

**Рэд.**

# Колькі зарабляюць кіраўнікі выканкамаў

Парламенцкія выбары — гэта рэдкая магчымасць у сённяшняй Беларусі зазірнуць у жыццё чынавенства. Многія начальнікі адпраўляюцца балатавацца ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў, а таму публікуюць інфармацыю пра свае даходы, а таксама маёмасць.

Паглядзім, як жыве раённае і абласное кіраўніцтва краіны.

Па Палескай выбарчай акрузе №43 вылучаецца старшыня Ельскага райвыканкама **Леанід Пісанік**.

Пісаніку 59 гадоў. У савецкі час ён служыў у войску. У 1997 перайшоў у чыноўнікі. Ад 2011 года ўзначальвае Ельскі райвыканкам. Варта адзначыць, што Леанід Пісанік лічыцца членам Камуністычнай партыі.

За мінулы год чыноўнік зарабіў больш за 279 мільёнаў недэнамінаваных рублёў. Гэта каля 23,3 мільёна ў месяц. Сярэдні заробак па Ельскім раёне, паводле дадзеных Белстата, складае 4,8 мільёна рублёў. Гэта адзін з найбяднейшых раёнаў краіны.

Сярод канкурэнтаў Пісаніка ёсць фермер, аператар аўтаматычных ліній і пенсіянер. Ні ў каго з іх сярэдні даход за месяц не перавышаў 3 мільёнаў рублёў.

З Ельска пераходзім у недалёкія Калінкавічы. Па мясцовай акрузе №41 вылучаецца старшыня Мазырскага райвыканкама **Яўген Адаменка**.

Яму 56 гадоў, нарадзіўся ў вёсцы Лубень Нараўлянскага раёна. Скончыў сельскагаспадарчы інстытут. Да Мазыра быў кіраўніком Калінкавіцкага райвыканкама.

Даходы Адаменкі летась склалі 360 мільёнаў рублёў. Гэта значыць, што ў сярэднім у месяц ён зарабляў каля 30 мільёнаў. Сярэднія заробкі па Мазырскім раёне складаюць 6,8 мільёна дзякуючы нафтаперапрацоўчаму заводу.

На Віцебшчыне дэпутатам па Сенненскай акрузе хоча стаць старшыня Дубровенскага райвыканкама **Анатоль Лукашоў**.

Ягоны даход у 2015 годзе склаў 227 мільёнаў рублёў, значыць, у месяц ён атрымліваў каля 19 мільёнаў.

Ёсць сярод вылучэнцаў і адна намесніца старшыні райвыканкама — маладзечанскага. Гэта **Людміла Кананові**ч. Яе даход склаў больш за 191 мільён рублёў, выходзіць, менш за 16 мільёнаў на месяц.

Цяпер зірнем, колькі зарабляюць на ўзроўні намеснікаў старшынь у аблвыканкамах.

Па Рэчыцкай выбарчай акрузе вылучаецца намеснік старшыні Гомельскага аблвыканкама **Баляслаў Пірштук**.

Яму 57 гадоў, родам з вёскі Пірштукі Ляхавіцкага раёна. Працоўную кар'еру будаваў у Светлагорскім раёне, дзе займаў розныя пасады ў выканаўчым камітэце. Адметна, што ў той самы час у Светлагорску працавалі сённяшні віцэ-прэм'ер **Уладзімір Патупчык** і былы старшыня Гомельскага аблвыканкама і КДК **Аляксандр Якабсон**.

У аблвыканкаме Пірштук зарабіў летась 320 мільёнаў рублёў, больш за 26 мільёнаў у месяц.

Намеснік старшыні Брэсцкага аблвыканкама **Леанід Цупрык** вылучаецца кандыдатам па Баранавіцкай сельскай акрузе №7.

Даходы Цупрыка складаюць 432 мільёны рублёў. Праўда, з іх 130 мільёнаў — гэта продаж паловы кватэры, а яшчэ 8,7 мільёна — гэта крэдыт ад «ХоўмКрэдытБанка».

Узяў крэдыт таксама кіраўнік спраў Мінскага аблвыканкама **Іван Маркевіч**. «Беларусбанк» выдаў яму 150 мільёнаў рублёў.

Калі адняць крэдыт, то сярэдні даход Маркевіча складае каля 22 мільёнаў у месяц.

Вылучаецца Маркевіч па Маладзечанскай сельскай акрузе.

**Зміцер Панкавец**

**Фотафакт**




**Сустрэча Пуціна і Абамы ў адной фатаграфіі. Прэзідэнты ЗША і Расіі правялі перамовы 5 верасня на саміце «Вялікай дваццаткі» ў кітайскім Ханьчжоу.**

## Дурні

### Як падпісваць сшытак?

У школах шум! Можа быць, знайшлі новы спосаб развіцця памяці? Перайшлі з чыстапісання на друкаванне ў камп'ютары, як фінскія дзеці? Не, там па-новаму афармляюць сшыткі.

Цяпер слова «Сшытак» на вокладцы трэба пісаць у пачатку радка, а не пасярэдзіне, як раней. Крык, дзяцей прымушаюць выкідваць «няправільна падпісаныя» сшыткі...

А аказалася вось што.

У Міністэрстве адукацыі пры загрузцы метадычных рэкамендацый на сайт ведамства ў дакуменце «зляцела» фарматаванне. Словы, якія павінны былі быць у сярэдзіне радка, аўтаматычна выраўняліся па левым краі. У выніку школы атрымалі няправільны варыянт «метадычкі» і пачалі заўзята выконваць «новае правіла».

## Добрыя весткі

### Выдатны ўраджай бульбы

Сёлета ў Беларусі вырас вялікі ўраджай бульбы. Рэкардсмен па ўраджайнасці пакуль — Талачынскі раён Віцебскай вобласці. Там збіраюць 410 цэнтнераў з гектара.

Як чакаецца, цэны на картоплю будуць сёлета вельмі нізкімі.

## Здароўе

### У ЗША забаранілі антыбактэрыяльнае мыла

Гаворка ідзе пра 19 рэчываў, сярод якіх ёсць і найбольш папулярныя кампаненты антыбактэрыяльных сродкаў — трыклазан і трыклакарбан. Забаронены продаж і мыла, і геляў для душа з імі.

Навукоўцы даказалі, што антыбактэрыяльнае мыла можа шкодзіць арганізму.

## Дзякуем чытачам-мецэнатам «НН»

Моцна дзякуем неабыякавым чытачам за ахвяраванні на выхад NN.BY / «Нашай Нівы» праз сістэму АРІП:
N-vi D. Ad-d, Віталю Д., В.Н. Б-л, Н. А. Гр-му, Ryhor A., DK, Макс-ч, Mihal Ka., В.А. В-т, Антону Ш., a.b. Kurl-kou, I.M. А-н, Спадару Арл, Андрэю К., З.С Ізвай, Т.М. Шч-кун, В. Л-ка, Н.Б. Мак-лі, Aliaksej, Andrej, Ю.Ю., Андрэю В., Валеру Дзмітрыевічу Т., Сяргею Ш., СВГЦ, Раману Віктаравічу А., С.В. Ж-к, В.Д. Він-ву, А.Я. Л-тка, Паўлу П., Аляксандру Р-ку, Уладзіміру В-ку, B-vich, Мал-ву, 2, Сяргею Ш., П.Н., С.В. Ж-к, Т.В. Сін-й.

## Самае чытанае на nn.by за жнівень 2016

1 Стала вядома, хто займаўся публічным сэксам у Сухараве

2 Затрыманы дырэктар беларускамоўнай гімназіі №4 Мінска

3 Алесь Лагвінец даў джазу на ток-шоу Гігіна. Ярмошына: Гэта д'ябал!

4 Regnum.ru: Макей на вуліцы Зыбіцкай рыхтуе майдан, а ўладу на Захадзе захапілі сатаністы

5 Канстанцінопальскі патрыярхат: Маем права даваць аўтакефалію праваслаўным былой Рэчы Паспалітай без згоды Масквы

6 «Гэта не апазіцыя слабая — гэта вы слабыя» — моцны выступ Юрыя Хашчавацкага ў тэлеэфіры

7 «П'янства, зубры і бабулькі». The Telegraph распавяла брытанцам 25 фактаў пра Беларусь

8 «Для мяне цяпер усё роўна, колькі ў мяне мужчын у ложку». Споведзь беларускай наложніцы з гарэму маскоўскага сэкс-трэнера

9 Насупраць Драздоў шыюць сэксуальныя жаночыя строі, якіх вы раней не бачылі

10 Уладзіслаў Ганчароў: пяць фактаў пра алімпійскага чэмпіёна і яго чароўную дзяўчыну

# 110 чалавек, якія будуць названыя пераможцамі парламенцкіх выбараў

Прагноз «Нашай Нівы». Зверце, ці супадзе.

На выбарах 11 верасня будуць абраныя 110 дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў. Зарэгістравана каля 500 канкурэнтаў, але большасць з іх будзе проста масоўкай на свяце жыцця. Ні для каго не сакрэт, што ў беларускі парламент трапляюць толькі патрэбныя ўладзе людзі.

Свой першы прагноз на выніку выбараў «Наша Ніва» склала яшчэ да заканчэння тэрміну падачы заявак. Справа ў тым, што, паводле логікі ідэолагаў, адказных за фармаванне парламента, народны абраннік павінен як мінімум паразмаўляць са сваімі выбарцамі, гэта значыць прайсці праз збор подпісаў. А ў ідэале — падмацавацца падтрымкай працоўных калектываў. Кандыдаты, прыведзеныя ў спісе, адпавядаюць гэтым патрабаванням.

Асаблівасць выбараў у тым, што фактычна абіраюцца не асобы, а іх пасады. Таму па месцы працы чалавека можна лёгка вызначыць яго перспектывы.

Некалькі дробных інтрыг застаецца ў Магілёўскай, Мінскай абласцях і ў Мінску, дзе балатуюцца сувымерныя па пасадах кандыдаты.

У парламент, найхутчэй, патрапяць 15 прадстаўнікоў палітычных партый. Прагназуем, што камуністаў будзе 8 чалавек, сяброў так званых Патрыятычнай партыі («атамана» Улаховіча) і Рэспубліканскай партыі працы і справядлівасці — па трое, а таксама адзін прадстаўнік Ліберальна-дэмакратычнай партыі.

Магчыма, дэпутаткай ад Стаўбцоўска-Нясвіжскай акругі стане і намесніца старшыні Таварыства беларускай мовы Алена Анісім.

**Ягор Марціновіч**

| акруга | імя | пасада |
|---|---|---|
| 1 | Брыч Леанід Рыгоравіч | генеральны дырэктар ААТ «Берасцейскі пекар» |
| 2 | Мілашэўскі Валянцін Станіслававіч | дэпутат Палаты прадстаўнікоў |
| 3 | Дашко Анатоль Міхайлавіч | галоўны доктар Брэсцкага абласнога раддома |
| 4 | Базанаў Уладзімір Аляксандравіч | дэпутат Палаты прадстаўнікоў |
| 5 | Палітыка Вольга Сяргееўна | дэпутатка Палаты прадстаўнікоў |
| 6 | Якубовіч Таццяна Раманаўна | першы прарэктар Баранавіцкага дзяржаўнага ўніверсітэта |
| 7 | Цупрык Леанід Аляксандравіч | намеснік старшыні Брэсцкага аблвыканкама |
| 8 | Стацэўка Жанна Уладзіміраўна | намесніца старшыні камітэта па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Брэсцкага аблвыканкама |
| 9 | Качына Леанід Іванавіч | галоўны інжынер ААТ «Бярозаўскі сыраробны камбінат» |
| 10 | Дарагакупец Юрый Іванавіч | дэпутат Палаты прадстаўнікоў |
| 11 | Ткачук Анатоль Уладзіміравіч | старшыня Івацэвіцкага райвыканкама |
| 12 | Дземідовіч Васіль Мікалаевіч | дырэктар Кобрынскага дзяржаўнага політэхнічнага каледжа |
| 13 | Невар Ігар Леанідавіч | галоўны доктар Лунінецкай цэнтральнай раённай бальніцы |
| 14 | Колб Ігар Міхайлавіч | дырэктар гімназіі №3 Пінска |
| 15 | Рабкавец Іван Рыгоравіч | дырэктар Пінскага аўтобуснага парка |
| 16 | Бабаловіч Аляксандр Сяргеевіч | начальнік КУП «Брэстаблдарбуд» філіял «Столінскага ДРБУ-141» |
| 17 | Старынская Таццяна Аляксандраўна | дырэктарка Тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва Першамайскага раёна Віцебска |
| 18 | Занько Сяргей Мікалаевіч | загадчык кафедры акушэрства і гінекалогіі Віцебскага дзяржаўнага медыцынскага ўніверсітэта |
| 19 | Чакан Васіль Іванавіч | начальнік Дэпартамента па матэрыяльных рэзервах Міністэрства па надзвычайных сітуацыях |
| 20 | Цацоха Аляксандр Уладзіміравіч | дэпутат Палаты прадстаўнікоў |
| 21 | Міраш Віктар Вікенцьевіч | першы намеснік дырэктара ААТ «Віцебская бройлерная птушкафабрыка» |
| 22 | Андрэйчанка Уладзімір Паўлавіч | старшыня Палаты прадстаўнікоў |
| 23 | Мартынаў Ігар Феліксавіч | ваенны камісар Віцебскай вобласці |
| 24 | Дзевятоўскі Вадзім Анатольевіч | дэпутат Палаты прадстаўнікоў |
| 25 | Дабрыніна Людміла Анатольеўна | дэпутатка Палаты прадстаўнікоў |
| 26 | Чудовіч Віталь Ігаравіч | начальнік лакаматыўнага дэпо Оршы |
| 27 | Гуйвік Наталля Васільеўна | дэпутатка Палаты прадстаўнікоў |
| 28 | Юніцын Андрэй Юр'евіч | начальнік Полацкага занальнага вузла электрасувязі Віцебскага філіяла РУП «Белтэлекам» |
| 29 | Зямчонак Сяргей Рычардавіч | дырэктар ААТ «Паставымэбля» |
| 30 | Лукашоў Анатоль Іванавіч | старшыня Дубровенскага райвыканкама |
| 31 | Корж Іван Аляксеевіч | начальнік Інстытута нацыянальнай бяспекі |
| 32 | Шылаў Віталь Пятровіч | намеснік дырэктара ААТ «Гомельскі ЗЛіН» |
| 33 | Леўшуноў Алег Фёдаравіч | дэпутат Палаты прадстаўнікоў |
| 34 | Ждановіч Павел Леанідавіч | дырэктар Гомельскага абласнога музея ваеннай славы |
| 35 | Гурскі Дзмітрый Міхайлавіч | намеснік гендырэктара — дырэктар завода ККД ААТ «Гомельскі домабудаўнічы камбінат» |
| 36 | Астапюк Алена Іванаўна | дэпутатка Палаты прадстаўнікоў |
| 37 | Навумчык Ала Аляксандраўна | дэпутатка Палаты прадстаўнікоў |
| 38 | Васількоў Мікалай Андрэевіч | начальнік упраўлення аховы здароўя Гомельскага аблвыканкама |
| 39 | Кралевіч Ірына Мікалаеўна | прарэктарка па навуковай рабоце Мазырскага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта |
| 40 | Дзячэнка Вячаслаў Іванавіч | галоўны спецыяліст Беларускага металургічнага завода |
| 41 | Адаменка Яўген Бунілавіч | старшыня Мазырскага райвыканкама |
| 42 | Расоха Мікалай Фёдаравіч | дэпутат Палаты прадстаўнікоў |
| 43 | Пісанік Леанід Фёдаравіч | старшыня Ельскага райвыканкама |
| 44 | Пірштук Баляслаў Казіміравіч | намеснік старшыні Гомельскага аблвыканкама |
| 45 | Шчэпаў Уладзіслаў Аляксандравіч | дэпутат Палаты прадстаўнікоў |
| 46 | Філіповіч Галіна Васільеўна | дэпутатка Палаты прадстаўнікоў |
| 47 | Чакан Святлана Уладзіслаўаўна | дэпутатка Палаты прадстаўнікоў |
| 48 | Сягоднік Аляксандр Іванавіч | дэпутат Палаты прадстаўнікоў |
| 49 | Пацэвіч Сяргей Лявонцьевіч | начальнік галоўнага ўпраўлення арганізацыйна-кадравай работы Гродзенскага аблвыканкама |
| 50 | Русак Віктар Рамуальдавіч | начальнік аддзела сацыяльнага развіцця ААТ «Гродна Азот» |
| 51 | Кір'як Лілія Вацлаваўна | дырэктарка школы №13 Гродна |
| 52 | Даўгашэй Тамара Сяргееўна | галоўная доктарка Гродзенскага абласнога клінічнага кардыялагічнага цэнтра |
| 53 | Літвін Сяргей Іванавіч | дырэктар Скідальскага дзяржаўнага сельскагаспадарчага прафесійнага ліцэя |
| 54 | Маркевіч Аляксандр Іванавіч | начальнік Смаргонскай памежнай групы |
| 55 | Навумовіч Андрэй Мікалаевіч | дэпутат Палаты прадстаўнікоў |
| 56 | Міхневіч Валянцін Уладзіміравіч | першы намеснік міністра ўнутраных спраў — начальнік крымінальнай міліцыі |
| 57 | Папко Вольга Мікалаеўна | дырэктарка музея «Замкавы комплекс «Мір» |
| 58 | Сопікава Ала Мікалаеўна | дэпутатка Палаты прадстаўнікоў |
| 59 | Кавалько Адам Дзмітрыевіч | старшыня Астравецкага райвыканкама |
| 60 | Саўко Валерый Іосіфавіч | старшыня Гродзенскай абласной арганізацыі прафсаюза работнікаў дзяржаўных і іншых устаноў |
| 61 | Атрошчанка Пятро Аляксеевіч | намеснік начальніка Упраўлення КДБ па Мінску і Мінскай вобласці |
| 62 | Баранік Васіль Міхайлавіч | дырэктар «Градабудаўнік», Барысаў |
| 63 | Красоўская Тамара Пятроўна | дэпутатка Палаты прадстаўнікоў |
| 64 | Заблоцкі Дзмітрый Васільевіч | намеснік генеральнага дырэктара БелАЗ |
| 65 | Гайдукевіч Валерый Уладзіміравіч | дэпутат Палаты прадстаўнікоў |
| 66 | Ніжэвіч Людміла Іванаўна | намесніца міністра сельскай гаспадаркі і харчавання |
| 67 | Ражанец Валянціна Вітальеўна | галоўная рэдактарка газеты «Слуцкі край» і радыё «Весткі Случчыны» |
| 68 | Рыбак Андрэй Анатольевіч | намеснік генеральнага дырэктара ААТ «Беларуськалій» |
| 69 | Мурына Юлія Георгіеўна | дырэктарка Салігорскага раённага тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва |
| 70 | Анісім Алена Мікалаеўна | намесніца старшыні Таварыства беларускай мовы |
| 71 | Лобач Юрый Аляксандравіч | генеральны дырэктар ААТ «Дарбудіндустрыя» |
| 72 | Кананові Людміла Мікалаеўна | намесніца старшыні Маладзечанскага райвыканкама |
| 73 | Маркевіч Іван Станіслававіч | кіраўнік спраў Мінскага аблвыканкама |
| 74 | Жыбуль Наталля Пятроўна | дырэктарка Вілейскай гімназіі №1 «Логас» |
| 75 | Вабішчэвіч Пётр Андрэевіч | старшыня Лагойскага раённага Савета дэпутатаў |
| 76 | Улаховіч Мікалай Дзмітрыевіч | намеснік старшыні Мінаблспажыўсаюза |
| 77 | Курсевіч Валянціна Вацлаваўна | доктарка-кардыёлаг, загадчыца кардыялагічнага аддзялення 2-й гарадской клінічнай бальніцы Мінска |
| 78 | Рынейская Ірына Мікалаеўна | начальніца ўпраўлення адукацыі, спорту і турызму Бабруйскага гарвыканкама |
| 79 | Уласевіч Віталь Эдуардавіч | начальнік зборачнага цэха №2 завода масавых шын ААТ «Белшына» |
| 80 | Кананчук Ігар Паўлавіч | дырэктар ААТ «Бабулін глечык» |
| 81 | Кананчук Таццяна Пятроўна | дэпутатка Палаты прадстаўнікоў |
| 82 | Коленева Алена Пятроўна | прарэктарка Беларускай дзяржаўнай сельскагаспадарчай акадэміі |
| 83 | Марачкава Таццяна Барысаўна | старшыня Крычаўскага раённага Савета дэпутатаў |
| 84 | Марзалюк Ігар Аляксандравіч | загадчык кафедры археалогіі Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта |
| 85 | Старавойтаў Аляксандр Генадзьевіч | галоўны доктар Магілёўскай цэнтральнай паліклінікі |
| 86 | Петрашова Вольга Уладзіміраўна | намесніца старшыні Магілёўскага аб'яднання прафсаюзаў |
| 87 | Салаўёў Пётр Аляксандравіч | галоўны інжынер ААТ «Магілёўхімвалакно» |
| 88 | Хішчанка Анатоль Пятровіч | намеснік старшыні Ліберальна-дэмакратычнай партыі |
| 89 | Калтуноў Мікалай Анісімавіч | дэпутат Палаты прадстаўнікоў |
| 90 | Гобараў Дзмітрый Дзмітрыевіч | памочнік прэзідэнта — галоўны інспектар па Брэсцкай вобласці |
| 91 | Няхайчык Аксана Уладзіміраўна | дэпутатка Палаты прадстаўнікоў |
| 92 | Курсевіч Валерый Віктаравіч | дырэктар рысорнага завода ААТ «МАЗ» |
| 93 | Барадзеня Валерый Анатольевіч | дэпутат Палаты прадстаўнікоў |
| 94 | Варанецкі Валерый Іосіфавіч | пасол у Аўстрыі |
| 95 | Сайганава Таццяна Іванаўна | намесніца генеральнага дырэктара ААТ «Кандытарская фабрыка «Камунарка» |
| 96 | Клімовіч Наталля Анатольеўна | дэпутатка Палаты прадстаўнікоў |
| 97 | Дрожжа Аляксандр Сяргеевіч | начальнік станцыі «Мінск-Пасажырскі» |
| 98 | Камароўскі Ігар Сяргеевіч | дырэктар ААТ «Мінскі вагонарамонтны завод» |
| 99 | Макарына-Кібак Людміла Эдуардаўна | галоўная доктарка РНПЦ отарыналарынгалогіі |
| 100 | Гайдук Аксана Вячаславаўна | намесніца генеральнага дырэктара ДВА «Гаррамаўтадар Мінгарвыканкама» |
| 101 | Старавойтава Ганна Валянцінаўна | дырэктарка гімназіі №31 Мінска |
| 102 | Кубракова Людміла Пятроўна | дэпутатка Палаты прадстаўнікоў |
| 103 | Місявец Віталь Рыгоравіч | старшыня Фрунзенскай раённай арганізацыі РГА «Белая Русь» |
| 104 | Мілаванаў Міхаіл Вячаслававіч | намеснік дырэктара Музея гісторыі горада Мінска |
| 105 | Дарафеева Ірына Аркадзьеўна | загадчыца кафедры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў |
| 106 | Шаўцоў Дзмітрый Яўгенавіч | дэпутат Палаты прадстаўнікоў |
| 107 | Сокал Аляксей Уладзіміравіч | першы намеснік генеральнага дырэктара ААТ «ЦУМ» |
| 108 | Лакіза Вадзім Леанідавіч | намеснік дырэктара Інстытута гісторыі Акадэміі навук |
| 109 | Бобрыкаў Сяргей Валянцінавіч | начальнік Вайсковай акадэміі |
| 110 | Захарава Лада Іванаўна | дырэктарка гімназіі №5 Мінска |

# Унучка Лукашэнкі паступіла на факультэт міжнародных адносін, прычым платна

**Вікторыя Лукашэнка залічана на платнае аддзяленне. Пра гэта сведчаць спісы першакурснікаў Белдзяржуніверсітэта.**

На ФМА Вікторыя Лукашэнка абрала «сусветную эканоміку». Гэта адна з самых запатрабаваных спецыяльнасцяў у БДУ: прахадны бал на бюджэт па ёй склаў 361 бал, на платную форму навучання — 249 балаў.

Вікторыя Лукашэнка — дачка Віктара Лукашэнкі, старэйшага сына беларускага прэзідэнта. У яе ёсць браты Аляксандр і Яраслаў, а таксама сястра Валерыя. У гэтым годзе Вікторыя скончыла сталічную гімназію № 16.

У дзяцінстве старэйшая ўнучка прэзідэнта здымалася ў кіно. У 2008 годзе разам з Філіпам Кірковым яна сыграла ў беларускай камедыі «На спіне ў чорнага ката», у 2010 годзе — у расійскім серыяле «Варажба пры свечках».

**news.tut.by**



ФОТА З АСАБІСТАГА АРХІВА ВІКТОРЫІ ЛУКАШЭНКА

# Алесь Лагвінец даў джазу на ток-шоу Гігіна. Ярмошына: Гэта д'ябал!

**Намеснік старшыні руху «За Свабоду» Алесь Лагвінец жорстка раскрытыкаваў улады на тэлеканале АНТ.**

Ток-шоу «Справа прынцыпу» з вядучым Вадзімам Гігіным 22 жніўня было прысвечана тэме парламенцкіх выбараў. Адным з гасцей перадачы быў Алесь Лагвінец, якога не зарэгістравалі кандыдатам у дэпутаты па Сухараўскай выбарчай акрузе. Лагвінец сышоўся ў гарачай дыскусіі са старшыняй ЦВК Лідзіяй Ярмошынай.

Лагвінец перш за ўсё падкалоў Вадзіма Гігіна як патэнцыйнага выбарца, бо вядучы жыве ў Сухараве і гіпатэтычна мог галасаваць за прадстаўніка руху «За Свабоду».

«Я выкарыстоўваў выбарчую кампанію, каб прадэманстраваць, што ўлада ў нас несправядлівая. Сапраўдныя выбары будуць толькі тады, калі будзе празрысты працэс. Усе назіральнікі АБСЕ кажуць, што ў нас несправядлівыя выбары, няма падліку галасоў», — сказаў Лагвінец.

Ён агучыў інфармацыю, што з 37 чалавек, якіх ягоная каманда вылучыла ва ўчастковыя камісіі, зарэгістраваныя былі толькі двое.

«Дык а навошта вы гэты тэатр абсурду рабілі?» — спытаўся Гігін.

«Каб паказаць, што выбараў няма. Пакуль у нас не расследаваныя да канца справы зніклых палітыкаў, пакуль у краіне ёсць палітвязні, справядлівых выбараў не будзе», — запэўніў Алесь Лагвінец.

«Мы карыстаемся выбарамі, каб прадэманстраваць несправядлівасць улады. Несправядлівасць у пытанні заробкаў». На гэтым Гігін спрабаваў перабіць Лагвінца: «Несправядлівая ўлада дае апазіцыі магчымасць яе крытыкаваць».

«Народ дае. Гэта запісана ў Канстытуцыі».

Пасля Вадзім Гігін спрабаваў «абараніць» Алеся Лагвінца перад Лідзіяй Ярмошынай, запытаўшыся, чаму ж апазіцыйнага кандыдата не зарэгістравалі кандыдатам у дэпутаты.

«Вы выступаеце адвакатам д'ябла, — адрэзала Ярмошына. — Лагвінец паводзіў сябе так, нібыта для падручніка «Як нельга паводзіць сябе падчас выбараў». Пастаянна, дзёрзка, груба парушаў выбарчае заканадаўства. Прычым рабіў ён гэта наўмысна, спецыяльна».

Лагвінец адзначыў, што сёння парламент успрымаецца як сінекура, магчымасць для наменклатуры зарабіць добрую пенсію. «У вас добрая пенсія будзе, спадарыня Лявоненка?» — спытаўся ён рытарычна ў дэпутаткі-камуністкі Валянціны Лявоненка.




Пры канцы Лагвінец адзначыў, што фальсіфікацыі адбываюцца на ўзроўні ўчастковых камісій.

У фэйсбуку Алесь Лагвінец напісаў, што з ягонага выступу была выдаленая наступная частка: «Справядлівыя выбары будуць тады, калі Лукашэнка і Ярмошына будуць на пенсіі».

Таксама госцем перадачы быў палітычны аналітык Валерый Карбалевіч. Ён адзначыў, што выбараў у краіне няма.

«Нават улада не хавае таго, што гэта імітацыя. Ярмошына нядаўна сказала, што апазіцыя рыхтуецца да паразы. Выбары яшчэ не пачаліся, а ўжо ведаюць іх вынікі. Проста нейкая Ванга. Уявіце, калі футбольны суддзя, выводзячы каманды на поле, будзе казаць адной з іх: «У вас няма шанцаў, вы саступіце».

«Вынік загадзя вядомы», — лічыць аналітык.

**Зміцер Панкавец**

## «Гэта не апазіцыя слабая — гэта вы слабыя»

**«Вечерній Мінск» адмовіўся друкаваць выступ Юрыя Хашчавацкага, які прагучаў на ТБ.**

Кандыдат у дэпутаты ад АГП Юры Хашчавацкі звярнуўся да выбарцаў у эфіры «Беларусь-3» з вельмі рэзкай прамовай. Гэта быў, бадай, самы хлёсткі выступ прадстаўнікоў апазіцыі сёлета.

Хашчавацкі пералічыў шэраг праблем, якія, паводле яго слоў, беларусы абмяркоўваюць штодня: гэта рост цэнаў, вялікія выдаткі на ўтрыманне чыноўнікаў, неабароненасць перад беззаконнем міліцыі, дрэнная якасць бясплатнай медыцыны, дарагоўля адукацыі.

«Вы думаеце пра гэта, але нічога не робіце, каб усё гэта змяніць, — звярнуўся Хашчавацкі да выбаршчыкаў. — Вы нічога не зрабілі ў 1996 годзе, калі знішчаўся парламент, у 1999-м, калі сталі знікаць вядомыя палітыкі, калі ў 2010-м амаль усіх кандыдатаў у прэзідэнты пасадзілі ў турму. І пасля гэтага вы кажаце, што ў нас слабая апазіцыя. Гэта не апазіцыя слабая — гэта вы слабыя. Пара станавіцца моцнымі і вярнуць пачуццё ўласнай годнасці», — сказаў на заканчэнне кандыдат.

На ТБ выступ кандыдата паказалі. А вось газета «Вечерній Мінск» надрукаваць той самы тэкст адмовілася: спасаліся на парушэнне заканадаўства.

**Сяргей Гезгала**

## Расійскую журналістку Юлію Латыніну аблілі фекаліямі



Напад адбыўся недалёка ад рэдакцыі радыёстанцыі «Эхо Москвы». Па словах Латынінай, нападнікаў было двое. Адзін, у матацыклетным шлеме, напаў на яе, а другі чакаў супольніка на матацыкле непадалёк.

Юлія Латыніна мяркуе, што напад звязаны з публікацыямі «Новой газеты» пра мільярдэра Яўгенія Прыгожына, блізкага да Пуціна.

## Затрыманы дырэктар беларускамоўнай гімназіі №4 Мінска

**Юрыя Бандарэнку забралі 18 жніўня з ягонага працоўнага месца.**

«Затрымалі яго ўдзень, непасрэдна ў гімназіі. Перакрыты быў цэлы паверх, туды нікога не пускалі. У кабінеце дырэктара правялі вобшук, у панятыя ўзялі двух сакратароў і завуча, — паведаміла «Нашай Ніве» крыніца, якая працуе ў навучальнай установе. — Кажуць, што гэта былі супрацоўнікі КДБ, бо хтосьці бачыў надпіс на пячатцы... Але гэта могуць быць і чуткі. Дакладна пакуль невядома. Увогуле, з калектывам гімназіі асабліва ніхто не размаўляў. За што затрымліваюць Бандарэнку, не паведамлялі. Вобшук праводзілі пяцёра ў цывільным. Вядома, што яны забіралі паперы з кабінета Бандарэнкі, прычым толькі тыя, дзе было штосьці напісана яго ўласнай рукою — надрукаванага не бралі».



GYMN4.MINSK.EDU.BY

Юрый Бандарэнка.

Юрый Бандарэнка працаваў дырэктарам гімназіі №4 з 1997 года. Ягоны педагагічны стаж складае 45 гадоў.

Афіцыйнай інфармацыі пра затрыманне Юрыя Бандарэнкі пакуль няма.

Крыніцы ў гімназіі звязваюць затрыманне з гаспадарчай дзейнасцю або з пытаннямі да прыёму дзяцей у гімназію. Палітыкі тут быць не можа, кажуць у гімназіі.

**Уладзь Швядовіч**

# Бізнэсовец Васіль Астроўскі ўступіў у БНФ і ідзе на выбары: Я доўга цярпеў, але прыйшоў час быць самім сабой

62-гадовы Васіль Астроўскі вылучаецца кандыдатам ад Партыі БНФ на па 103-й Дамброўскай выбарчай акрузе, гэта на захадзе сталіцы.

Астроўскі вядомы ў бізнэсе чалавек. Ён узначальвае Раду па развіцці прадпрымальніцтва пры Мінгарвыканкаме, а таксама ўваходзіць у Рэспубліканскую раду прадпрымальнікаў. Пра шлях у палітыку і пра бізнэс мы пагаварылі з кандыдатам у дэпутаты. Размова праходзіла выключна па-беларуску.

**Васіль Астроўскі:** Мы робім пікеты ля «Алмі» на Каменнай Горцы, расстаўляем апаратуру, сцягі, улёткі. Пачынаецца ўсё з таго, што пачынаюць спяваць мае дзеці — дочкі 6 і 9 гадоў. І столькі людзей збіраецца! А яшчэ два студэнты з маёй каманды — Лёша і Валера — робяць анімацыю. Падыходзяць бацькі з дзецьмі. Кажуць, што такога не чакалі, бо звычайна на пікетах стаяць людзі з перакошанымі тварамі і за нешта агітуюць. А ў вас нібыта агітацыі і няма, але яна лепшая за любую іншую. Такая душэўная атмасфера, мне пасля такіх сустрэч яшчэ больш хочацца працаваць. Мой старэйшы сын, якому 19 гадоў, спявае песні «Ляпіса Трубяцкога», Цоя, свае ўласныя. А сканчваецца ўсё спевамі барда Анатоля Кудласевіча. І мне так прыемна.

**«Наша Ніва»: У вас жа пяцёра дзяцей?**

**ВА:** Так, пяцёра. Старэйшая дачка ўжо траіх сваіх мае. Памятаю, як мая жонка прыходзіць у гневе да мяне і кажа: «Ну што? Што будзем рабіць? Дагуляўся», — намякаючы на цяжарнасць. Я кажу: «Вольга, я не ведаю, што мы будзем рабіць, але я ведаю, чаго мы не будзем рабіць — мы не будзем грашыць». Калі ў нашым узросце Бог дае дзіця, то гэта шчасце. Я адзін з самых шчаслівых людзей на свеце, бо дзеці — гэта такая радасць. Кожны дзень, калі я прыходжу дадому, то дочкі ляцяць насустрач з крыкамі «Тата!». На сэрцы адразу такое шчасце.

**«НН»: Вы чалавек новы ў палітыцы, раскажыце пра сябе.**

**ВА:** І новы, і не новы. Я нарадзіўся ў Валожыне, ганаруся сваімі каранямі. Жыў у бабулі на хутары Юганова, цяпер ужо назвы такой нават няма. Маці ў мяне з такой кулацкай сям'і са Смаргонскага раёна. Бацька з Валожына. Гэта ж вядомы род у Беларусі — Астроўскі, Астрожскі, Астрагоскія...

**«НН»: На каго вучыліся?**

**ВА:** Па першай адукацыі я музыкант. Вучыўся ў Інстытуце культуры. Быў дастаткова перспектыўным хлопцам. У войску служыў у ансамблі песні і танца ў Вільні. Калі вярнуўся з арміі, то працаваў у Доме народнай творчасці з вядомымі кампазітарамі, такімі як Ігар Лучанок. Думаў, што ўсё жыццё маё будзе звязанае з музыкай і мастацтвам.

Аднак неяк пасварыўся з цешчай, у той час мы з жонкай жылі ў яе, я псіханўў і з'ехаў на радзіму ў Валожын. Хацеў там выкладаць у музычнай школе, але мне прапанавалі пайсці працаваць у райкам камсамола. Спыталі толькі, ці змагу я зрабіць дыскатэку. Кажу: канечне, магу.

Зрабіўся там загадчыкам аддзела. Пасля ж было зусім нечакана, як пярун ударыў, мяне запрасілі працаваць у аддзел культуры ЦК камсамола Беларусі. Гэта быў 1983 год. Дарэчы, у гэты час там працаваў цяперашні дырэктар Мастацкага музея Уладзімір Пракапцоў. Першай маёй працай быў савецка-кубінскі фестываль моладзі. Мяне здзівіла, што гэта братэрская краіна наша нібыта, а столькі спецслужб загналі.

У 1985 годзе я трапіў у падрыхтоўчы камітэт 12-га злёту моладзі і студэнтаў. І што скажу? Вочы ў мяне расплюшчыліся менавіта тады, шмат кантактаваў з іншымі дэлегацыямі, у тым ліку амерыканцамі. Я там працаваў па 17—20 гадзін у суткі, спаў у машыне.

Пасля вяртання ў Беларусі я пазнаёміўся з такімі людзьмі, як Алесь Суша, Вінцук Вячорка, ужо нябожчык Сяржук Вітушка. Я стварыў Рэспубліканскі маладзёжны цэнтр, але марай маёй было адысці ад камсамола, каб ён быў незалежнай пляцоўкай. Мы ладзілі першыя фестывалі рок-музыкі, нейкія гумарыны. Заўсёды «Талака» ўдзельнічала, самыя актыўныя былі. Па 300—500 чалавек моладзі прыходзіла. А потым пачалі рыхтаваць расправу са мной.

**«НН»: Што за расправа?**

**ВА:** Хацелі выключыць з партыі, камсамола, выкінуць з працы. Я памятаю, што мы адкрылі неафіцыйную выставу маладых мастакоў — Ксяндзоў, Янушкевіч, Тоўсцік, Альшэўскі, Селяшчук, Славук, Савіч. Сем мастакоў — сем зорак. Мы адкрылі выставу без санкцый і ўжо былі гатовыя, што нас «расстраляюць», але прыйшоў нехта з партыйцаў і сказаў: «Жывапіс Беларусі ў надзейных руках». Тым не менш многім не падабалася, што такі малады хлопец, як я, становіцца нефармальным лідарам. Я адчуваў, што хмары нада мной збіраюцца. Быў выпадак, калі ў Траецкім прадмесці пабілі дзяцей, хацелі спісаць на мяне, але не паглядзелі, што ў гэты час я быў у камандзіроўцы ў Касцюковічах.

Пісалі тады пра мяне і беларускія, і з іншых савецкіх рэспублік газеты. У «Мінскай праўдзе» было напісана: «Не пабаімся высокіх словаў, але менавіта такія хлопцы, як Васіль Астроўскі, з'яўляюцца людзьмі перабудовы, якія з цяжкасцю прабіваюць сабе дарогу ў будучыню».

**«НН»: А да БНФ не было жадання далучыцца яшчэ напрыканцы 1980-х?**

**ВА:** Я памятаю, як сядзелі ў малой зале к/з «Мінск». Сабраліся там актывісты, партыйцы, размоваў было — падтрымліваем, не падтрымліваем. А я ўстаю і кажу, што падтрымліваю ідэю БНФ. Я спадзяваўся, што нейкім чынам мне ўдасца паехаць на першы з'езд БНФ у Вільню, але ў той час мне прапанавалі іншую працу. Я пайшоў працаваць у Інстытут дзяржэканамплана. Гэта навуковыя даследаванні, планы, прагнозы. Там я выконваў абавязкі загадчыка аддзела. Працаваў-працаваў — як мне прапанавалі нарвежцы паехаць за іх кошт туды вучыцца.

**«НН»: І што, пагадзіліся?**

**ВА:** Нечакана было, але паехаў. Я там прабыў дзесьці два гады. Паехаў яшчэ з СССР, вярнуўся, а яго ўжо няма. Мне было вельмі цікава, бо я паглядзеў, як можна жыць, мы такога ўзроўню яшчэ і блізка не дасягнулі. Нам паказвалі, як жывуць людзі, знаёмілі з рэкламай, сацыяльнай тэмай, адукацыяй. Адна знаёмая пытаецца, ці ёсць розніца ў нашай і іхняй сістэме адукацыі. Кажу: канечне ж, ёсць. Там могуць нават з дурня зрабіць разумнага чалавека, а ў нас з разумнага могуць зрабіць дурня.




**«НН»: Пасля вы пайшлі ў бізнэс?**

**ВА:** Так. Адкрыў прадпрыемства «Асткам». Пайшло новае жыццё. Энтузіязму было — поўныя штаны. Усім хацелася нешта рабіць, чаго цяпер нам не хапае. У мяне быў буцік, былі магазіны, займаліся ганддем гароднііны, садавіны. Нават свой гатэльчык амаль што выкупілі, але якраз тады наступіў 1994 год. У мяне па Беларусі былі адкрытыя фірмы ў Гомелі, Жлобіне, Маладзечне, Нясвіжы, Валожыне. Агулам каля 20 фірм. Ад 1996 да 1999-я толькі і займаўся тым, што іх закрываў. Дастаткова шмат людзей працавала. Засталіся ў мяне толькі агенцтва па нерухомасці і турыстычная кампанія.

**«НН»: Чаму не атрымалася раскруціць бізнэс?**

**ВА:** Памяшканні, якія я здымаў, вельмі ўжо падабаліся людзям, што прыйшлі да ўлады. Помню такога Івана Іванавіча Ціцянкова ды іншых. Яны прыходзілі ў вайсковай амуніцыі. Я кажу, што ў мяне дамова арэнды яшчэ да пэўнага года, а мне адказваюць, што дамову гэтую я магу засунуць куды хачу, але праз месяц — з'язджай. Адным з такіх месцаў было цяперашняе казіно «Міленіум» насупраць Палаца спорту. Ну, што зробіш...

**«НН»: З Чыжом у 90-я не сутыкаліся?**

**ВА:** У 90-я ніколі. Упершыню сутыкнуўся, калі стаў сябрам Рады па развіцці прадпрымальніцтва. Шакуціна я ведаю даўней, ён таксама працаваў у камсамоле. У радзе ёсць людзі, якіх я вельмі паважаю — гэта Швец, Мартынаў з «Марка», «Савушкаў прадукт», Бойка. Але ў нас няма сяброўскіх адносін. Мы рэдка адзін аднаго бачым, дыстанцыя паміж намі застаецца.

Я не ведаю, якім чынам я трапіў у гэтую раду. Там узровень бізнэсоўцаў вельмі высокі, я ўсё ж прасцейшы. Калі ў мяне пытаюцца, то кажу, што яны паглядзелі-паглядзелі ды кажуць, што гэта за рада такая без Васіля. Гэта жарт такі, але я сапраўды не ведаю.

**«НН»: Вы маеце медаль Беларускай праваслаўнай царквы. За што?**

**ВА:** Я неяк прыехаў у Гомельскі раён, у мястэчка Гадзічава. Выдатны храм, але быў даведзены да ручкі. Там некалі жыла бабуля маёй жонкі. Я зайшоў у храм, пастаяў, паглядзеў. Пасля трошкі дапамагаў царкве. Я хрысціянін, але з павагай стаўлюся да людзей іншых канфесій.

**«НН»: Калі вы ўрэшце ўступілі ў БНФ?**

**ВА:** Сёлета. Ведаеце, я доўга разважаў. У мяне ёсць бізнэс, малыя дзеці. Чакаў, калі сын скончыць каледж. Цяпер ён ужо паступіў на палітолага-юрыста ў БДЭУ. Я трошкі баяўся. Не магу сказаць, што і цяпер я такі рашучы, смелы, але прыспеў час быць самім сабой.

На жаль, нашы чыноўнікі не разумеюць, што нічога добрага быць не можа, калі разам будуць збірацца толькі аднадумцы. Нейкі плюралізм павінен існаваць.

**«НН»: Чаму вы ідзяце на выбары?**

**ВА:** Я доўга цярпеў, і мне так усё абрыдла! Мы з 1999-га вялі дыялог, казалі, што ў нас нейкае прыватна-дзяржаўнае партнёрства. Ды ніколі яго не было і няма! Ты кажы, але цябе ніхто не чуе. Было шмат прапаноў, але ж на іх не звяртаюць увагу.

Я кажу, што прадпрымальнікам нельга замінаць. Яны павінны адчуваць нейкую свабоду. Нас рэгламентуюць чым толькі можна. Палякі чаму так падняліся? Бо ўлада не перашкаджала працаваць іх бізнэсу. У Польшчы людзі гараць, яны ўсе з агеньчыкам.

**«НН»: Ну я бачу, што вы таксама гарыце.**

**ВА:** Гару, ну. Але тут увесь час паліваюць халоднай вадой. З 1999 года я ўсё больш і больш маўчаў. Але людзі ўключаюць тэлевізар з адчуваннем: ну што яшчэ кепскага нам зробяць? Ужо жартуюць: давайце ўвядзём падаткі на выхад з кватэры, а на ўваход — двайны.

Думаюць, як толькі абабраць чалавека, але не думаюць, як даць зарабіць. Ды не чапайце вы чалавека год-два-тры. Вы думаеце, я іду на выбары, бо мне грошы трэба? Мне нічога не трэба. У мяне турыстычна-транспартнае прадпрыемства, дык я сам магу быць кіроўцам. У мяне няма ніякай кароны, але рукі-ногі апускаюцца, бо працаваць не даюць.

Я лічу, што сёння рэальна зрабіць, каб заробак у настаўнікаў і дактароў быў па 600—800 даляраў. У нас выдатная сістэма, што існуюць дзіцячыя садочкі, але іх трэба развіваць, а каб развіваць, то людзям патрэбна плаціць.

Як падняць эканоміку? Мінімізаваць падаткі найперш. Усё павінна залежаць ад аб'ёмаў. А яшчэ, каб у людзей з'явіўся энтузіязм, то патрэбна прыняць закон №1 аб прыватнай маёмасці. І нават зямля павінна быць у прыватнай уласнасці. Ну, хай чыгунка застаецца дзяржаўнай, «Беларуськалій», але нават трактарны мусіць быць у руках прыватніка. Не справы дзяржавы займацца бізнэсам.

Па-трэцяе, патрэбна на 70% скарачаць сілавікоў і чыноўнікаў. Калі ўсё гэта выканаць, то будуць грошы і на садкі, і на настаўнікаў, і лекары не будуць з'язджаць.

Мне вельмі не падабаецца, калі кажуць, што ў Расіі так, у ЗША так, у Польшчы так. Давайце рабіць так, каб з нас бралі прыклад.

А яшчэ, ведаеце, з нашай канфіскацыяй, выразаюць пад корань усё. Гэта няправільна. У нас у турмах колькі сядзіць людзей за «незаконную прадпрымальніцкую дзейнасць». І так у кожнай краіне людзей, што здольныя весці бізнэс, толькі 5—7%, а вы рэжаце курэй, якія здольныя несці залатыя яйкі.

**«НН»: Вы верыце ў перамогу?**

**ВА:** З мяне смяюцца многія, але я веру. Я заўсёды веру. Без веры я не магу. Жыццё на гэтым не сканчаецца, у мяне ёсць ідэі, што рабіць пасля. Я разумею, што могуць узнікнуць праблемы. Перш чым зрабіць гэты крок, я вельмі доўга думаў. Мне хочацца спадзявацца, што ў людзей, якія стварылі гэтую сістэму, таксама нешта мяняецца ў галовах і яны разумеюць, што так далей жыць нельга. Мы ж у такім балоце сядзім. Як казаў Леў Сапега: «Дзяржавай павінен кіраваць закон, а не асоба». Ніхто нічога разумнейшага не сказаў. Калі мы да гэтага не прыйдзем, то будзем заўсёды жыць як на вулкане.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**

# Самы загадкавы беларускі чыноўнік.

## Рэпартаж з радзімы старшыні КДБ.

Савецкая абрэвіятура «КГБ» атрымала вядомасць па ўсім свеце. Беларусь — адзіная краіна, якая пакінула спецслужбе ранейшую назву, прадэманстраваўшы непарушную сувязь традыцый з савецкімі чэкістамі. Пачынаючы з 2012 года Камітэтам дзяржаўнай бяспекі кіруе Валерый Вакульчык.

У рэйтынгу самых уплывовых беларусаў, складзеным летась экспертамі для «Нашай Нівы», ён займаў другое месца, услед за Аляксандрам Лукашэнкам.

Ягоныя пазіцыі надзвычай трывалыя, кіраўнік дзяржавы ніколі не дазваляў сабе публічную крытыку спецслужбіста.

На адной з сустрэч Лукашэнка даў кароткае распараджэнне адносна чыноўнікаў: «Калі нехта не выпраўляецца, кайданкі — і ў камеру. І няхай тады думаюць, як працаваць з народам». Выходзяць амаль бязмежныя паўнамоцтвы.


ДАР'Я БУРАКІНА, TUT.BY

### Замест апазіцыі КДБ заняўся бізнэсменамі

Сёлета Вакульчык пачаў імі карыстацца напоўніцу. Арышт, здавалася, непатапляльнага мільянера Юрыя Чыжа, бадай, самая заўважная і абмяркоўваемая падзея беларускага палітычнага жыцця.

Вакульчык, які дагэтуль рэдка быў у цэнтры ўвагі, выйшаў на авансцэну.

«Рашэнне [пра затрыманне Чыжа — Аўт.] прымаў я. Я выразна ведаю пазіцыю кіраўніка дзяржавы: недатыкальных няма». Вакульчык пераказваў падрабязнасці затрымання ў самых яркіх фарбах — маўляў, Чыж уцякаў на хуткасці 220 км/г у бок літоўскай мяжы. Расказаць сваю версію апальны мільянер зможа толькі ў судзе, і тое калі справу давядуць да канца. Знаёмыя Чыжа тым часам намякаюць, што ў таго нават не было шэнгенскай візы, каб сунуцца ў Еўрасаюз.

«Паляванне» на бізнэсменаў можна лічыць трэндам у часы кіравання Вакульчыка. Па падазрэнні ў нясплаце падаткаў затрымліваліся Яўген Баскін з «Сервалюкса», Алег Зухавіцкі з «ЗОВ-Мэбля», Аляксандр Паўлоўскі з «Біякома», Аляксандр Мураўёў з «Мотавела», браты Гільманы з «Консула», па падазрэнні ў махлярстве — бацька і сын Япрынцавы. Апошніх ужо паспелі асудзіць.


**Маці старшыні КДБ кіруе цяпер вясковай ветэранскай арганізацыяй.**

Папярэднікі Вакульчыка з такім жа імпэтам займаліся пераследам апазіцыянераў.

Тое, што КДБ пераключыўся на змаганне з карупцыяй і нясплатай падаткаў, ухваліў Лукашэнка. Маўляў, добра, што камітэт перанёс цэнтр цяжару на эканамічныя пытанні, бо гэты кірунак цяпер вельмі важны. «Іншыя сілавыя структры значна адстаюць у гэтым плане ад КДБ», — заявіў кіраўнік дзяржавы.

Тым больш што, па словах Лукашэнкі, дзяржаўнасці і бяспецы Беларусі — асноўнай сферы адказнасці Вакульчыка — нічога не пагражае.

Вядома ж, не абыходзіцца без адзінкавых палітычных спраў і цяпер. У розны час КДБ затрымліваў навапалачаніна Андрэя Гайдукова, ксяндза Уладзіслава Лазара і журналіста Аляксандра Алесіна. Усе гэтыя гісторыі мелі шпіёнскі падтэкст і, папраўдзе, былі фактычна спушчаныя на тармазах. Да калоніі давялі толькі Гайдукова, які атрымаў 1,5 года зняволення за спробу наладзіць супрацоўніцтва з замежнымі спецслужбамі, хоць спачатку гаворка ішла пра іншы артыкул Крымінальнага кодэкса, які прадугледжваў тэрмін да 15 гадоў.

### Добраахвотнікі

Ушчыльную Вакульчык заняўся яшчэ адной місіяй — КДБ разам з міліцыяй змагаецца з беларускімі добраахвотнікамі ва Украіне. Раней заканадаўства прадугледжвала пакаранне за «найміцтва», цяпер жа, каб патрапіць у калонію, дастаткова ваяваць за ідэю.

Каб захоўваць якую-ніякую юрыдычную працэдуру — усё ж закон зваротнай сілы не мае, добраахвотнікаў фармальна асуджаюць за іншыя злачынствы.

Прычым судоў над «дээнэраўцамі» пакуль не было чуваць, гучныя працэсы датычаць толькі тых, хто ваяваў за цэласнасць Украіны. Дзіўнага навапалацкага актывіста Тараса Аватарава пакаралі за перавозку зброі, віцебскага неанацыста «Тэрор-Машыну» затрымалі за раней здзейсненае хуліганства, а гомельскім добраахвотнікам інкрымінуюць махлярства з вырабам мэблі.

### У афіцыйнай біяграфіі няма нават месца нараджэння

Што ж гэта за чалавек, Валерый Вакульчык? Апошнія 30 гадоў ён працуе ў сілавых структурах. Такія людзі ніколі не расказваюць пра спецыфіку сваёй працы, звычайна маўчаць і іх калегі. У прэсе фактычна няма ніводнага інтэрв'ю галоўнага чэкіста краіны, ён толькі зрэдку дае кароткія каментары.

Калі чытаеш біяграфію Вакульчыка, складваецца ўражанне, што ён выпаў з жыцця ад пачатку 1980-х, калі паступіў у Харкаўскае гвардзейскае вышэйшае танкавае каманднае вучылішча, і аж но да 2008 года. Тады ён узначаліў новую спецслужбу — Аператыўна-аналітычны цэнтр пры прэзідэнце.

Адзіны артыкул пра шлях Вакульчыка да ўлады быў апублікаваны на апазіцыйным партале «Беларускі партызан» яшчэ ў 2011 годзе. Спецслужбіст быў апісаны надзвычай крытычна.

Паводле інфармацыі партала Паўла Шарамета, Вакульчык пачынаў кар'еру ў Брэсцкім памежным атрадзе.

Шарамет звязваў высокае прызначэнне Вакульчыка з сынам кіраўніка дзяржавы, Віктарам Лукашэнкам, што служыў сярод тых самых брэсцкіх памежнікаў.

Вакульчык — адзін з тых беларускіх топ-чыноўнікаў, у чыіх афіцыйных біяграфіях не ўказваецца месца нараджэння.

Хоць для аднавяскоўцаў спецслужбіста і для інтэрнэту таямніцы ў гэтым няма: яны з гатоўнасцю расказваюць пра дзяцінства Валера і незвычайную для савецкіх часоў гісторыю яго сям'і.

### Малая радзіма

Малая радзіма старшыні КДБ — аграгарадок Радастава за некалькі кіламетраў ад украінскай мяжы. Гэта прымежная зона з дзяржавай, якая знаходзіцца ў стане вайны, таму без дадатковай праверкі дакументаў суворымі памежнікамі з аўтаматамі не абысціся.

Радастава знаходзіцца на паўдарозе з Драгічына ў Дзівін — месца стварэння першых часцей Украінскай паўстанцкай арміі. Аднак у самім Радаставе ў вайну дамінавалі партызаны іншыя, савецкія.

Сяло даволі вялікае, у ім жыве каля 1300 чалавек, ёсць з дзясятак крамаў.

«У дамах парадак, рамонт добры. Але працы няма. Калгас невялікі, бульбы няма, буракоў няма, ільну не сеюць... Толькі даярка і механізатар працуюць. У лягсасе



**Валер Вакульчык**

Нарадзіўся 19 чэрвеня 1964 у вёсцы Радастава Драгічынскага раёна.

Скончыў Харкаўскае гвардзейскае вышэйшае танкавае каманднае вучылішча (1985), Вышэйшыя курсы ваеннай контрвыведкі КДБ СССР (1992) і Акадэмію кіравання (2011).

У 1985—1991 служыў ва Узброеных сілах, у 1991—2008 — у органах дзяржаўнай бяспекі.

Начальнік Аператыўна-аналітычнага цэнтра пры прэзідэнце (2008—2011), старшыня Следчага камітэта (2011—2012). З 2012 — старшыня Камітэта дзяржаўнай бяспекі.



**Радастава — вялікі аграгарадок за некалькі кіламетраў ад мяжы з Украінай.**

# Што кажуць землякі пра Вакульчыка?



Справу Чыжа Вакульчык назваў пытаннем прынцыпу.


Катэдж у «Драздах-2» Вакульчыкі дабудавалі летась.

яшчэ пару чалавек. І што яны цяпер, дармаеды? Ну якія тут дармаеды. Дзяцей гадуюць, неяк выжываюць. Многія катаюцца ў Расію на заробкі», — дае кароткую справаздачу пра вясковую рэальнасць колішняя суседка Вакульчыкаў.

Галоўная бяда ў Радаставе тая ж, што і ў іншых вёсках, — п'янства. Цікава, што гэта спалучаецца з рэлігійнасцю. Жыхары запэўніваюць, што ў праваслаўную царкву ходзяць і старыя, і маладыя. Ёсць нават нядзельная школка для дзетак. А вось піцідзясятнікі ў Радаставе не прыжыліся.

## Маці — настаўніца беларускай мовы

Выпускнікі радастаўскай школы з любоўю згадваюць пра маці Вакульчыка.

Марыя Аляксееўна — тыповая прадстаўніца вясковай інтэлігенцыі. Яна нарадзілася ў сям'і бібліятэкаркі. Дзяцінства правяла ў вёсцы Аляксеевічы, а школу скончала ў суседніх Брашэвічах (старая мясцовая назва, там говар вельмі своеасаблівы, — БрашэвЭчэ).

Марыя спрабавала паступіць у медыцынскі ўніверсітэт, але не прайшла конкурс. Давялося вучыцца на завочным гуманітарным факультэце Брэсцкага педагагічнага ўніверсітэта. Дзяўчына стала настаўніцай беларускай мовы і літаратуры. Выкладчыцкую працу яна пачала ў вёсцы Заверша, дзе і сустрэла свайго будучага мужа, разам з якім неўзабаве пераехала ў Радастава. Усе вышэйпералічаныя вёскі — гэта Драгічынскі раён.

## «Зараз хай бог прабачыць»

Пра асабістыя якасці Паўла Дзянісавіча Вакульчыка, бацькі спецслужбіста, вяскоўцы расказваюць нямнога, хоць памятаюць яго выдатна. У 1971—1986 гадах ён узначальваў мясцовы калгас «Чырвоны партызан» (цяпер СПК «Радастаўскае»), меў нават ордэн «Знак пашаны».

У сям'і гадаваліся трое дзяцей. Валер быў старэйшым, пасля нарадзіліся Галіна (па словах землякоў, скончыла Лінгвістычны, жыве ў Мінску) і Сяргей (жыве ў Кобрыне).

Вяскоўцы кажуць, што дзеці былі старанныя.

На бяду, у канцы 1980-х сям'я развалілася.

«Ён знайшоў маладую і з'ехаў з ёй у Кобрын», — расказвае сусед, не хаваючы свайго абурэння.

Кінуць працу і сям'ю дзеля кахання — нетыповая сітуацыя для шматдзетнага старшыні калгаса ў савецкія часы. Што стала дакладнай прычынай ягоных паводзінаў, вяскоўцы не тлумачаць.

«Бацька сышоў, калі дзеці былі школьнікамі. Ведаеце, як яны перажывалі?» — узгадвае іншая знаёмая сям'і. Гаворка ідзе пра малодшых дзяцей, Валер тады ўжо служыў у войску.

«Усе дзеці разам з мамай ездзілі ў Кобрын на пахаванне бацькі. Ведаеце, як яна сказала на развітанні? «Павел, я цябе прабачыла, зараз хай бог прабачыць», — цытуе Марыю Аляксееўну колішняя суседка.

## Пасля разводу раз'ехаліся ўсе

Дом у Радаставе, у якім нарадзіўся Вакульчык, стаіць дагэтуль, але ў ім ужо даўно жывуць іншыя людзі. Справа ў тым, што ён ад пачатку быў службовым. Калі ў 1986 годзе бацька сышоў з «Чырвонага партызана», давялося аддаваць новаму калгаснаму начальніку і хату.

Маці ў той час ужо працавала дырэктаркай школы. Яе перавялі на аналагічную пасаду ў вёску Ліпнікі, гэта некалькі кіламетраў ад Драгічына.

Пасля выхаду на пенсію Марыя Аляксееўна засталася жыць там. Яна ўзначаліла мясцовую ветэранскую арганізацыю. Драгічынская раёнка ўвесь час паведамляе пра поспехі яе ліпніцкай «пярвічкі».

«Яна нам як маці родная, — узгадваюць яе вучні з Радастава. — Прыязджае заўсёды на сустрэчы, вітаем яе з хлебам-соллю, такое вось прыцягненне».

«Як Вакульчык прыязджаў у Радастава на сустрэчу выпускнікоў, у хату нават не заходзіў», — расказвае гаспадар былога калгаснага дома, дзе вырас Валер.



У мясцовай школе вісіць стэнд з інфармацыяй пра славутага земляка.

## Жыве ў элітным раёне сярод чыноўнікаў

Інфармацыі пра асабістае жыццё Вакульчыка небагата.

Па словах мясцовых, жонка спецслужбіста таксама паходзіць з Радастава. Дачка Аксана на старонцы ў сацыяльных сетках адзначыла, што вучылася ў мінскім ліцэі №1 у раёне Паўднёвага Захаду, а пасля паступіла ў Эканамічны ўніверсітэт, які паспяхова скончыла некалькі гадоў таму.

Вакульчык узнік на беларускім палітычным гарызонце ў канцы 2000-х, калі ўзначаліў толькі што створаны Аператыўна-аналітычны цэнтр. Кар'ерны рост дазволіў атрымаць кааператыўную трохпакаёўку ў Сухараве. Кватэры ў гэтым доме пераважна будаваліся праз ільготныя крэдыты «Беларусбанка».

Неўзабаве Вакульчык як старшыня Следчага камітэта атрымаў 12 сотак зямлі ў Вяснінцы («Дразды-2») паводле рашэння Мінгарвыканкама №1219 ад 17 красавіка 2012 года.

Надзелы выдаваліся яму і яшчэ некальким дзясяткам прадстаўнікоў палітычнай эліты не ва ўласнасць, а па праве пажыццёвага спадчыннага валодання.

Летась старшыня КДБ дабудаваў свой двухпавярховы катэдж плошчай каля 315 м². Будынак не надта вылучаецца сярод суседніх дамоў сілавікоў.

**Адар'я Гуштын, Ягор Марціновіч**

# Стала вядома, колькі зарабляюць у КДБ

Парламенцкія выбары найчасцей цікавыя не столькі сваімі вынікамі, якія ў асноўным прадказальныя, а біяграфічнымі звесткамі кандыдатаў у дэпутаты. Гэта рэдкая магчымасць раскрыць таямніцу, колькі афіцыйна зарабляюць дзяржаўныя чыноўнікі і сілавікі, бо ўсе прэтэндэнты мусяць публікаваць дэкларацыю аб даходах гадавой даўніны.

Сёлета кандыдатамі зарэгістраваныя адразу двое чалавек, месца працы якіх — Камітэт дзяржаўнай бяспекі (КДБ).

Па гомельскай Юбілейнай акрузе №31 балатуецца начальнік Інстытута нацыянальнай бяспекі Іван Корж.

У свой час Корж узначальваў Гомельскае і Гродзенскае аддзяленні КДБ. Гомельскі этап працы Каржа запомніўся шматлікімі спробамі вярбоўкі апазіцыянераў. Ні да, ні пасля ў прэсу не праточвалася столькі падобнай інфармацыі.

Калі ў Гомельскай вобласці разгаралася «паляўнічая справа» супраць міліцыянтаў, то былі праведзеныяператрусы ў журналістак: Калінкінай, Коктыш, Радзінай, Халіп.Ператрусы праводзіліся па справе «абразы Івана Каржа».

У Гродзенскай вобласці Іван Корж таксама адзначыўся. У час яго кіраўніцтва быў арыштаваны журналіст Андрэй Пачобут за абразу гонару Аляксандра Лукашэнкі. Таксама менавіта Гродзенскае ўпраўленне КДБ ініцыявала працэс, у якім экстрэмісцкім быў прызнаны альбом «Прэс-фота».

Цяпер Каржа адпраўляюць у парламент. Даходы Івана Каржа летась склалі 338 мільёнаў рублёў. Гэта значыць, што ў сярэднім у месяц ён меў 28 мільёнаў.

Супернікам Івана Каржа па акрузе быў пенсіянер міліцыі, сябар Аб'яднанай грамадзянскай партыі Уладзімір Няпомнячы. Але ён зняў сваю кандыдатуру перад галасаваннем, бо ў падліковыя камісіі не ўключылі ніводнага вылучэнца ад АГП.

Яшчэ адзін кадэбіст вылучаецца ў дэпутаты па Мінскай вобласці. У Бярэзінскай акрузе №61 кандыдатам зарэгістраваны намеснік начальніка ўпраўлення КДБ па Мінску і Мінскай вобласці Пятро Атрошчанка.

Ягоны даход летась склаў больш за 288 мільёнаў рублёў, гэта значыць, у сярэднім у месяц ён меў 24 мільёны рублёў.

Канкурэнты Атрошчанкі мелі летась не больш за 49 мільёнаў рублёў — гэта значыць, у сярэднім у месяц каля 4 мільёнаў рублёў.

**Зміцер Панкавец**

# «Вайна за незалежнасць пачынаецца з першага стрэлу»

Большасць беларусаў дагэтуль уяўляе сабе пачатак вайны так, як паказвае яго савецкі серыял «Дзяржаўная мяжа»: памежнікі ляжаць у «сакрэце» на беразе Буга ці Нёмана і бачаць, як у тумане на іншым беразе варожыя жаўнеры садзяцца ў лодкі...

Сучасная вайна, як паказалі Крым і Данбас, можа пачацца па зусім іншым сцэнары. Напрыклад, з захопу спецназам будынкаў у сталіцы і нейтралізацыі палітычнага кіраўніцтва ці з масіраванай прапагандысцкай кампаніі. На ўсходзе ў вайсковыя часці могуць з'явіцца ўзброеныя «зялёныя чалавечкі» без апазнавальных знакаў, але са зброяй суседняй краіны.

Як тады будуць дзейнічаць беларускія афіцэры? Якой павінна быць беларуская дзяржаўная палітыка, каб зрабіць прыняцце рашэнняў па абароне краіны хуткім і эфектыўным?

### Крымская катастрофа

Здача Украінай без бою тэрыторыі Крыма і вялікіх запасаў вайсковай тэхнікі і боепрыпасаў у 2014 годзе была абумоўленая некалькімі фактарамі: большасць насельніцтва паўвострава знаходзілася пад уплывам расійскіх тэлеканалаў, ва Украіне працягваўся палітычны крызіс, сістэма кіравання Узброенымі сіламі Украіны была дэзарганізаваная, а значная частка вайскоўцаў адчувала сябе «часткай савецкай арміі», а не ўкраінскім войскам.

«У Крыме значная частка вайскоўслужбоўцаў была жыхарамі паўвострава і лічыла, што ў складзе Расіі ім будзе палітычна і эканамічна выгадней жыць. Нават у выпадку загаду наўрад ці яны б сталі страляць», — лічыць беларускі вайсковы аглядальнік Аляксандр Алесін.

Тое самае піша ў сваёй кнізе-расследаванні ўкраінскі журналіст Тарас Беразавец.

Многія афіцэры, якія вучыліся разам з расійскімі афіцэрамі, у тым ліку на высокіх пасадах, пабаяліся без загаду па ўласнай ініцыятыве пачаць узброены адпор расійскім «зялёным чалавечкам». Яны ківалі на адсутнасць загадаў з Кіева, а Рада бяспекі Украіны таксама не дала ніякіх указанняў, дадае эксперт, бо ад эскалацыі яе засцерагалі Вашынгтон і Берлін.


ФОТА ІГАРА МАЦВЕЕВА, FACEBOOK.COM.

**Прысягае беларускі памежнік.**

### Пастка кантрактаў

Хоць у Беларусі сярод ліберальных колаў грамадства пашырана меркаванне пра перавагу чыста кантрактнай арміі над прызыўной, Украіна падчас вайны вярнулася да прызыву, і менавіта прызыўная армія, пры ўсіх праблемах з падрыхтоўкай, забеспячэннем і неаднолькавым узроўнем матывацыі асабавага складу, прадэманстравала высокі ўзровень трываласці нават пасля значных стратаў.

У Крыме якраз ажыццёўлены былымі прэм'ерам Цімашэнка і прэзідэнтам Януковічам пераход на кантрактную сістэму сыграў супраць нацыянальных інтарэсаў.

«Пераход да кантрактнага войска аслабіў украінскую групоўку на паўвыспе. Пры кантракце перавагу заўсёды будуць мець мясцовыя, бо ім ёсць дзе жыць. Камандаванню часці не трэба думаць, дзе іх размясціць, як ім плаціць за арэнду жытла», — адзначае Андрэй Паротнікаў, кіраўнік аналітычнага праекта *Belarus Security Blog*.

Адпаведна, вялікая частка жыхароў Крыма ў шэрагах украінскай арміі была гэтак жа раскладзена расійскай прапагандай, як і цывільныя. І вядома, яны не хацелі, каб месца, дзе яны жылі, стала полем бітвы.

Украінскія вайскоўцы ў большасці не выконвалі нават стандартных патрабаванняў статутаў пра гарнізонную і вартавую службу, калі іх часці былі заблакаваныя расійскімі падраздзяленнямі.



**Дацкія маракі і салдаты гітлераўскай арміі братаюцца ў красавіку 1940 года. Як лёгка было іх падмануць.**

### Успомнім Данію

Тактыка Расіі пры захопе Крыма не з'яўляецца нейкай унікальнай у еўрапейскай гісторыі. Гэтак, 9 красавіка 1940 года Нямеччына фактычна за адзін дзень захапіла Данію. Ужо ў 10 гадзін раніцы таго дня ўрад Даніі звярнуўся да народа з заклікам захоўваць спакой і не супраціўляцца. У выніку супраціўляліся толькі асобныя часці. Тады загінула 26 дацкіх жаўнераў і 20 немцаў.

«Гэта не выключна ўкраінская з'ява. Тое самае было ў Чэхаславаччыне ў 1938, 1939 і ў 1968 годзе. Ужыванне зброі — заўсёды сітуацыя стрэсу. Псіхалагічна большасці людзей, каб пачаць страляць, трэба мець нейкі падмурак, канкрэтныя адказы на пытанні, чаму яны павінны паміраць і забіваць. Там, дзе нацыянальная свядомасць размытая, ці там, дзе агрэсар дзейнічае асцярожна, няма канкрэтнай пазіцыі палітычнага кіраўніцтва, такі варыянт цалкам магчымы», — кажа Андрэй Паротнікаў.



**Аўстрыйскія пехацінцы — яшчэ адны «нейтралы» з развітай сістэмай рэзерву і тэрытарыяльных войскаў.**

### Усё трымаецца на камандзе

У гэтым сэнсе крытычна важным для псіхалогіі вайскоўца з'яўляецца загад камандзіра — рэч, якую забаронена абмяркоўваць, і невыкананне якога з'яўляецца вайсковым злачынствам.

«Армія — іерархічная сістэма, у якой усё трымаецца на камандзе, на субардынацыі. Няма каманды — вайскоўслужбовец не ведае, што яму рабіць. Калі ён пачынае ваяваць без каманды, ён робіцца партызанам. А калі заўтра палітыкі скажуць, што нельга было страляць?» — адзначае Аляксандр Алесін.

#### Абарона гарадоў

У якасці дадатковай меры можна распрацаваць і правесці вучэнні па абароне беларускіх гарадоў, лічыць Андрэй Паротнікаў.

«Сучасная вайна — вайна гарадоў. Каб узяць нават неўмацаваны горад, трэба патраціць шмат крыві. Таму дэманстратыўная распрацоўка планаў умацавання і абароны гарадоў будзе мець псіхалагічны эфект для мабілізацыі насельніцтва і папярэджання праціўніка, што кошт захопу будзе для яго велізарным», — кажа эксперт.

Выдаткі на такія войскі могуць быць значна меншымі, чым на часці звычайнай арміі. Байцоў не трэба ўвесь час трымаць у казармах, аднак такія падраздзяленні могуць рэзка падвысіць абараназдольнасць краіны, калі іх стварэнне не будзе фармальнасцю.

#### Права на валоданне аўтаматычнай стралковай зброяй

Беларуская дзяржава можа пашырыць права на валоданне аўтаматычнай стралковай зброяй для тых грамадзян, якія здольныя добраахвотна ўдзельнічаць у яе абароне, мяркуе Андрэй Паратнікаў.



Фінскія жаўнеры падчас Зімовай вайны.

«Калі ў цябе, умоўна кажучы, некалькі дзясяткаў ці сотняў тысяч падрыхтаваных людзей, якія ў прынцыпе маюць матывацыю на дзеянне, гэта будзе моцным стрымліваючым фактарам. Бо нейтралізаваць іерархічную структуру, напрыклад, войска, якое кіруецца загадамі палітычнага кіраўніцтва, значна прасцей, чым некалькі соцень матываваных падраздзяленняў, якія раскіданыя па ўсёй краіне», — лічыць эксперт.

У Фінляндыі першыя 30 год незалежнасці гэтую ролю выконваў Шуцкор — добраахвотніцкая арганізацыя, якая дзейнічала пад кантролем дзяржавы.

Армія давала Шуцкору інструктараў і камандзіраў з ліку афіцэраў, там жа праходзіла гадаванне моладзі і дарослых, якія часта прыходзілі са сваёй зброяй, у нацыянальным духу. Адначасова падраздзяленне Шуцкора ў сваім раёне праводзіла актыўную грамадскую, адукацыйную і дабрачынную дзейнасць, з'яўляючыся яшчэ адной формай кансалідацыі мясцовай супольнасці.

Але ці гатовыя беларускія ўлады даць зброю людзям, якія хочуць ваяваць за беларускую дзяржаўнасць?

Трохі парадаксальна, але, хоць кожны год у Беларусі праслаўляюць «усенародны» партызанскі рух падчас Другой сусветнай вайны, улады не настолькі давяраюць гэтаму самаму народу, каб яго ўзброіць.

У стрэсавай сітуацыі чалавек інстынктыўна шукае таго, хто возьме на сябе адказнасць за пачатак рашучых дзеянняў — такім чалавекам павінен быць галоўнакамандуючы, генерал, старшы афіцэр.

Да таго ж палітычнае кіраўніцтва краіны павінна рэгулярна агучваць сваю афіцыйную пазіцыю адносна абароны незалежнасці, павінна дзейнічаць і рэгулярна праўрацца сістэма перадачы ўлады на той выпадак, калі той ці іншы з кіраўнікоў дзяржавы будзе не ў стане выконваць абавязкі.

### Беларускіх памежнікаў на ўсходняй мяжы няма, хоць расійскія — прысутнічаюць

Дададмо, што, як і Украіна ў Крыме, Беларусь цяпер кантралюе не ўсе свае межы: беларускіх памежнікаў на ўсходняй мяжы няма, хоць расійскія — прысутнічаюць.

«Краіна павінна кантраляваць усе свае межы. Мы можам казаць пра ступень жорсткасці гэтага кантролю, але афіцыйныя прадстаўнікі дзяржавы са зброяй на межах павінны прысутнічаць. Вайна пачынаецца з першага стрэлу, і калі гэты стрэл прагучыць, то шмат для якіх людзей гэта здыме пытанні і сумневы», — кажа Андрэй Паротнікаў.

### «Баявы кот ёсць баявой адзінкай сам па сабе»

Але што рабіць, калі начальства адсутнічае, нейтралізаванае, перабегла да праціўніка, як гэта было з Чарнаморскім флотам Украіны ў Крыме?

У вядомай аповесці братоў Стругацкіх «Хлопец з пекла» менавіта словы, вынесеныя ў падзагаловак, былі зафіксаваныя ў статуце элітнага падраздзялення байцоў, адзін з курсантаў якога трапляе на іншую планету. Статут падкрэслівае, што нават адзін баец павінен працягваць бой і браць ініцыятыву ў свае рукі, каб дамагчыся перамогі.

Патэнцыйнага захопніка найбольш будзе стрымліваць сітуацыя, пры якой любы беларускі вартавы можа зрабіць па захопніку той першы стрэл. Дакументы, якія рэгламентуюць ужыванне зброі, павінны быць дакладнымі і стаць часткай штодзённага парадку заступлення на пост.

«Людзі павінны разумець свае правы і абавязкі. Але мы нацыя даволі нігілістычная ў прававой сферы, сам факт наяўнасці ці адсутнасці чагосьці ў заканадаўстве ў крытычнай сітуацыі наўрад ці будзе на нешта ўплываць, рашэнне будзе прымаць чалавек сам сабою», — лічыць Андрэй Паротнікаў.

З іншага боку, шэраг кароткіх і зразумелых, завучаных на памяць фраз, якія патрабуюць пачаць агонь па любым узброеным праціўніку, які знаходзіцца на беларускай зямлі, можа стаць псіхалагічным інструментам, які палегчыць беларускім афіцэрам прыняцце рашэнняў.

Яшчэ адным фактарам, які ўзмоцніць рашучасць жаўнера, мае быць падтрыманне ў належным стане і рэгулярныя вучэнні сіл грамадзянскай абароны краіны — баец павінен быць перакананы ў тым, што ён можа даверыць дзяржаве апеку над сваёй сям'ёй.

### Найлепшая абарона

У дадзеным выпадку размова не пра наступленне, а пра тое, каб пераканаць праціўніка нават не спрабаваць пачынаць супраць нас агрэсію.

Калісьці тэарэтыкі ваеннамарской стратэгіі распрацавалі тэрмін *fleet in being* — флота, які кантралюе акваторыю самім фактам свайго існавання, нават не пакідаючы базы. Такой жа сілай, якая абароніць Беларусь самім фактам свайго існавання, дзякуючы высокаму ўзроўню матывацыі, баявой падрыхтоўкі і добраму ўзбраенню, можа быць і беларуская армія.

І тут важныя і рэгулярныя вучэнні, і закуп сучаснай тэхнікі, і павелічэнне колькасці арміі — усё гэта не проста, «можа быць, абароніць краіну калі-небудзь у будучыні». Гэтая дзейнасць — салдацкі пот на трэніроўках, бяссонныя ночы афіцэраў, дысцыпліна генералаў — у пэўнай ступені абараняюць дабрабыт Беларусі ўжо цяпер.

Гатоўнасць біцца за сваю дзяржаву — яна павінна быць, і яе трэба дэманстраваць.

Аднак галоўнае, пра патрэбу чаго кажуць эксперты, — гэта нацыянальная свядомасць беларускага грамадства.

Неабходна змяніць падручнікі так, каб яны канцэнтравалі ўвагу на той карысці, якую дае народу незалежная ўласная дзяржаўнасць, і на тых бедах, якія нясе адсутнасць сваёй дзяржавы. Эфектыўнасць абароны краіны ў значнай ступені таксама залежыць ад таго, наколькі актыўным грамадзянінам з'яўляецца беларускі жаўнер і афіцэр, наколькі высокая яго прававая культура.

Аляксандр Алесін лічыць, што пабудаваць менавіта масавую агульнанацыянальную сістэму абароны, даверыць грамадзянам зброю можна будзе менавіта пасля выканання гэтых умоў.

**Аляксандр Гелагаеў**

**Рэзерв і тэрытарыяльныя войскі**

Адносна недарагім, але вельмі эфектыўным сродкам абароны могуць быць войскі рэзерву і тэрытарыяльнай абароны.

Першыя, як брыгады «мабільнага апалчэння» ў нейтральнай Аўстрыі, могуць фармавацца як паўнацэнныя механізаваныя і добра ўзброеныя часці арміі пад камандаваннем прафесійных афіцэраў.

Другія, як у Нарвегіі, могуць не толькі займацца задачамі грамадзянскай абароны і выконваць ахоўныя функцыі вакол важных аб'ектаў, але і стаць высокаэфектыўнымі дыверсійнымі аддзеламі, якія дзейнічаюць на знаёмай тэрыторыі ў тыле і на флангах ворага.



Байцы нарвежскай тэрытарыяльнай абароны.

## «Любое паведамленне пра капітуляцыю Швейцарыі лічыць варожай прапагандай»

Генерал Анры Гізан меў праварадыкальныя перакананні, аднак у 1939 годзе менавіта яму даверылі абарону Швейцарыі ад знешняга ворага — перш за ўсё, нацысцкай Нямеччыны.

Многія афіцэры сімпатызавалі ультраправым.

Летам 1940 года, калі была разгромленая Францыя, генерал сабраў усіх афіцэраў на гістарычнай гары Рутлі, дзе, паводле сярэднявечных летапісаў, упершыню сустрэліся прадстаўнікі швейцарскіх кантонаў і пакляліся трымацца разам. Генерал звярнуўся да падначаленых з прамовай, у якой цвёрда падкрэсліў, што Швейцарыя ніколі не капітулюе перад знешнім ворагам і будзе да канца біцца, каб абараніць свае правы на незалежнае існаванне.

Потым былі выдадзены загады: 1) кожны жаўнер, нават калі застаўся адзін, павінен абараняць сваю пазіцыю да апошняга патрона, а потым біцца халодный зброяй, 2) любое паведамленне пра капітуляцыю Швейцарыі лічыць варожай прапагандай, працягваць барацьбу да смерці ці перамогі.

Нямецкі генеральны штаб распрацаваў план акупацыі Швейцарыі, ужо атачанай з усіх бакоў Германіяй і яе саюзнікам Італіяй, але атакаваць невялікую краіну з масава ўзброеным насельніцтвам, рашуча гатовым біцца за незалежнасць, Гітлер так і не рашыўся.

**АГ**

**Досвед Швейцарыі**

Аўтаномнай сістэмай абароны называюць вайсковыя арганізацыі і захады ў сферы абароны нейтральных пазаблокавых краін, найперш Швейцарыі, якая нават у ААН увайшла зусім нядаўна — у 2002 годзе.

У значнай ступені аўтаномная абарона Швейцарыі трымаецца на міліцыйнай сістэме камплектавання арміі. Служаць амаль усе мужчыны, прычым пасля тэрміновай службы на зборы выклікаюць яшчэ 10 наступных гадоў.

Жанчыны могуць служыць добраахвотна і прэтэндаваць на выкананне любых функцый — у тым ліку ў баявых часцях.

У выніку армія краіны з насельніцтвам у 7 млн чалавек налічвае 140 тысяч байцоў — прыкладна ў 2,5 раза больш, чым у 9-мільённай Беларусі. Гэта кошт нейтралітэту — і, адпаведна, адсутнасці саюзнікаў.

**Са Статута гарнізоннай і вартавой службы Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь:**

«Вартавы павінен ужыць фізічную сілу, спецыяльныя сродкі, зброю без папярэджання ў выпадку яўнага нападу на сябе ці на аб'ект, які ён ахоўвае».

# Сяргей Нікалюк: Або Беларусь стане Захадам, або яе не стане

**Як не стала тысяч пакінутых вёсак, так можа знікнуць і наша дзяржава, засцерагае выдатны беларускі сацыёлаг.**




У нашай сістэме дэпутаты не маюць паўнамоцтваў. Але гэта не значыць, што Аляксандр Лукашэнка можа без іх абысціся. У свеце дагэтуль не існуе альтэрнатывы дэмакратыі — нават такія адыёзныя рэжымы, як паўночнакарэйскі, дадаюць да назвы краіны слова «дэмакратычная».

У Беларусі дэмакратыя таксама імітацыйная. Улады выбудавалі цэлую сістэму для захавання «стабільнасці», пад ёй разумеецца незмяняльнасць эліт.

І выбары служаць гэтай мэце. Сістэма стварыла шмат ліній абароны, каб ніякай альтэрнатывы не з'явілася. Першая з іх — гэта самі выбарчыя камісіі.

У гэтай першай лініі сядзяць 70 тысяч чалавек. Але нават калі правраць яе, то там наступная, дзе стаяць з танкамі і аўтаматамі. Звяртаю ўвагу, што тыя 70 тысяч у першай лініі — гэта не марсіяне, а нашыя суграмадзяне, настаўнікі. Гэтым людзям Алексіевіч дала трапную назву «чырвоных чалавекаў». Гэта не дурныя людзі — гэта людзі, якія не могуць выжыць без дапамогі дзяржавы. Як у тым вершы: «Мне ўчора далі свабоду, а што я буду з ёй рабіць?».

Свабода — гэта персанальная адказнасць. А як з ёй жыць? Калі няма сучаснай прафесіі, а ёсць узрост, крэдыты, гэтак далей. Кінь гэтых людзей сёння ў рынкавую эканоміку — яны загінуць. Таму ісці да іх з лозунгамі «За свабоду» — гэта толькі адрынаць іх ад сябе. А сённяшняя дзяржава ім хоць нешта гарантуе. Скажам, прадукцыя вялікай колькасці беларускіх заводаў сёння не запатрабавана, але яны функцыянуюць, людзям плацяць заробкі. Пры рынку гэтыя людзі апынуліся б на вуліцы.

Не думаю, што на гэтых выбарах адбудзецца нейкі ўздым — яны праходзяць пры мінімальнай цікавасці народа. Рэч у тым, што і ўладам няма чым хваліцца сёлета. Але і пратэставы электарат не звязвае парламенцкія выбары з магчымасцю штосьці змяніць.

## Што рабіць апазіцыі

Калі грамадства спіць, то супрацьстаянне ўлады і апазіцыі не грае ніякай ролі. Ленін гэта добра разумеў і 20 гадоў хадзіў у швейцарскую бібліятэку — гэта была ягоная палітычная работа, якая спатрэбілася пры з'яўленні рэвалюцыйнай сітуацыі.

Некаторыя кажуць пра перамены як пра фініш і перамогу грамадства, але гэта не так. Гэта толькі старт — трэба не толькі знайсці сілы адабраць уладу, але і мазгі, каб змяніць сістэму. І вось тут пачынаецца праблема, і як гэта бывае, бачым ва Украіне: сілы ёсць, а інтэлекту бракуе. Так было і калі прыйшоў Ючшанка пасля Майдану — сістэма не змянілася. Мадэрн сустракаецца з традыцыяй. Што з гэтым рабіць? Можна звярнуцца да гісторыі ранейшых рэвалюцый, якія ламалі парадкі ў еўрапейскіх краінах. І тут мы зразумеем, што там для гэтага не патрэбны быў асобны рэвалюцыянер, кшталту Леніна ці Чэ Гевары — там трансфармавалася само грамадства, бо вырасла новае саслоўе — трэцяе, якое прагла рынку і законаў. А ў нас цяпер ёсць трэцяе саслоўе, ёсць крытычная маса?

Калі ў мяне малады чалавек пытаецца, што ён можа зрабіць для сучаснай Беларусі, я яму кажу: вучыся, рабіся спецыялістам! Адна справа — крычаць правільныя лозунгі, а другая — насамрэч быць спецыялістам, які будзе будаваць новую Беларусь, бо новая Беларусь мусіць узнікнуць эканамічна.

Апазіцыя сёння можа пераўзыходзіць уладу толькі ў інтэлекце. Не ў рэсурсах — у розуме. Трэба стаць інтэлектуальным цэнтрам, гэта тое, чым займаўся Ленін.

Дзяржаўныя інтэлектуальныя цэнтры публічна могуць толькі падтрымліваць афіцыйную лінію, але людзі ж не дурні. Дык пакажыце ім, што вы — разумныя, а вашыя палітычныя канкурэнты — не. Тады ёсць імавернасць, што 60% павераць у ідэі супрацьлеглага боку.

## У чым праблема ўлады?

Галоўная праблема — спыненне росту даходаў людзей. Стабільны рост працягваўся да 2010 года. Пасля для забеспячэння «святой» лічбы ў 500 долараў, для перамогі на выбарах, даходы нацягнулі — і эканоміка ўпала праз год. А апошнія гады заробкі падалі, пенсіі стаялі на месцы, а задачы падняць іх ужо і не стаяла, бо няма рэзерваў.

Замест ранейшага «сацыяльнага кантракта» ў 2014 годзе з'явіўся новы — лаяльнасць у абмен на мірнае неба. Гэта час вайны на Данбасе, эйфарыі абалваненага прапагандай насельніцтва Расіі. Пачытайце тэкст «Малітвы за Беларусь» — падзеі, якая, насуперак завядзёнцы, прайшла перад выбарамі замест Усебеларускага сходу — здаецца, што вось-вось бомбы пачнуць падаць. Але і гэта ўжо прайшло. І сёння ў праўладных кандыдатаў на гэтых выбарах няма ніякіх уцямных праграм. У нармальнай сітуацыі палітычныя эліты павінны паказваць людзям вобраз будучыні, тлумачыць, да чаго мы ідзём — пры Саюзе быў камунізм, а сёння і яго няма. Замест гэтага нам увесь час нагадваюць пра поспехі мінулага — перамогу ў вайне і праблемы 90-х. У гэтым сэнсе Лукашэнка — закладнік сваіх перамог (такое тыпова для аўтарытарных лідараў). Ён памятае, як жылося пасля развалу СССР, калі людзі зараблялі па 30 долараў. Наступныя падзеі ён расцэньвае як безумоўны поспех і звязвае з тым, што ён усё рабіў правільна. Ён перакананы, што нічога не змянілася — ну, расійскі рынак там упаў, нафта, але мы ж усё рабілі правільна, трэба і працягваць. Вось таму і не будзе рэформаў, бо ў ягоным разуменні памылак няма, і ўсё некалі павінна вярнуцца на сваё месца. Але ў гэты час свет ідзе наперад.

Чытаеш навіны, а там то выпрабаванні беспілотных грузавікоў, то *Google* і *Apple*, то падрыхтоўка палёту на Марс... Свет жыве іншым, а мы дзе ў гэтым працэсе?

Хтосьці скажа, што ў нас ёсць Парк высокіх тэхналогій. Добра, але колькі працэнтаў насельніцтва ў ім працуе?

## Чаму нашы заходнія суседзі выспелі?

І калі ўлады кажуць, што мы самі не гатовыя да рынку, то часткова гэта праўда, але што вы за гэты час зрабілі для таго, каб дапамагчы тым, хто ўжо гатовы для пераходу? Чаму нашы заходнія суседзі выспелі для рынку, а мы — не?

Там, дзе ёсць ратушы — там Захад. У нас яны ёсць, але заходняга чалавека няма, бо пасля заняволення з боку Расіі мы патрапілі пад уплыў рускай цывілізацыі. А што нам вядома пра яе? Расійская цывілізацыя — гэта цывілізацыя даганяючай мадэрнізацыі, яна не стварае, а пераймае. Упершыню гэта праявілася ў часы Івана Жахлівага, калі маскоўскія эліты зразумелі, што саступаюць у развіцці. Тады для іх гэта выражалася ў ваенных паразах, стала ясна: калі не пачнём пераймаць, то канец. Прычым канец не селяніну, а эліце.

Наступную спробу нагнаць Еўропу Расія зрабіла пры Пятры І.

Трэцяя спроба была пры Сталіне — з калектывізацыяй, калі ў народа забіралі хлеб і мянялі яго на заходнія станкі і інтэлект.

Кожны раз даганялі развіты свет цаной агромністых ахвяр. На сёння гэтая сістэма ўжо сябе вычарпала.

Я перакананы, што расійская цывілізацыя — а мы сёння да яе адносімся — памірае. Пуцін ці Сідараў — няважна, хто там будзе кіраваць.

Скажам, за мінулы год, згодна з САІУ (Сусветнай арганізацыяй інтэлектуальнай уласнасці), амерыканцы падалі 54 тысячы заявак на патэнты, Расія — каля 800. А сумарна ў свеце недзе 200 з лішкам тысяч. Гэта цэлая структура вынаходніцтваў, якая рухае развітыя краіны наперад. Быў такі навуковец Медысан, які правёў даследаванне і высветліў, што 200 гадоў таму розніца паміж адсталымі і развітымі краінамі ў ВУП складала чатыры разы, а сёння — сто! І ён падзяліў краіны на тры часткі: серадняків, перадавыя і адсталыя. Дык вось, склад гэтых груп не змяняецца! Толькі Японія, Сінгапур, Карэя, Ганконг, іншыя праскокнулі ў першую групу.

Гэта ўсё кажа, што альбо мы станем Захадам, альбо нас не будзе ўвогуле, як кінутай вёскі. У мяне трое дзяцей, і яны не жывуць у Беларусі. А колькі такіх? Лічба даходзіць да мільёна. Каб не згубіць усё, нам трэба змяніць цывілізацыйную ідэнтычнасць. У Расіі з гэтым праблема, а ў нас ёсць падмурак Вялікага Княства Літоўскага і еўрапейскага мінулага — мы падымем сцяг, што мы і былі еўрапейцамі, мы не шукаем новых шляхоў, мы проста вяртаемся да каранёў.

**Запісаў Арцём Гарбацэвіч**

**Сяргей Нікалюк**

сацыёлаг. Нарадзіўся ў 1952 у Кастраме, Расія. Ад 1974, пасля заканчэння хімічнага факультэта БДУ, працаваў у электроннай прамысловасці. Ад 1990 займаецца сацыяльным і палітычным аналізам.

**Рэйтынг апазіцыі і жонка Нікалюка**

Рэйтынг апазіцыі рэзка расце перад любымі прэзідэнцкімі выбарамі. Туды дадаюцца пратэставыя галасы. Я заўжды казаў, што можна высунуць у прэзідэнты хаця б маю жонку — галоўнае, каб яна пагадзілася — і яна набярэ 30%. Але пры ўмове, што ад апазіцыі яна будзе адна!

# Рабы — гэта мы!

Жыццё імкліва паляпшаецца: жылі добра, сталі жыць яшчэ лепей, хутка нам будзе зусім добра. Вось да гэтага трэба сур’ёзна падрыхтавацца. Гэта вам не Сігалаў з Шагаламі або з Дзепард’ё сустракаць: народу ўсё болей, нараджальнасць усё вышэйшая, паспяховасць у школе — таксама, цэнтралізаванае тэсціраванне з інфармацыйнымі шпаргалкамі ідзе па стабальным выніку... А дайце гэтым «бальнікам» просты слоўнікавы дыктант, ды і напішуць (разам з рэпетытарамі, якім некаторыя газеты робяць рэкламу), бо да гэтага часу блытаюць «весёлую компанію» з «предвыборной кампаніей», што, па сутнасці, адно і тое ж.

Мне вось проста цікава, калі сяму-таму надакучыць штодзённая пахвальба? Найлепшыя немаўляты з акушэрамі. Найлепшыя на ўсю галаву вучні з настаўнікамі, што сядзяць на дрэвах, бы малпы, каб да аб’езду найсвятлейшых асоб сухія сукі спілаваць. Хто не хоча лезці на дрэва, таму няма месца ў шэрагах белінтэлігенцыі, якая запісвае ў графе «адукацыі» — «вышейшая».

Самыя прыгожыя жанчыны (160 па вертыкалі, 160 па гарызанталі, 160 кг жывой вагі, але ў ірваных джынсах на клубах у 160 см, з такой жа таліяй!).

Куды ні кінь — паўсюль адно і тое ж.

Больш за сотню 110-гадовых у квітнеючай краіне, а ўжо 100-гадовых больш за тысячу пераваліла. Таварышы! Статысты! Яны, стагадовыя, ужо ў 85 не памяталі, куды лыжку з маннай кашай сунуць. А дакументы ва ўсіх «немец спаліў», у якую вайну — не памятаюць. Па знешнім аглядзе дактары давалі даведкі: дык у нас любая дзеўка з вёскі ў 19 выглядае на 35!

Я пакідаю ў спакоі надвор’е, прыроду, адсутнасць аскепкаў мін і снарадаў у кефіры з пацукамі і мышамі, чэсна-празрыстыя выбары, актыўнасць мас на выбарчых участках ад усходу да заходу. Няхай паэты пішуць, што хочуць, а я скажу ў прозе: «Хопіць маніць — гідка слухаць!» І багаты ўраджай у кавуновых Драздах няхай замілоўвае ўладальнікаў гэтых квітнеючых плантацый.

Дзякуй за «прыбаўку» да заробку настаўнікам пры максімальнай загружанасці (заняволенне неўласцівымі для настаўніка абавязкамі). Няхай прачытаюць тыя, хто шчодрай рукой дадасць нам 10 рублёў (у самым лепшым выпадку!).

Я, Карэліна Таццяна Канстанцінаўна, настаўніца вышэйшай катэгорыі, адмаўляюся ад славутай «дабаўкі» і ад прэміяльнай даплаты, але і ад ачысткі галоўнага ганка школы склюдой (запляванага жуйкай «культурнымі» стабальнікамі) таксама адмаўляюся. Настаўнік павінен быць Настаўнікам, а не рабыняй на ніве «квітнеючай». Калі камусьці патрэбная прыбіральшчыца, то я найму яе за свае грошы. А-а-а, не, вам патрэбна менавіта я, прыніжаная, з растаптанай чалавечай годнасцю, пакуль адскрабаю жуйкі! Не дачакаецеся! Пройдзе гэты час! Тады вы (па камандзе зверху!) уцяміце, будзеце ганьбіць, крытыкаваць, узгадваць нядобрымі словамі... вы, калегі-настаўнікі, баязліўцы і крывадушнікі! І кідаю гэта вам у твар! Шушукайцеся, плачце, крыўдуйце цішком... Скажыце ў твар гэтым нахабным хабарнікам, якія запрагаюць вас, як быдла: «Мы — не рабы!» Баіцеся? Звольняць? Нікуды не возьмуць? Рабы — яны і ёсць рабы! І гэта — вы!

**Таццяна Карэліна, Мінск**

# Пра «сваіх» і пра «чужых»



Піша **Дзмітрый Гурневіч**.

Другі год не магу скончыць тэкст пра сямейную гісторыю. Гэта аповед 90-гадовай бабулінай сястры Марыі, якая нарадзілася на хутары Балевічы паміж Стоўбцамі і Івянцом. У яе аповедзе ёсць тры важныя гісторыі з беларусамі і габрэямі ў галоўных ролях. Яны пра «сваіх» і пра «чужых». Слова цёці Марысі.

«1. Я памятаю, як тата і Юзаф Доўнар (дзядзька бабулі) павезлі падатак немцам — свінню і ялавяка. Трэба было ажно ў Мінск ехаць. Якраз яны аддалі гэтае мяса, і іх затрымалі непадалёк. Старых жыдоў і дзяцей выганялі з гета і гналі пад Койданава, там былі акопы з Першай сусветнай вайны. Немцы загадалі, каб тата вёз старых жыдоў на возе. Яны нямоглыя былі, ледзь жывыя, тыя жыды. Каля воза ішоў немец, каб хаця той стары не ўцёк. А тата вёз, што яму было рабіць. Ён думаў, што і яго заб’юць. І калі яны іх падвезлі да Койданава, то ўбачылі страшную карціну. Жыдоў ставілі ў шэрагі, расстрэльвалі, клалі целы стосамі і закопвалі. Тата, памятаю, распавядаў, як ішлі дзве прыгожыя жыдоўкі і трымаліся за рукі. Яны нават не станавіліся ў шэраг, а адразу леглі на стос і чакалі, калі іх заб’юць. Юзаф, як вярнуўся, два тыдні не мог есці».

«2. Аднаго разу твая бабця Ядзя пайшла вечарам у склеп па агуркі. Вяртаецца белая і кажа, што там жыд хаваецца. Ён быў вельмі напалоханы. Распавядаў, што ён ляжаў увесь дзень у лубіне. Немцы ішлі шэрагам, кожныя чатыры метры, і шукалі габрэяў. А ён ляжаў, і немцы прайшлі паміж ім. Быў дождж. І немцы былі ў плашчах з каптурамі. І што было з боку — яны не бачылі. І двое з іх прайшлі побач. Яго дождж уратаваў. Ён быў галодны і тросся ўвесь. Пытаўся, каб хаця нікога не было. Але мама не баялася. Хаця за ратаванне жыда была смерць. Яго накармілі, далі яму вопратку, і ён пайшоў. Потым, праўда, яшчэ раз прыходзіў. Першы раз хацеў нам плаціць. У яго з сабой была торба. А там былі нейкія каштоўнасці. Ён сказаў, што яго бацькі былі ювелірамі. Але тата адмовіўся і кажа: нікому не кажы, што ты гэта маеш, бо цябе заб’юць. І ён выжыў. Пасля вайны маму выклікалі ў Івянец, бо яна нясвоечасова прывезла збожжа. Бо не было чым малаціць. Усё ж спалена было. Адкуль тое збожжа. Тату тады ўжо ў Сібір выслалі. І там, у Івянцы, ёй пагражалі судом. Нейкі рускі там шчырываў. А потым аказалася, што той жыд там быў, працаваў там, што Ядзя яго знайшла. І ён кажа: пад суд гэтая жанчына не пойдзе. Бо калі я быў за крок ад смерці, то яна мяне выратавала».

«3. Таты тады ўжо не было з намі. Яго ў Краснаярскі край выслалі. А чаму так стала? Да нас на хутар вечна прыходзілі партызаны. То рускія, то польскія. І раз нейкі важны рускі прыехаў. Мама зрабіла яму есці. А тут палякі прыехалі, хату акрыжылі — і ўсіх на вуліцу. Рускія хацелі ўцякаць, дык палякі іх пастралялі. Нашу хату партызаны спалілі на другі дзень, і мы жылі ў сваякоў на суседнім хутары. Немцы ўцяклі потым, прыйшлі рускія і арыштавалі тату праз колькі месяцаў. І нам адзін чалавек сказаў, чаму яго арыштавалі. А было гэта так. Да Ядзі нашай заляцаўся чалавек з Зарэчча, Антонік Д. Надта ён хацеў пабрацца з ёю, але бабця твая ўжо тады з Дамінікам, тваім дзедам, сустракалася і адмовіла таму Антоніку. І ён напісаў данос на тату, што ў ягонай хаце пабілі партызанаў. З Сібіры тата вярнуўся ў 1947 годзе».

Такіх гісторый у яе аповедзе значна больш.

За што люблю краязнаўства, дык гэта за тое, што яно вучыць НІКОЛІ не абагульняць. Там усё вельмі сапраўднае.

*Налібакі — Варшава*

# У Брэсцкай вобласці ўсё яшчэ прыносяць яблыкі на магілы



На фота: у сяле Крытышын Іванаўскага раёна. Дзе-нідзе ў пяску тырчаць таксама лыжкі ды відэльцы.

А вось на могілках у суседніх Гнеўчычах дрэвы пазразалі амаль падчыстую — нават там, дзе магіл няма. Камусьці трэ было салярку «скарыстаць». А вось бур’яну на старых частках могілак — не прадзерціся.

Затое ў Гнеўчычах масава стаяць «сонцакрыжы» — чатырохканцовыя, а паміж канцамі яшчэ чатыры нібы пратуберанцы. Іх ставілі тут да 1990-х. Пасля, мусіць, памерлі апошнія кавалі-майстры, што іх выраблялі. Дый праваслаўная царква навязвае «правільны» шасціканцовы, хоць і не мясцовы.

Яшчэ ў сярэдзіне XX стагоддзя тут на магілы клалі вялізныя дубовыя ці сасновыя калоды. У розных сёлах іх называлі «нарУбы», ці «прЫхарамы», ці «сталы». (Пра іх быў навуковы артыкул Свіцельскай.)

Я сам бачыў іх у Гнеўчычах яшчэ ў 1983. Гэта быў перажытак старой славянскай традыцыі, магчыма, нейкага асобнага племені — яны фіксаваліся толькі ад Жабінкі да Турава, ад Пружанаў да паўночнай Валыні.

Цяпер у Гнеўчычах слядоў не засталося. Відаць, апошнія выцягнулі з могілак разам з парэзанымі дрэвамі. Эстэтычная глухата...

**Мікола Бугай**

**Водгукі**

# «Я вельмі ўдзячная за напісанае пра майго сыночка ў газеце «Наша Ніва»



Я вельмі ўдзячная Вам, спадарыня Святлана Курс, за напісанае пра майго сыночка ў газеце «Наша Ніва» (№14, 2016).

Мне 76 гадоў. Жыву я адна. Жыць мне вельмі цяжка. Яшчэ дагэтуль не веру, што майго родненькага сыночка Змітра Саўкі няма. Кожны дзень і кожная ноч — гэта мучэнне.

Я простая жанчына, засталася сіратою, тата мой загінуў у 1945 годзе на тэрыторыі Польшчы, забілі бальшавікі. Патрапілі яны ў акружэнне, і, каб меншыя страты панесці, тата прапанаваў адступіць. Ён, мусіць, не ведаў, што загад быў не адступаць. У гэты момант яму стрэлілі ў жывот. Ён моцна крычаў ад болю.

Гэта ўсё нам распавёў чалавек, які прызываўся разам з татам і ваяваў разам. Чалавек гэты быў з вёскі вёрст за 15 ад нашай. Увосень 1945 года ён нам пра гэта расказаў. Засталося чацвёра маленькіх дзяцей. Жылі мы ў вёсцы на Берасцейшчыне, у Івацэвіцкім раёне. Змітра, як быў маленькі, вазіла на вёску да бабулі. Ён успамінаў пра гэта і ганарыўся. Цяпер там жыве майго старэйшага брата жонка.

Аніякімі словамі нельга выказаць маё гора і гора маіх унукаў.

Куды яму паступіць вучыцца пасля школы, мой сын вызначыў сам. Адразу пасля школы не паступіў на беларускае аддзяленне, бо напісаў дыктант кепска. Па стане здароўя сын не вучыў два гады беларускую мову. Хадзіў на падрыхтоўчыя курсы і на другі год паступіў…

Мой сын закончыў музычную школу па класе фартэпіяна. Граў класічныя творы. Настаўніца музыкі прапаноўвала паступаць у кансерваторыю, на што ён адказваў: «Добрага музыканта з мяне не выйдзе, а шэрым не хачу быць». І малюнкі ў яго выходзілі добрыя. Прыходзілі настаўнікі мастацкіх вучэльняў, глядзелі малюнкі вучняў, яму таксама прапаноўвалі паступаць у мастацкую школу.

Усім добрым людзям, хто выказаў спачуванне нашай сям’і (мне, маім унукам) шчыра дзякуем.

**Мама Змітра Саўкі і яго чацвёра дзяцей**

# Эдуард Пальчыс: Што вы робіце, нягоднікі?



«Нягоднікі! — піша ў лісце ў «Нашу Ніву» арыштаваны блогер Эдуард Пальчыс (больш вядомы як Джон Сільвер). — Атрымаў ад вас шыкоўную штуку — месячнік! Файная задумка, і для першага выпуску, падрыхтаванага за тыдзень, атрымалася нядрэнна, ды і тэма выбрана карысная. Але што я бачу ў артыкуле «Топ-5 тэхналогій… аблічча армій у XXI стагоддзі» (для «топаў» бярыце назву пакарацей)? Там спойлер «Гульні тронаў»! Я з красавіка абараняюся ад спойлераў GoT, а тут такі падвох! Здзекуецеся з палітвязня горш, чым КДБ! Лепш бы ўжо аб прыватным жыцці Шылы напісалі. Каб вам загладзіць сваю віну, трэба мне атрымаць другі выпуск месячніка. Буду чакаць.

P.S. За прыгожых дзяўчат у вышыванцы на апошняй старонцы — дзякуй», — дадае ён.

**Эдуард Пальчыс, Жодзіна, турма**



# Мастацтвазнаўца абвінавацiла дактароў мінскай паліклінікі ў чэрствасці і хамстве

**Наведванне 6-й цэнтральнай раённай клінічнай паліклінікі Мінска для мастацтвазнаўцы Ларысы Фінкельштэйн скончылася выклікам міліцыі, а ўслед за ёй — хуткай. Бяда ж пачалася з таго, што ліфт адключылі.**



МІКІТА НЕДАВЕРКАЎ

Вось як Ларыса Давідаўна апісала сітуацыю на сваёй старонцы ў фэйсбуку.

«Выходжу з працэдурнага кабінета пасля ўколу. Ліфтавыя кнопкі гараць, ён выкліканы, стаяць пацыенты. Кнопка згасае раптоўна ў 19:53—19:55. Ліфцёр працуе да 20:00, дактары ж часам затрымліваюцца да 21:00. Звяртаюся да дзяўчынкі, якая мела намер ісці па лесвіцы: «Я — інвалід, з 6-га паверха не спушчуся, папрасіце ліфцёра на хвіліну ўключыць ліфт». Сама вяртаюся ў калідор, кідаюся ў кабінет, дзе ідзе прыём, прашу патэлефанаваць на вахту, затрымаць ліфцёра.

У адказ ад доктаркі — віск: «Выйдзіце адсюль! Я дадому хачу сысці своечасова!»

Тлумачу, што мне давядзецца начаваць тут, бо не змагу сысці.


МІКІТА НЕДАВЕРКАЎ

## «Не паложана! Своечасова трэба хадзіць! Я замыкаю будынак!»

Пацыентка, якая сядзіць на прыёме, прапануе збегаць на вахту і спыніць ліфцёра. Доктарка вішчыць ужо на пацыентку: «Нікуды не пойдзеце, пакуль не выпішу рэцэпты». У гэты час на паверх узлятае вахцёрка, як турэмны наглядчык, крычыць: «Не паложана! Своечасова трэба хадзіць! Я замыкаю будынак! Своечасова трэба!»

Праз некалькі хвілін доктарка выходзіць з кабінета і заяўляе адзінаму хвораму пад дзвярыма, што прыём скончаны. І ўжо нікуды не спяшаецца, а важна перапаўзае ў кабінет насупраць і, не зачыніўшы дзвярэй, гучна перамывае косткі мне, а затым «нахабнаму» пацыенту, які яшчэ хацеў атрымаць ад яе медыцынскую дапамогу. Спіч яе доўжыцца хвілін 20, затым яна павольна праплывае міма мяне па калідоры, і я паспяваю параіць ёй памяняць прафесію. Яна па-хамску адгукаецца і сыходзіць.

Услед за ёй вылятае яе суразмоўца, таксама як бы доктарка. Убачыўшы мяне, істэрычна крычыць і махае над сваёй галавой кулакамі: «Ідзіце хутчэй адсюль, я паверх зачыняю». Кажу ёй спакойна: «Зачыняйце і ідзіце, што вам перашкаджае сысці?» Крычыць: «Выклічу міліцыю». Хвілін праз 40 з'яўляецца нарад, настроены вельмі мірна. Тлумачу ім сітуацыю. Яны разумеюць, што трапілі не на злачынцу, і прапаноўваюць сваю дапамогу ў спуску.

У дадатак да таго, што не хаджу па лесвіцах, я пакінула ў машыне палку, бо спадзявалася на ліфт. У мяне пачынае дзіка балець і кружыцца галава. Прашу выклікаць з дыспетчарскага ліфтавага пункта дзяжурнага або аварыйку, якія за хвіліну ўключаць ліфт. Міліцыя выклікала хуткую. Прыехалі двое надзвычай разумных хлопцаў. Разам з міліцыянерам яны знеслі мяне на крэсле. Гэты спуск каштаваў вялікіх страхаў і здароўя. У хлопцаў дрыжалі рукі і ногі, у мяне выскоквала сэрца. Здавалася, што я лячу з шостага паверха без лесвіцы і мы вось-вось усе паляцім кулём і разаб'ёмся. Тут жа прычапілася вахцёрка: «Мне зачыняць трэба! Выходзьце адсюль!» Я адразу ўстаць не магла і некалькі хвілін адыходзіла ад спуску пад яе дзікі крык.

Назаўтра я выклала ўсё начмеду і напісала скаргу. Па яе тоне было зразумела, што спагады чакаць не варта. Ніякія меры прынятыя не былі. Гэтыя дзяўчаты, мабыць, учарашнія выпускніцы медуніверсітэта, што за месяц працы ўжо ўзненавідзелі хворых, па-ранейшаму вядуць прыём.

А праз пару дзён позна ўвечары ў кабінет, дзе я была на прыёме, прынеслі тыповую «позву ў суд»: час і месца, куды трэба явіцца, без узгаднення са мной. Прыйшла. Ніякай камісіі няма. На сваім працоўным месцы сядзіць К. — загадчык аддзялення. Хвілін праз 20 з'яўляецца іншая загадчыца аддзялення П., яшчэ праз 10 хвілін — загадчык гаспадаркі — начальнік ліфцёра. Апошнія — начмед К. — праз гадзіну пасля прызначанага тэрміну.

Цэлую гадзіну я патрабавала паклікаць гэтак званых дактароў — па сутнасці, прадмет канфлікту. Цэлую гадзіну мне хлусілі, што ў іх непрацоўны дзень. Потым — што яны на візітах. Потым — што ў іх пачаўся прыём хворых і іх нельга выклікаць у кабінет.

Уявіце пасяджэнне суда з пазоўнікам без адказчыка. Пяць начальнікаў, пяць чыноўнікаў цэлую гадзіну, гледзячы мне ў вочы, хлусілі і патрабавалі нейкіх тлумачэнняў ад мяне... Каго судзілі?!

Старшыня К. хітала галавой і казала: «Вось-вось яны ідуць». П. сядзела як Буда і цадзіла: «Па іх пайшлі». Начмед К. шантажавала мяне запісам нібыта маіх абраз у сваім тэлефоне і махала ім перад маім носам. Невядомы без халата, заклаўшы рукі ў кішэні, прыняўшы бандыцкую позу, стаў мяне застрашваць і выганяць. Потым назваўся юрыстам Б., пагражаў міліцыяй, як водзіцца ў гэтай паліклініцы. Увогуле, абыходзіўся са мной як з вулічнай дзеўкай. Астатнія патрабавалі, каб я чагосьці чакала і не сыходзіла.

Я адчувала, што ці зараз страчу прытомнасць, ці ў мяне разарвецца галава. Яны наўмысна цэлую гадзіну даводзілі мяне да істэрыкі і, відома, дамагліся яе. Уяўляю, які акт працы камісіі яны складуць. Але камісія не працавала. Яны і не збіраліся караць вінаватых, не збіраліся нават разбіраць канфлікт, а спрабавалі запалохаць мяне.

Яны не толькі на дактароў, яны на людзей не былі падобныя. Такога зверства немагчыма сабе ўявіць, а вінаватыя П. і В., абароненыя сваімі начальнікамі, сядзелі па сваіх кабінетах.

Тыя маладыя хамілі адкрыта, па-вулічнаму, па-жлобску, а гэтыя пенсіянеркі, што зубамі ўчапіліся ў свае месцы, гатовыя былі, захоўваючы «зэкаўскую» салідарнасць, знішчыць немаладога хворага чалавека. І рабілі гэта па-чыноўніцку стрымана, не павысіўшы голасу.

SOS! Цэнтральная гарадская паліклініка № 6 — фабрыка інсультаў, логава забойцаў. Асцярожна. Але з гэтым штосьці трэба рабіць.

П.С. Зразумела, у нашай паліклініцы было шмат выдатных супрацоўнікаў: дактароў, медсясцёр, лабарантаў. Яны ёсць і сёння, але яны не робяць надвор'я».

### Паліклініка: Можна папрасіць ліфцёра пачакаць

У самой жа паліклініцы тлумачаць, што на кожным паверсе вісіць аб'ява, якая нагадвае, калі перастае працаваць ліфт. Калі ж пацыент ведае, што яму давядзецца забавіцца, можа папярэдзіць ліфцёра і папрасіць яго крыху пачакаць. Маўляў, звычайна ў такіх выпадках ліфцёр ідзе насустрач.

Але чаму ліфт перастае працаваць а 20-й, калі ў паліклініцы як пацыенты, так і дактары перыядычна затрымліваюцца? Сітуацыя, якая здарылася з Ларысай Фінкельштэйн, можа паўтарыцца зноў.

«У нас заключаная дамова з кампаніяй «Гомельліфт», дзе прапісаныя такія ўмовы, — тлумачыць галоўны доктар паліклінікі №6 Алена Пуціла. — Трэба звязвацца з імі і вырашаць гэтыя пытанні. Цяпер па гэтай сітуацыі ідзе службовае расследаванне. Трэба выслухаць абодва бакі канфлікту».

Чаму вінаватымі зрабілі дактароў, для Алены Пуцілы незразумела.

«Доктар працавала да позняга вечара і выконвала свае абавязкі — аказвала дапамогу пацыенту», — пракаментавала яна.

Што тычыцца разбіральніцтва, якое стала кульмінацыяй канфлікту, то, як адзначыла Алена Пуціла, ёсць відэазапіс размовы. На ім бачна, што камісія ціха і спакойна размаўляла з пацыенткай, якая не змагла давесці сутнасць прэтэнзій да дактароў. А вось паводзіны апошняй выклікаюць пытанні. Але, зноў жа, «ідзе службовае расследаванне».

### «Гомельліфт»: Час работы ліфцёра прапісаны ва ўмовах тэндара

Намеснік генеральнага дырэктара па развіцці Мінскага ўпраўлення арганізацыі «Гомельліфт» Валеры Барысевіч пра канфлікт у паліклініцы не ведаў.

Ён патлумачыў, што час работы ліфцёра акрэслены ў тэндары, які паліклініка праводзіць штогод. Пры парушэнні ўмоў тэндара ёсць пэўныя санкцыі. Аднак няма праблемы ў тым, каб змяніць час работы ліфцёра, калі будуць праводзіць новы тэндар.

Як распавёў Валеры Барысевіч, ліфтамі могуць кіраваць толькі спецыялісты — ліфцёры. У выпадку рэгламентных работ — электрамантажнікі па ліфтах. Іншым доступ забаронены. На выпадак няштатнай сітуацыі ёсць экстраная аварыйная служба.

«Ліфцёр адключае ліфт дзесьці за пяць хвілін да сканчэння працы, — адзначыў прадстаўнік «Гомельліфта». — Пасля гэтага спецыяліст мусіць прайсці па ўсіх паверхах і праверыць, што на кожным з іх дзверы ліфта зачыненыя. Толькі пасля гэтага заканчваецца яго працоўны дзень».

### «Нашы паліклінікі — механізм для больш хуткага забойства грамадзян»

Гісторыя Ларысы Давідаўны выклікала ланцуговую рэакцыю. У каментарах пад ёй сталі з'яўляцца гісторыі іншых людзей, якім таксама ёсць за што крыўдаваць на беларускую медыцыну.

«У гэтай паліклініцы атрымаць талон да доктара — рэдкая ўдача наогул! Да некаторых спецыялістаў талоны расписаныя на месяц наперад. Абурэнні кшталту «чаму яна пайшла так позна да доктара» — смешна чытаць, бо выбару няма ў прынцыпе. Ну а рэнтгенолаг на апошнім паверсе будынка — гэта наогул за межамі дабра і зла, бо, бывае, ліфты адключаюць у паліклініцы і сярод белага дня. Дарэчы, абсалютна незразумела, навошта іх адключаць у 20:00. Якая такая вытворчая неабходнасць? Каб дактары з верхніх паверхаў спускаліся пешшу пасля працоўнага дня? Гэта ж і да дактароў непавага».

**Пацыент**

«Не новая сітуацыя. Віцебская паліклініка №3 — амаль тое самае. Асабліва прывітанне аддзяленню рэнтгена!»

**Цікаўны**

### Апытанка на nn.by

**Ці задаволеныя вы якасцю дзяржаўных паліклінік у Беларусі?**

| | | |
|---|---|---|
| Так | 48 | 5% |
| Не | 677 | 72% |
| Залежыць ад доктара | 210 | 22% |

Усяго прагаласавала 935 чалавек.

«Затое бясплатная медыцына! Я даўно сышоў з паліклінік, пакуль мяне ледзь не адправілі на нябёсы ў мінскай 12-ай».

**Тургенеў з-пад Барысава**

### «Тое, што дактары жадаюць пацыентам смерці, — няпраўда»

Сталічны рэаніматолаг Андрэй Вітушка заклікае глядзець на сітуацыю аб'ектыўна, а не абвінавачваць агулам дактароў краіны ў непрафесійнасці, што паспяшаліся зрабіць абураныя каментатары:

«Такая сітуацыя сапраўды ўзнікнуць магла, але не праз тое, што дактары асабліва злосныя ў дачыненні да пацыентаў і жадаюць ім смерці. Гэта няпраўда. Праблема тэхнічная, проста не скаардынаваныя графікі працы асноўных і дапаможных службаў. Калі прыём вядзецца да 21-й гадзіны, то і ліфты мусяць працаваць да гэтага часу. І пацыенты, і дактары павінны мець магчымасць спусціцца на ліфце.

Што тычыцца самога канфлікту, які ўзнік паміж пацыентам і доктарам, то трэба разумець, што ўсе мы людзі. Сітуацыя няштатная, раздражнёнасць у абодвух бакоў магла быць.

Уявіце сабе доктара. У яго прыём, зайшоў чарговы пацыент. У гэты час урываецца іншы пацыент са сваёй праблемай. Перад доктарам дылема, якую трэба вырашыць вельмі аператыўна: ці то прыняць першага пацыента, ці то кінуць прыём і пачаць разбірацца з няштатнай сітуацыяй другога.

З другога боку, зразумела, што дактары мусілі пастарацца вырашыць гэтае пытанне і даставіць жанчыну ўніз бяспечным спосабам.

Вельмі шкада, што ўсё выйшла так, як выйшла, і ў выніку разбіральніцтва канфлікт не быў улагоджаны. Натуральна, шаноўная спадарыня мае права дабівацца праўды. Графікі дапаможных службаў павінны быць скаардынаваныя.

Тое, што, маўляў, у паліклініках сядзяць «бессардэчныя недавучкі», — гэта няпраўда ўжо хаця б таму, што ў медыцынскі ўніверсітэт сярэднія прахадныя балы самыя высокія ў краіне. Далёка не самыя дурныя людзі ідуць вучыцца ў медыцыну. І навучанне збудавана так, што інтэлект увесь час трэніруецца. Аб'ём інфармацыі вельмі вялікі, студэнтам даводзіцца ўвесь час аналізаваць розныя сітуацыі.

Людзі часта вінавацяць канкрэтных асоб, вельмі ж часта канфлікт узнікае не праз пэўнага чалавека, а таму, што так сышліся абставіны. Як правіла, у большасці канфліктаў вінаватыя калі не сістэмныя праблемы, то сістэмная неўладкаванасць, неадпрацаванасць пэўных сітуацый паміж доктарам і пацыентам. Гэтым павінен займацца менеджмент аховы здароўя, наладжваць гэтыя працэсы, рабіць іх больш гарманічнымі.

Факты неэтычных паводзінаў пацыентаў і дактароў, безумоўна, павінны разбірацца як на прафесійным узроўні, так і на грамадскім. Шкада, калі грамадскае абмеркаванне зводзіцца да таго, што «ўсе дактары дрэнныя і хочуць нашай смерці» альбо «не мы для дактароў, а дактары для нас». Людзі глядзяць на сітуацыю вельмі персаніфікавана, прыгадваюць тыя сітуацыі, з якімі сутыкнуліся яны. Калі ж гаварыць, напрыклад, пра бескультурнасць, то імавернасць сутыкнуцца з ёй у такой лакальнай установе, як паліклініка, не большая, чым у любым іншым грамадскім месцы. У краме, у бібліятэцы, у музеі — дзе хочаце. Яе не больш і не менш. Гэта праблема агульная для ўсяго нашага грамадства».

**Настасся Роўда**

***Ад рэдактара***

*Можна зрабіць выснову: першасная прычына канфліктнай сітуацыі ў мінскай паліклініцы №6 — памылка кіраўніцтва паліклінікі пры правядзенні тэндару. Ва ўмовах тэндару варта было закласці, каб ліфты хадзілі да 21.00. Тады б не ўзнікала канфліктных сітуацый з пацыентамі, якіх дактары не паспяваюць прыняць да 20.00.*

# Старым тут не месца?

Думкі аб гэтым артыкуле я выношвала даўно. З таго моманту, як мая мама ўпершыню абурылася, калі з экрана тэлевізара, дзе паказвалі пажылую жанчыну, салодкі голас дыктара праспяваў: «Бабуля ўсё жыццё працавала як мурашка». Піша **Юлія Чарняўская**.

### Пра слова «бабуля»

— Бабуля! — гнеўна сказала мама. — Яны пазбавілі нас нават імёнаў. Я бабуля толькі для маёй унучкі.

Вось тады я ўпершыню звярнула ўвагу на тое, як часта ўжываецца слова «бабуля». Здавалася б, слова і слова, добразычлівае, нават ласкавае... Неўзабаве я сама пачула, як маладая жанчына кажа сыночку пра маю маму: «Ванечка, прапусці бабулю». Мы з мамай ішлі ў філармонію, і яна прыбралася... Але тут трэба пра асабістае, на што звяртаюць увагу ўсе, хто яе ведае. Была і засталася — прыгажуняй і разумніцай.

Маёй маме 77 гадоў. Мама працавала псіхатэрапеўтам — і да яе ламіліся пацыенты, пакуль два гады таму яна не згарнула практыку. У адрозненне ад мяне, яна водзіць машыну — ярка-аранжавую KIA. Чытае ўсе навінкі — і медыцынскія, і літаратурныя, і філасофскія, і псіхалагічныя. Гадзінамі сядзіць у інтэрнэце. Маме цікавая палітыка. Яна любіць падарожнічаць. Зноў жа ў адрозненне ад мяне, яна любіць новую тэхніку, новыя гаджэты. Мама займаецца скандынаўскай хадой і год таму пачала рабіць выдатных лялек, хаця раней ніколі нічым такім не займалася. Яна роўна трымае спіну, вытанчана адзяваецца і носіць чароўныя ўпрыгажэнні. Маме семдзесят сем, і яна прыгажуня. У яе кучаравыя сівыя валасы, яркаблакітныя вочы і хвацкае пачуццё гумару.

### «Ляжыць, як зайка»

У адной з бальніц, дзе ў апошнія гады ляжаў мой сваяк, я пачула ад пяцідзесяцігадовай жанчыны-доктара: «Ну, ваш дзядуля ціхі, добры, не тое што некаторыя. Ляжыць, як зайка». І медкарта ж перад ёю, магла б зірнуць на імя і імя па бацьку.

І гэта вось яно — «як зайка». Чаго мы хочам ад старых? Ну так, каб яны былі «як зайкі», — ціхія, бескалопатныя. Каб не «перліся ў паліклініку, быццам там у іх клуб». А вы арганізуйце для іх клуб здаровага ладу жыцця — не будуць «перціся» ў паліклініку.

Потым я стала заўважаць іншыя рэчы. І ўспамінаць. І звязваць разам.

Напрыклад, калі дачка прыводзіць пажылога бацьку да доктара і той распытвае аб сімптомах не пацыента, а дачку: а хворы тут жа, побач, і сам можа адказаць на пытанні. Але ён — «дзядуля», што з яго возьмеш...

Або калі, звяртаючыся да старога чалавека, пачынаюць гарлапаніць, быццам ён абавязкова глухі, ці размаўляюць як з малым дзіцем, быццам ён абавязкова тупы. У апошнім выпадку мы чуем тое, што псіхолагі называюць «заступніцкім маўленнем»: сюды, дарэчы, уваходзяць і «бабуля», і «дзядуля».

Ці як дзівяцца, калі вельмі немалады чалавек карыстаецца камп'ютарам (во дае дзядуля!). А калі ён толькі вучыцца ўзаемадзеянню з ноўтам, планшэтам, смартфонам — о, гэта невычэрпная нагода для гумару. Прыкольна выставіць у сацсетках першую няёмкую эсэмэску ўласнай (або чужой) бабулі: колькі лайкаў збярэш! А гэтыя ж людзі любяць сваіх пажылых сваякоў.

### Ці многа трэба пенсіянеру?

Або абураюцца: «Вось прычэпіцца такі (такая), як клешч, на лавачцы ў парку і пойдзе расказваць пра ўсё сваё жыццё: і пра вайну, і пра СССР, і пра дзяцей, і пра ўнукаў... Пагаварыць, відаць, няма з кім, дык да мінакоў лезе». Пагаварыць і напраўду няма з кім: пры ўсёй любові да родных старых у дзяцей і ўнукаў свае справы. Гэта потым, пасля ўсяго, мы беражліва праглядаем старыя альбомы, чытаем старыя лісты, дзённікі і нават старыя тэлефонныя кніжкі, каб толькі лішні раз убачыць знаёмы, такі знаёмы почырк. Большая частка нумароў там выкраслена — тых, хто пайшоў раней. Але гэта мы, дзеці і ўнукі. А для дзяўчынкі ў парку гэта чужы чалавек. Дзякуй, калі выслухала.

Або ходкая фраза: «Ці многа трэба пенсіянеру?». Ну так, чым больш грамадства звужае магчымасці пенсіянера — тым менш яму трэба: некалькі «сотак» на дачы становяцца яго светам. І ўсе задаволеныя: стары чалавек — тым, што прыносіць карысць сям'і, сям'я — тым, што забяспечыла яму занятак на летні сезон. Прывяду прыклад для параўнання. Ёсць у нас сваякі-французы, ім пад восемдзесят. Выйшаўшы на пенсію, яны, ужо адвучыўшыся ў Сарбоне ў бурныя шасцідзясятыя, вярнуліся на студэнцкую лаву. Спярша вывучалі гісторыю мастацтваў, потым — гісторыю рэлігіі, а цяпер узяліся за філасофію. Так, напэўна, ім цяжэй запамінаць, чым маладым, але, мяркуючы па тым, як гугл падмяніў памяць для многіх і многіх маладых (я бачу гэта ў дынаміцы па студэнтах), гэта некрытычна. А разумеюць яны лепш: у іх ёсць інтэлектуальны досвед — ім ёсць з чым звесці разам новыя веды. Баюся, пажылы беларус, які захоча сесці на студэнцкую лаву, застанецца незразуметым. У лепшым выпадку яго ўспрымуць як фрыка, створанага для паблажлівай хвалы (во дае дзядулька!), а то і для кпіны, у горшым — свае ж дзеці будуць чытаць яму натацыі: як жа, ім зручней, каб ён «пасвіў» на сваіх сотках унукаў, як прыстойныя суседзі яго веку. Сярэднестатыстычная старыя.


Сяргей Гудзілін

А яшчэ любяць пажартаваць з нагоды «віягры», клімаксу і сэксу: «Жах які, яны гэтым займаюцца! Брыдка нават уявіць!» Так, займаюцца, а як — гэта ўжо, калі вам моцна пашанцуе, дазнаецеся па сабе. Але — паўтаруся — калі пашанцуе. І даволі хутка: час цягнецца доўга, а ляціць хутка. Часам трапляюцца водгукі з нагоды фота пажылых «ню», было некалькі такіх шакавальных фотапраектаў: «Фу, пасаромелася б такое пачварства выстаўляць напаказ». А гэта не пачварства — гэта жыццё, лёс.

Зрэшты, адзенне таксама мала што мяняе. Калі яно простае, пішуць: як апускаюцца пенсіянеры, як яны не сочаць за сабой, адны «соткі» ў галаве. Калі моднае — пішуць пра безгустоўшчыну, дрэнны тон і г.д. Дазваляецца — зноў жа — толькі знакамітасцям, тыпу Айрыс Апфель.

### Ім за семдзесят, а яны...

Дзеля справядлівасці, часам фота пажылых выклікаюць здзіўленае замілаванне: ім за семдзесят, а яны абдымаюцца, за ручкі трымаюцца... Ну, не мімімі? Чаму гэтаму трэба здзіўляцца? Такое пытанне ў галаву не прыходзіць. Такое ж фота дваццацігадовых успрымаецца як норма. А ўжо калі старых людзі адлюстраваны ў пацалунку — гэта ўжо значна горш, тут і да сэксу ўсяго нічога. Ці задумваемся мы пра тое, што ў старых ёсць сваё асабістае жыццё, і яно не абавязкова канвертуецца ў «соткі», дзяцей і ўнукаў?

**Працяг на старонцы 14.**



**Юлія Чарняўская**

дацэнт Універсітэта культуры, спецыяліст у галіне культуры штодзённасці. Аўтар кнігі «Беларусы: ад «тутэйшых» да нацыі». Яе муж — заснавальнік tut.by Юрый Зісер, яе дзед — пісьменнік Васіль Вітка.

# Старым тут не месца?

Працяг са старонкі 13.

Каханне пажылых, на думку большай часткі грамадства, павінна выглядаць як на карыкатурах: дача, яна «катае» слоікі, потым разам абедаюць, глядзяць ТБ, а там ужо і спаць пара. Люлечкі-люлі. А ў рэальнасці чым больш немалады чалавек — тым мацнейшае і больш трывалае каханне. «Пакуль смерць не разлучыць нас» — гэта не ходкая фраза, а апошняя ісціна.

Памятаю жаніха і нявесту. Ёй 57, яму 65. Шлюб па каханні. Як да гэтага паставіліся іх дарослыя дзеці? Яе — узрадаваліся: ведалі, як дрэнна маме было адной. Яго — абурыліся: гэта ж каму цяпер адыдзе кватэра і дача? Жылі б ціха, не распісваючыся, калі «бацька яшчэ можа» — такі быў довад сына.

Ва ўсіх папярэдніх прыкладах гучыць адна і тая ж немузыкальная тэма: «Ён сваё аджыў, а яшчэ чагосьці хоча». «Сваё аджыў» гучыць як само сабой зразумелае.

Падобнае здзіўленне адносіцца да людзей, якія ўпарта працягваюць працаваць у свае 80, напрыклад. Не, не вартаўнікамі: імі можна. Тут я маю на ўвазе тых, каго «не скарацілі», нягледзячы на век. Перашкаджаюць. Не даюць дарогі маладым. І наогул, ва ўсіх, хто старэйшы за шэсцьдзясят, атэрасклероз, яны дрэнна цямяць, «тармозяць», перашкаджаюць працэсу. Зрэшты, як баласт успрымаюцца людзі не толькі пенсійнага, але і перадпенсійнага веку.

### Што такое эйджызм?

Вядома, што ў фірмах імкнуцца наймаць на працу людзей, не старэйшых за 35 (зрэдку 40) гадоў, што дакладна агаворана ў аб'явах аб вакансіях.

Венікам вымятаюць тых, хто старэйшы. Лічыцца, што пажылыя менш мабільныя, менш схільныя да рызыкі, горш «крэатывяць» і наогул не такія «амбіцыйныя» (дарэчы, раней гэта слова заўсёды мела даволі насмешлівую семантыку). Магчыма. Затое яны часта атрымалі больш фундаментальную, чым цяперашняя, адукацыю, маюць сур'ёзны досвед, здольныя пралічыць рызыкі. «Маладых я навучу, і яны хутка зразумеюць, што рабіць, а таго, каму за сорак пяць, перавучваць прыйдзецца», — вось логіка наймальніка. Вы не думаеце, што навучаныя вамі маладыя з вялікай імавернасцю хутка пырхнуць у фірму круцейшую, а тыя, хто старэйшы, застануцца вернымі сваёй працы. Аптымальна, каб на працы былі і маладыя, і сталыя — проста з рознымі функцыямі.

Узгадваецца аповед знаёмага бізнэсоўца: «У 90-я я набіраў праграмістаў у фірму. І вось прыходзіць чалавек, гадоў на дваццаць за мяне старэйшы, выкладвае кучу дыпломаў, у тым ліку кандыдацкі, а ў працоўнай кніжцы напісана, што ён трыццаць гадоў працаваў «на космас», мае званне палкоўніка. І я, не кандыдат і не палкоўнік, разумею, што праграмістам ён не будзе, а вось да чагосьці іншага яго веды і навыкі можна прыкласці. Напрыклад, да адміністрацыйнай работы. Я яго ўзяў намеснікам дырэктара фірмы. Праз тыдзень ён знайшоў для яе добрае памяшканне, якое мы ўсе шукалі. Праз месяц я зразумеў: ён незаменны. Цяпер яму 83 гады, ён па-ранейшаму намеснік дырэктара, і хоць фірма вырасла з трох да трохсот чалавек, без яго мы па-ранейшаму як без рук».

**Эйджызм** — яўная ці прыхаваная дыскрымінацыя людзей па прынцыпе ўзросту.



Прыватныя дамы састарэлых у Беларусі выглядаюць таксама смутна, як дзяржаўныя.

### «Адпрацаваны матэрыял»

Тым часам кандыдатуру пяцідзесяціпрохгадовага проста адкінулі б як смецце. Бо слова «пажылы» негалосна становіцца сінонімам «не зусім паўнавартны». А старыя — яны розныя, як і маладыя. Тыя, хто слухаў лекцыі Паолы Волкавай і глядзеў фільм «Падрадкоўнік» з Ліліянай Лунгінай — зразумеюць, пра што гаворка. Успамінаю мінскіх дактароў: доктар Нейфах працаваў гадоў да 85, прафесар Голуб — да 90, прафесар Буглоў — таксама да глыбокай старасці, ды і гуманітарыі ад іх не адставалі. Да гэтага часу плённа працуе і геолаг еўрапейскага значэння Радзім Гарэцкі. Успамінаю гуманітарыяў — мастацтвазнаўцу Барышава, гісторыка Грыцкевіча, тэатральных дзеячаў... А пісьменнікі... Ім пашанцавала, як і нам з імі. Можа быць, таму што, калі ім было па пяцьдзясят-шэсцьдзясят, грамадства яшчэ не было настолькі прасякнута эйджызмам. Вось, нарэшце, я ўжыла гэтае слова.

Асабліва хацелася б спыніцца на пастулаце «Усе пажылыя нездаровыя». У той ці іншай ступені гэта праўда. І вынікае з гэтага інакшае стаўленне, чым да ўсіх астатніх. Яно падспудна, яго не агучваюць. «Аджылы матэрыял».

— Ну вы ж разумееце, — кажа доктар пацыенту, — узрост у вас такі, што...

Можна працягнуць: вам паміраць пара, а койка ў шпіталі больш патрэбна для маладога і моцнага. Дыягназ — старасць. Прафілактыка і рэабілітацыя — навошта? Дзякуй Богу, пачынаем паціху вучыцца ў Захаду, дзе аперацыі робяць зыходзячы з агульнага стану пацыента, а не лічбаў, запісаных у графе «ўзрост». Пачынаем — толькі павольна. Я так і не ведаю, ад чаго памерла мая бабуля ў дзевяностых: ёй было 82 гады. Доктар патлумачыла, як вясковая жанчына XIX стагоддзя: «Відаць, час яе прыйшоў».

### Старасць як заразная хвароба: герантафобія

Паглыбіўшыся ў тэму, я знайшла працу знакамітай пісьменніцы Сімоны дэ Бавуар — яркай фігуры як у фемінізме, так і ў асабістым жыцці (дарэчы, яна была жонкай Жана-Поля Сартра — і гэта таксама цікавая гісторыя). Праца называецца «Старасць». Сімона дэ Бавуар піша: «Аказваецца, што грамадства прылічвае іх (старых) да абсалютна іншага біялагічнага віду». Мяркуецца, што каштоўнасці, жаданні, патрэбы пажылых людзей адрозніваюцца ад патрэбаў «нармальных людзей» і яны могуць здавольвацца дробнымі падачкамі» (успомнім: «Ці шмат пенсіянеру трэба?»).

### Адзінота старасці

Старасць — заўсёды адзінота. Не абавязкова фактычная — ты можаш жыць з дзецьмі і ўнукамі, і яны могуць цябе любіць, але з гадамі нарастае гэта адчуванне: я ў свеце адзін, мяне не разумеюць і не могуць зразумець. Не разумеюць, як гэта — жыць у вечнай бессані і якія думкі цябе адольваюць па начах; як гэта невыносна — устаць раніцай, калі баліць усё цела; што такое ведаць, што няма каму патэлефанаваць — большасць сяброўак памерла; і тое, што ніхто не памятае цябе маладым; як глядзець на свае фатаграфіі — і цяперашнія, і тыя, што здымалі шмат гадоў таму... Твой шлях скарачаецца да аптэкі, крамы, участка ў пяць сотак.

Часта пажылы чалавек адчувае сябе нецікавым — нават калі б ён быў разумны і адукаваны чалавек. Такім незнарок робім яго мы з вамі. Таму ў старасці многія замыкаюцца — у адрозненне ад тых, хто яшчэ на нешта спадзяецца і спрабуе распавесці пра сябе свету — хоць дзяўчыне на паркавай лаўцы.

Стары чалавек замкнёны ў сабе — нават сярод блізкіх і родных. А калі ён жыве асобна, тады ўсё яго жыццё ператвараецца ў чаканне. Не дай Бог, не ныць пры дзецях і ўнуках, а раптам у наступны раз не прыйдуць... Яшчэ адзін варыянт — таксама нярэдкі сёння: дзеці і ўнукі жывуць у іншай краіне. Хто дапаможа, калі захварэеш? Хто зможа вырваць час, з'ехаць ад сваіх уласных дзяцей, хто адважыцца раптоўна разбурыць кар'еру, да якой так доўга імкнуўся?

### Кластары для састарэлых: мара ці рэальнасць?

З гадамі ўва мне мацнее пераканнане: мы павінны ствараць кластары для пажылых, якія залежаць ад дапамогі грамадства. Я маю на ўвазе не старога ўзору дамы састарэлых, дзе пахне мачой і капустай, а проста дамы, дзе жывуць немаладыя людзі — са зручнай планіроўкай, ліфтамі, пандусамі і парэнчамі, з «трывожнай кнопкай» у пакоі, і каб у кожным з такіх дамоў пастаянна дзяжурыла медсястра; каб гэтыя дамы абслугоўвалі дактары, у тым ліку прафесійны герантолаг, — і ведалі сваіх пацыентаў па імені і па бацьку (ніякіх табе «бабуль»); каб да іх рэгулярна заходзіў сацработнік — добразычлівы і ўважлівы; каб у свае невялікія, але асобныя кватэры гаспадары маглі ўзяць любімую мэблю, уласныя рэчы і кнігі; каб у межах даступнасці быў парк ці лясок, а таксама — рэстаранчыкі, кафэ, бістро, крамы, кінатэатры; дзе існавала б агульная прастора — клуб, а ў ім — секцыі па інтарэсах: ад аматараў Джэйн Осцін да прыхільнікаў здаровага ладу жыцця; ад мастацкага гуртка да аматарскага тэатра; ад чайных цырымоній да лекцый аб навуцы і культуры. Дарэчы, іх змогуць арганізаваць не толькі запрошаныя лектары, але і самі жыхары кластара: іх досвед неацэнны.

Хай гэты клуб выглядае не як зашмальцаваныя савецкія дамы культуры, а менавіта як клуб ці хаця б гасцёўня. Яшчэ хацелася б, каб жыхарам такога дома быў даступны камфартабельны аўтобус, які некалькі разоў на тыдзень вывозіў ахвотных на канцэрты і спектаклі, а то і проста на шопінг. А раз на месяц на ім маглі паехаць, напрыклад, у падарожжа па Беларусі... Тыя ж, хто, нягледзячы на сталы ўзрост, працуе, змогуць ездзіць на працу на тым жа аўтобусе ці на нармальным сацыяльным таксі (падкрэсліваю: нармальным). І зразумела, каб у гэтыя дамы людзі засяляліся толькі па ўласным жаданні.

Усё астатняе — што ж, гэта ўжо справа іх дзяцей і ўнукаў. Летуценні? А чаму не? Такія раёны ёсць у Амерыцы і Аўстраліі, у Ізраілі і Грэцыі, у Нямеччыне і Францыі... Адкуль браць на гэта грошы? Крыніц не так ужо і мала, нават калі выключыць з працэсу дзяржаву: страхавая медыцына і ў цэлым страхавыя фонды; сацыяльная дапамога бізнэсу; унёскі ад дзяцей; уласныя назапашанні пажылых людзей... Так, я разумею, гэта справа не аднаго года, і ўкладвацца ў гэта трэба яшчэ з параўнальна маладых гадоў — і тады, можа, да старасці мы будзем мець магчымасць быць абароненымі — і ў той жа час не адчуваць сябе абузай. І было б выдатна, калі б «кластар састарэлых» мог бы шэфстваваць над дзіцячым домам або домам інвалідаў — каб людзі ведалі: мы патрэбныя грамадству, мы не баласт, не аджылая натура.

Няма нічога страшнейшага за краіну адзінокіх і недагледжаных старых.

### Казка пра вечар жыцця

Мне не хочацца думаць пра тое, што я буду жыць калі-небудзь у такім доме. Але яшчэ менш мне хочацца, каб юны веласіпедыст збіў мяне, зазяваўшыся на тратуары. Ці — ляжаць у палаце ў чужой краіне, дзе ніхто не разумее маёй мовы, а дзеці рвуцца з жылаў, па гадзіне дабіраючыся да маёй бальніцы. Ці — у калідоры адной з «родных» бальніц. Або, перагартаўшы тэлефонную кнігу, выявіць, што мне няма каму больш тэлефанаваць. Але страшней за ўсё для мяне чамусьці самае банальнае: калі-небудзь, праз некалькі дзесяцігоддзяў, упершыню пачуць звернутае да мяне спагадлівае «бабуля».

Ёсць выдатная беларуская казка, такая «Нараяма» са шчаслівым, праўда, фіналам. Была вёска, дзе з прыходам старасці дзядоў і бабуль сялілі за печкай і кармілі з драўлянай міскі адной і той жа кашай. І вось аднойчы бачыць малады бацька карцінку: сядзіць яго маленькі сын і нешта старанна стругае.

— Што ты робіш? — пытаецца бацька.

— Ды вось, табе місачку, — адказвае сыночак. — Калі ты састарэеш і мы засунем цябе за печ, будзе ў цябе драўляная міска.

Тады бацька, а за ім іншыя аднавяскоўцы, пабеглі ў хату, на руках вынеслі старых з запечча, пасадзілі на самыя ганаровыя месцы ў дамах, пачалі пытацца іх парадаў — і гэтыя парады дазволілі прадухіліць вялікія бедствы і выратаваць вёску. Адно горка: чамусьці мне здаецца, што гэтую казку склаў пажылы чалавек, седзячы недзе там, за печкай.

*Дзякую герантолагам Андрэю Ільніцкаму і Кірылу Прашчаеву за гутаркі і шэраг матэрыялаў, якія дапамаглі мне ў працы над артыкулам.*

**«Наша Ніва» перадрукавала гэты артыкул з партала Tut.by у скароце, з ласкавай згоды аўтаркі і партала.**

# Былы старшыня Дзяржынскага райвыканкама забіў жонку ў гандлёвым цэнтры 44 ударамі нажа



*—Мама ўжо зняла кватэру і схавалася ад яго ў Мінску. Ткачоў высачыў яе ў Дзяржынску, накінуўся з нажом. Ёй тады пашанцавала, ехала міліцыя, ён спалохаўся... 10 жніўня ёй ужо ніхто не дапамог... У Фаніпалі ў мамы буцік. Днём ён туды прыйшоў... Эксперты налічылі ў мамы 44 нажавыя, памерла на месцы.*

*Ткачоў калісьці быў старшынёй Дзяржынскага райвыканкама, лічыў, усё яму можна.*

*«А мне што рабіць?» — плакала мама.*

Усё гэта распавядае Аксана Базык, дачка загінулай Любові Ткачовай. Пару дзён таму яна пахавала маці і ўсё яшчэ носіць жалобу. Мы сядзім у офісе рэдакцыі, у руках Аксаны мамін партрэт. На здымак усмешлівай Любові Іванаўны капаюць слёзы дачкі. Да свайго 59-га дня нараджэння загінулая не дажыла 11 дзён.

— Усе кажуць, гэта з рэўнасці. Яны 30 гадоў былі разам. Ён лічыў, што яна яго рэч, уласнасць, рабыня, — разважае Аксана. — Гэта не каханне. З такой жорсткасцю, з такой сатанінскай нянавісцю ён яе забіў, любові там ніякай не было. Калі Ткачова затрымалі, дом, дзе яны з мамай жылі, абшукалі. Яго любімых рэчаў там не знайшлі. Шашкі, рэвальвера, грошай — нічога няма. Ён жа і мне пагражаў, што зэкаў найме... У мяне пяцёра дзяцей, я баюся. І за іх баюся, і за сябе.

Увесь час Аксана глядзіць на мамін партрэт. Размаўляе са мной, а як быццам распавядае ёй:

— Мне было сем гадоў, калі яны пазнаёміліся. Мы з мамай жылі ў Хоцімску, Уладзімір Ільіч стаў да яе заляцацца, потым яны пажаніліся, потым пачаліся скандалы. Кожную раніцу я прачыналася ад яго крыкаў. У яго ўладны характар. Мама баялася за сваё і маё жыццё, але не сыходзіла, а Ткачову ўсе прапаноўвалі і прапаноўвалі новыя пасады. У 1999-м ён стаў старшынёй Дзяржынскага райвыканкама.

**— Ваша мама паведамляла кудысьці, што дома цяжкая абстаноўка?**

— Куды яна магла паведаміць? Ён жа чалавек ва ўладзе. Калі яго прызначылі старшынёй, думалі, яго гэта стрымае. Усё ж пасада такая. У яго з'явілася іншая жанчына, у 2001-м яны развяліся. Гады тры прайшло — і яго знялі з пасады і пасадзілі. Палюбоўніца, знаёмыя — усе пасля крымінальнай справы адвярнуліся ад яго. Толькі мама пашкадавала. Прадукты, перадачы ў турму вазіла. Ён ёй лісты пісаў. Пакуль сядзеў, яна купіла дом, а калі выйшаў, па дамове найму прапісала.

**— Навошта?**

— А куды яму было ісці? Вяртайся, жыві. Не чужы ж чалавек. Ён спачатку быў нічога, паводзіў сябе спакойна, а потым пачаўся ўвесь гэты бруд. Ён казаў маме: гэта ты вінаватая, што мяне пасадзілі. І зноў яна пачала плакаць.

Па словах Аксаны, пра тое, які характар ва Уладзіміра Ільіча, ведалі ўсе: родныя, знаёмыя, калегі.

— Калі ён зноў стаў яе даводзіць, мы завяліся: мама, пішы ў міліцыю. Яна доўга не хацела, усё паўтарала: не будзі ліха, пакуль яно ціха. Баялася, чым гэта можа для яе скончыцца. Мама хацела ад яго збегчы. Крычала: прададзім дом, грошы падзелім — і я паеду. «Ды твая дачка тут, унукі», — палохаў ён. І яна зноў заціхала... Гэта быў Новы год. Здаецца, 2015-ы. Мама патэлефанавала, плача. Кажа, ён яе абражаў, дамагаўся. Яна сарвалася, збегла з дому. Ён не заўсёды яе біў. Яна сядзіць, глядзіць тэлевізар, а ён прыходзіць, пачынае бруд ліць. Чуткі пра яе распускаў, рабіў яе жыццё невыносным, хацеў, каб яна зноў вярнулася да яго. Гэта як вада, калі капае ў адну кропку — будзе ямка.

У той Новы год Аксана з мужам забралі Любоў Іванаўну да сябе і ўсё ж угаварылі напісаць на былога мужа заяву ў міліцыю. Жыць доўга з дачкой яна не магла: у вялікай сям'і Аксаны ў Мінску двушка. У Дзяржынскім РАУС Ткачовай параілі паставіць дом пад ахову, і калі скандал — ціснуць трывожную кнопку.

— Мы купілі ёй электрашокер і газавы балончык, — пералічвае маміны сродкі абароны Аксана. — З імі яна спала, у туалет хадзіла. Мама вельмі хацела прадаць дом, але Ткачову гэта не падабалася.

**— Чаму яна проста не сышла?**

— Не хапала смеласці. Я не ведаю...

Вясной 2016-га родныя ўгаварылі Любоў Іванаўну з'ехаць ад Ткачова, зняць кватэру і схавацца ў Мінску. Дачка кажа: незадоўга да пераезду яе мама купіла машыну. «Ткачова гэта злавала, неяк ён парэзаў ёй шыны, засыпаў цукар у бензабак».

Тыдні тры ён не мог яе знайсці. А потым мама выходзіць з пад'езда, а там яго машына. Ён вазіў з сабой бінокль, тэлефанаваў: «Мне сказалі за табой сачыць, таму што ты займаешся наркотыкамі». Мы баяліся, што ён ёй штосьці-небудзь падкіне. Ён так разумеў: ён з ёй пражыў столькі гадоў, яна павінна прысвяціць яму ўсё жыццё. У нейкі момант мы з мужам сказалі маме запісваць сваркі і тэлефонныя размовы з ім на дыктафон. Потым мама перадала гэта міліцыі. На адным з запісаў ён кажа: «Ты не хвалюйся, я цябе заб'ю, сяду ў турму. У турме таксама людзі жывуць».

У красавіку Любоў Іванаўна напісала на былога мужа заяву ў УУС Мінаблвыканкама.

*З заявы Л.І. Ткачовай ва УУС Мінаблвыканкама:*

*«... Прашу прыняць меры і абараніць мяне ад майго былога мужа — Ткачова Уладзіміра Ільіча, 1949 года нараджэння, бо ён ходзіць за мной, пагражае майму жыццю, пастаянна дамагаецца мяне, літаральна не дае жыць. [...]. Ён двойчы судзімы, але праваахоўныя органы раёна не жадаюць з ім звязвацца. Ён палохае іх сваімі сувязямі, што супрацоўнікі, якія з ім звяжуцца, будуць звольненыя. [...] Я беспрашкодна фізічна не магу выйсці за тэрыторыю свайго дома і ўчастка, бо ён на вароты і брамку вешае свае замкі, а ключы забірае ў сябе! Калі я еду — ён едзе за мной следам. [...] Прадаваць дом не хоча, выкраў дакументы на дом і не аддае, паклёпнічае на мяне, распускае ўсялякія чуткі і плёткі, выстаўляе сябе ахвярай, што яму здрадзілі і кінулі. [...] Знаходзіцца побач з гэтым чалавекам небяспечна для жыцця ... [...] Я проста не магу больш усё гэта вытрымліваць, я баюся за свой фізічны і псіхалагічны стан».*

**— Што адбывалася пасля кожнай заявы?**

— Міліцыя рэагавала: прыходзіў участковы разбірацца. Незадоўга да смерці маму выклікалі ў УУС на размову. Сказалі, каб па кожным факце яна пісала заяву. Не пускае ў хату — 102, крычыць — 102. Папярэдзілі: ён тут [у доме] прапісаны, але, калі будзе чарада заяў, яго змогуць выселіць. Мама разглядала гэты варыянт. Яна хацела прадаць дом і пачаць новае жыццё. Ён гэтага моцна баяўся, і таму забіў.

Аксана ўсё глядзіць на фота шчаслівай мамы. Гоніць ад сябе страшныя думкі, але чорная стужка ў куце здымка зноў і зноў вяртае ў рэальнасць.

У Следчым камітэце па Мінскай вобласці ўдакладнілі: крымінальная справа па факце гібелі Ткачовай заведзена. «Падазраваны, мужчына 1949 года нараджэння, знаходзіцца пад вартай».

**Паводле: Кацярына Панцялеева, tut.by**

# Стала вядома, хто займаўся публічным сэксам у Сухараве

У сярэдзіне ліпеня беларускія і міжнародныя сайты абляцелі фотаздымак, як двое маладзёнаў раніцай займаюцца сэксам на вуліцы Скрыпнікава ў Сухараве.

Літаральна праз пару дзён прадстаўнікі ГУУС Мінгарвыканкама паведамілі, што ніякага сэксу ў мінскім мікараёне не было.

«Ва УУС адміністрацыі Фрунзенскага раёна Мінска па гэтым факце была прызначаная праверка, падчас якой высветлілася, што здымак не мае дачынення да Фрунзенскага раёна Мінска. Па словах аўтара публікацыі, фатаграфія проста была ўзятая з сеткі інтэрнэт. Паходжанне здымка невядомае», — гаварылася ў паведамленні.

Аднак праз месяц справа нечакана атрымала працяг. Было паведамлена, што Следчы камітэт завёў крымінальную справу па артыкуле 339-м «Хуліганства, здзейсненае групай асобаў».

Удзельнікамі інцыдэнту сталі 17-гадовая дзяўчына і 19-гадовы хлопец. Апошняга назвалі футбольным фанатам мінскага «Дынама».

Хлопец быў затрыманы, а ягоную кватэруператрэслі.



**Гэтае фота — з зорачкай і без зорачкі — абляцела інтэрнэт на ўвесь свет. Гэта ж трэба, у ясны дзень, сярод вуліцы чым займаюцца! І гэта Еўропа — весяліліся брытанскія газеты.**

На фотах хлопец у тым самым адзенні, што быў падчас палавога акта — у знакамітым «Найку».

Паводле інфармацыі «Нашай Нівы», фігуранты справы пасля вечарынкі мілаваліся на кватэры сваяка. Але той прыйшоў з начной змены і выправіў каханкаў упрочкі. Яны не знайшлі нічога лепшага, як працягнуць любімую справу на тратуары.

Дата суда над Вадзімам і яго сяброўкай пакуль не вядомая. Ім пагражае арышт на тэрмін да 6 месяцаў, абмежаванне волі да трох гадоў альбо пазбаўленне волі ад 1 да 6 гадоў.

**Зміцер Панкавец, Ірына Арахоўская**




**Хлопец з фота ў Сухараве: Мы пачалі цалавацца, а потым — усё. Жарсць**

«Еўрарадыё» знайшло Вадзіма — так завуць героя скандальнага фота — праз сацыяльныя сеткі.

Працуе Вадзім у адным з гандлёвых цэнтраў, прадае вопратку.

«Знайшлі мяне па відэа, у іх было яшчэ відэа. Патрымалі мяне на Акрэсціна тры дні. Выпусцілі да суда пад заставу», — расказвае хлопец.

Застава, дарэчы, немаленькая — 2100 новымі рублямі.

На пытанне, чаму яны з дзяўчынай вырашылі заняцца сэксам проста пасярод вуліцы, адказвае: «Гэта ўсё жарсць, ведаеце. Мы пачалі цалавацца — і ўсё. Жарсць. Ужо было не спыніцца. Там жа не было людзей зусім, пуста. Каб людзі былі, то мы, вядома, устрымаліся б. А так… Проста жарсць успыхнула».

# Зорны час і галгофа

Чэрвень 1930 — красавік 1931: штрыхі да біяграфіі аднаго з архітэктараў беларускай нацыі. Піша **Анатоль Сідарэвіч**.

Пяць гадоў таму артыкулу да 120-годдзя з дня нараджэння Аркадзя Смоліча я даў загаловак «Маштаб асобы». З таго часу мне давялося нямала прачытаць і перачытаць, каб яшчэ пераканацца, што за чалавека мела Беларусь у асобе гэтага сацыял-дэмакрата, навукоўца і дзяржаўнага дзеяча.

Старшыня нелегальнай Мінскай гарадской арганізацыі Беларускай сацыялістычнай грамады, сябар Максіма Багдановіча, ініцыятар правядзення З'езду беларускіх арганізацый 25—26 сакавіка 1917 г., аўтар праграмы БСГ 1917 г., намеснік старшыні, а потым і фактычны кіраўнік партыі, аўтар даклада на гістарычным пасяджэнні Рады БНР 24—25 сакавіка 1918 г., народны сакратар асветы ў першым урадзе БНР, віцэ-прэм'ер у кабінеце Антона Луцкевіча, аўтар папулярнага выкладу праграмы Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі, першы старшыня Таварыства беларускай школы ў Заходняй Беларусі, першы беларускі прафесар геаграфіі ў БДУ, намеснік старшыні Інстытута беларускай культуры (ІБК) і рэдактар яго шматлікіх выданняў, заснавальнік краязнаўчага руху ў БССР і першы кіраўнік Цэнтральнага бюро краязнаўства, чалавек, які (разам з Язэпам Дылам) паспяхова распрацаваў праект адміністрацыйнага падзелу БССР, ініцыятар выдання часопісаў «Плуг» і «Наш край», арганізатар першай глебазнаўчай канферэнцыі ў БССР, ініцыятар стварэння Беларускага навукова-даследчага інстытута сельскай і лясной гаспадаркі (прапаноўваў стварыць таксама Інстытут прамысловасці, але ідэя не атрымала падтрымкі кіраўнікоў рэспублікі), адзін з распрацоўшчыкаў праекту статута Беларускай акадэміі навук...

І разам з тым аўтар класічнай «Геаграфіі Беларусі» (1919, 1922, 1923, 1993) ды яе «рэінкарнацыі» — не менш ёмістага «Кароткага курсу геаграфіі Беларусі» (1925), кніг, якія ў рэшце рэшт былі забаронены ў чатырох краінах: у Латвіі, Літве, Польшчы і Савецкім Саюзе. І аўтар прац у галіне ландшафтазнаўства, картаграфіі, эканамічнай геаграфіі, эканомікі ды арганізацыі сельскай гаспадаркі. Паказальны факт: у 2001 г. акадэмік Пётр Нікіценка і гісторык эканамічнай думкі Беларусі Віталь Бусько выдалі кніжку пра першых акадэмікаў-эканамістаў нашай краіны. І хоць Смоліч не быў уганараваны званнем правадзейнага члена БАН, аўтары палічылі патрэбным змясціць у кніжцы асобны артыкул пра яго: заслужыў і як навуковец, і як арганізатар навукі.



Аркадзь Смоліч, прафесар БДУ.

У 1930-м настаў Смолічаў зорны час. 9 мая яго працы «Размяшчэнне насельніцтва на тэрыторыі БССР» і «Сельскагаспадарчыя раёны Беларускае Савецкае Сацыялістычнае Рэспублікі» былі адзначаны Малым залатым медалём Дзяржаўнага рускага геаграфічнага таварыства. У 1930-м пачынаецца ўзыходжанне Смоліча на галгофу. Ліст старшыні Геаграфічнага таварыства Юлія Шакальскага з паведамленнем пра ўзнагароду прыйшоў у БДУ 24 чэрвеня, а 27 чэрвеня прафесара Смоліча арыштавалі.

### Перадвырашанасць

Аркадзь Смоліч быў надта прыкметнаю постаццю ў беларускім руху, каб не трапіць «на заметку» Дзяржаўнага палітычнага ўпраўлення (ДПУ). Выдадзены ў 1923 г. акт аб амністыі дзеячаў БНР быў разлічаны на наіўных і даверлівых людзей. Мэтаю гэтага акта было завабіць у СССР як мага больш тых дзеячаў вызвольнага руху, каб потым, калі праб'е «час ікс», учыніць з імі расправу. На такую думку наводзіць хоць бы «Спіс удзельнікаў беларускага нацыяналістычнага руху (1917—1924 гг.)». У гэты спіс, складзены ў самы разгар «беларусізацыі», унесена больш за 800 імёнаў — дэлегатаў III з'езда БСГ, Усебеларускага з'езда, сяброў Цэнтральнай Беларускай вайсковай рады, Рады БНР, іншых нацыянальных беларускіх інстытуцыяў. У спіс трапілі і тыя, хто стаў на бок савецкай улады ды заняў даволі значныя пасады ў яе органах і ў бальшавіцкай партыі. Гэта і яшчэ жывыя Зміцер Жылуновіч, Аляксандр Чарвякоў, Усевалад Ігнатоўскі ды іншыя, і ўжо нябожчыкі Язэп Лагун, Алесь Бурбіс ды Сцяпан Булат. Быў у гэтым расстрэльным спісе і без пяці хвілін камуніст Браніслаў Тарашкевіч, які ўзначаліць Сялянска-работніцкую грамаду ў Заходняй Беларусі.

Тут трэба зрабіць агаворку. Смоліч пераехаў з Вільні ў Менск яшчэ да амністыі — у 1922 г. Гэты сюжэт (прычыны і абставіны пераезду) яшчэ патрабуе вывучэння, а тут варта адзначыць, што Смоліч зрабіў у БССР дастаткова паспяховую кар'еру.

Некалі я спрабаваў адказаць на пытанне: чаму ж Смоліч — намеснік Ігнатоўскага ў ІБК — не стаў акадэмікам? І тлумачыў гэта не зусім прыязным стаўленнем да яго Ігнатоўскага. Цяпер можна ўпэўнена сказаць, што на тое меліся і палітыка-ідэалагічныя прычыны. Пад Смоліча пачалі «капаць» за 2 гады да арышту. Калі крытыку яго «Кароткага курсу геаграфіі Беларусі» першым сакратаром ЦК КП(б)Б Аляксандрам Крыніцкім можна лічыць эпізодам, дык крытыка ягонай працы «Арганізацыя сялянскай гаспадаркі ў раёнах Цэнтральнай Беларусі» (1926) была ўчэпістая. У 5-м нумары часопіса «Бальшавік Беларусі» за 1928 г. з'явілася ананімная разгромная рэцэнзія. На рэцэнзію А. Смоліч адказаў лістом у рэдакцыю. Публікуючы яго ў 8-м нумары, рэдактары «Бальшавіка Беларусі» змясцілі ў тым самым нумары артыкул «Яшчэ раз аб тэарэтычнай і метадалагічнай блытаніне А. Смоліча», падпісаны крыптанімам N.

Хто аўтары рэцэнзіі і артыкула, высветлілася ў 1930 г., калі ў свет выйшла кніга Сцяпана Маргелава «Супроць беларускае кандрацьеўшчыны». У гэтай кніжцы змешчаны і рэцэнзія (пад загалоўкам «Беларускі неанароднік»), і артыкул аб тэарэтычнай і метадалагічнай блытаніне А. Смоліча.

Як бачым, у 1928-м, перад пераўтварэннем Інбелкульта ў Акадэмію навук, Смолічу былі выстаўленыя сур'ёзныя абвінавачанні ў неанародніцтве і кандрацьеўшчыне. Гэта цяпер тэарэтык новай эканамічнай палітыкі (нэпа) Мікалай Кандрацьеў шануецца ў Расіі і Беларусі як аўтар тэорыі вялікіх цыклаў, а тады — у канцы 1920-х — быць аднадумцам ці паслядоўнікам Кандрацьева стала небяспечна, бо ў красавіку 1928 г. гэты навуковец быў зняты з пасады дырэктара Кан'юнктурнага інстытута пры народным камісарыяце фінансаў СССР. Сталінцы паступова і напорыста праводзілі палітыку згортвання нэпа і пераходу да калектывізацыі і паскоранай індустрыялізацыі. Лёс Смоліча як аднаго з тэарэтыкаў новай эканамічнай палітыкі ў БССР быў прадвырашаны.

### Гаваркі Іван Краскоўскі

Доўгі час я шукаў адказ на пытанне: чаму бальшавікі дазволілі Івану Краскоўскаму выехаць да дачкі ў Чэхаславакію? Краскоўскі, ветэран беларускага і ўкраінскага руху, намеснік Валадзіміра Віннічэнкі ў міністэрстве ўнутраных, а потым Дмытра Дарашэнкі ў міністэрстве замежных спраў Украіны, пасол Украіны ў Грузіі, дырэктар Дзвінскай беларускай гімназіі, член прэзідыума Дзяржаўнай планавай камісіі (Дзяржплана) БССР, дацэнт БДУ, таксама быў арыштаваны ў 1930-м. У Маскве, куды ён быў пераведзены на працу ў Дзяржплане СССР. Праўда, даведнікі кажуць, што арыштавалі яго ў канцы 1930-га, а паказанні ён пачаў даваць у ліпені.

Наагул, у біяграфіі Краскоўскага шмат што патрабуе тлумачэння. Чаму ён, не вельмі лаяльны да БНР актыўны ўдзельнік украінскага дзяржаўнага будаўніцтва, пераехаў у Вільню і зноў далучыўся да беларускага руху? Чаму такія ўплывовыя людзі, як Пятлюра, Віннічэнка ці Дарашэнка не прыгрэлі яго ва украінскіх эміграцкіх структурах?

Нехта яшчэ дасць адказы на гэтыя пытанні, а пакуль што мы канстатуем наступныя факты. Калі арыштаванаму Смолічу, як ён пісаў ва ўласнаручных паказаннях, пра існаванне антысавецкай нацыянал-дэмакратычнай арганізацыі стала вядома ад следчага ДПУ, дык былы сябар Цэнтральнага бюро БСГ Краскоўскі 11 ліпеня 1930 г. паведамляў следчаму, што арганізацыя называлася «Саюз вызвалення Беларусі» (СВБ), што ў склад кіруючага цэнтру ўваходзіў, акрамя яго, шэраг вядомых нацдэмакратаў, што арганізацыя ахоплівала некалькі соцень чалавек. Паводле Краскоўскага, філіялы арганізацыі меліся ў Віцебску, Горках, Магілёве, Гомелі ды іншых гарадах. У арганізацыі, сцвярджаў Краскоўскі, назіраліся паланафільскія настроі.

Пазней Краскоўскі канкрэтызаваў свае паказанні і паведамляў, што ў склад кіруючага цэнтру СВБ уваходзілі: ён сам, Вацлаў Ластоўскі, Сцяпан Некрашэвіч, Аркадзь Смоліч, Язэп Лёсік, Аляксандар Цвікевіч і доктар Павел Трамповіч. Ластоўскі адказваў за агульнапалітычныя пытанні і працу сярод сяброў СВБ у Акадэміі навук. Некрашэвіч вёў працу і ў акадэміі, і ў БДУ, і ў навуковых установах, і сярод краязнаўцаў. (У працы з краязнаўцамі яму дапамагаў сакратар рэдакцыі часопіса «Наш край» Мікалай Каспяровіч.) Сам Краскоўскі разам з былым настаўнікам Віленскай беларускай гімназіі, тэатральным дзеячам Мікалаем Красінскім працаваў сярод работнікаў мастацтва. Сярод медыкаў і чамусьці грамадазнаўцаў ды гісторыкаў працу вёў Трамповіч. За ідэалагічную ж працу, паводле Краскоўскага, у СВБ адказвалі Лёсік (стварэнне літаратуры нацыянал-дэмакратычнага кірунку) і Цвікевіч (распрацоўка нацдэмаўскай ідэалогіі і платформы).

У яшчэ адным пратаколе Краскоўскі расказваў пра перадгісторыю СВБ. З яго паказанняў вынікала, што «прыкладна ў 1922 годзе» быў створаны «Саюз адраджэння Беларусі» (САБ), які ахопліваў беларускія арганізацыі і беларускіх дзеячаў Літвы, Латвіі, Польшчы (Заходняй Беларусі) і Чэхаславакіі. Агульнае кіраўніцтва САБ было ў руках старшыні Рады БНР Пятры Крачэўскага, а ў склад замежнага цэнтру САБ уваходзілі, акрамя Крачэўскага, Антон Луцкевіч, Браніслаў Тарашкевіч («капаюць» бальшавікі пад таварыша па партыі), Вацлаў Ластоўскі, Аляксандр Цвікевіч, Канстанцін Езавітаў і ён, Краскоўскі.

Я апускаю тут падрабязнасці наконт структуры САБ, але звяртаю ўвагу на тое, што ў «цэнтры» гэтай выдуманай арганізацыі спалучана неспалучальнае. Ніяк не магу ўявіць Ластоўскага ў адной кампаніі з Крачэўскім і Луцкевічам. На такія камбінацыі былі здольныя толькі сталінскія «органы», якія, напрыклад, пасадзілі на адну лаву падсудных калектывізатара-сталінца Якава Якаўлева і праціўніка сталінскай калектывізацыі Мікалая Бухарына.

Відавочна, што Краскоўскі, пайшоўшы на супрацоўніцтва са следствам, даваў патрэбныя яму паказанні, а потым тыя паказанні прад'яўляліся іншым падследным, у тым ліку Смолічу. На такую думку мяне наводзяць словы «ён вельмі кепска зарэкамендаваў сябе», якія аб Краскоўскім напісаў ягоны вучань і фігурант справы СВБ гісторык Мікалай Улашчык. Шкада, што я не ведаю пра паказанні Краскоўскага на пачатку 1980-х, калі мог размаўляць з



**Анатоль Сідарэвіч**

Нар. 1948 у вёсцы Задуб'е Ганцавіцкага раёна. Гісторык нацыянальнага руху і культуры.

# Аркадзя Смоліча

Мікалаем Мікалаевічам. Я б пра многае распытаў яго. Гэта ў паказаннях Краскоўскага Улашчык названы адказным за працу СВБ сярод моладзі, перш-наперш студэнцтва. Улашчык нібыта прадставіў у СВБ кіруючы цэнтр моладзі, якая ўваходзіла ў гэтую арганізацыю.

### «Стварыць арганізацыю»

Гэта толькі гіпотэза, падазрэнне, але пэўныя эпізоды з біяграфіі Краскоўскага наводзяць мяне на думку, што для «органаў» ён быў сваім чалавекам.

Трапіўшы за краты, Смоліч даведаўся, што ён з'яўляецца не толькі сябрам, але і адным з кіраўнікоў СВБ. Трэба думаць, што гэтую навіну прафесару паведамілі са спасылкай на дацэнта Краскоўскага, а магчыма, і пасля вочнай стаўкі з ім. І Смоліч прызнаецца следству: «Прапанову «стварыць арганізацыю» я чуў разы тры ад І. І. Краскоўскага».

Краскоўскі пераехаў з Прагі ў Менск у першай палавіне ліпеня 1925 г. У сталіцу БССР ён адправіўся ў якасці разведчыка. Ад таго, як яго прымуць, пэўна, залежала, ці самараспусціцца ўрад БНР і ці пераедуць сябры кабінета ў Менск. Краскоўскага прынялі хораша. Яго жонка неўзабаве напісала ліст дачцэ, якая засталася ў Чэхаславакіі. Ліст той, як сведчыў Уладзімір Жылка, быў «вельмі ружовы». І вось рээмігрант Краскоўскі прапануе Смолічу «стварыць арганізацыю». Прапануе настойліва, не раз. Калі былі зробленыя тыя прапановы, Смоліч не ўдакладняе. Жывучы не першы год у БССР, ён добра ведае тое, пра што ў 1927-м напісаў паэт:

Ходзім мы пад месяцам высокім,
А яшчэ — пад ДПУ.

І Смоліч, які ведаў, што такое палітычныя правакацыі і правакатары, на прапановы Краскоўскага не рэагаваў. Следству ён заявіць: «Узнікла такая [арганізацыя, СВБ] ці не ўзнікла, я не бяруся сцвярджаць». Відаць, следчага такі адказ не задавальняў, і Смоліч піша: «...можна думаць, што Краскоўскі пасля няўдалых спробаў прыцягнуць мяне да гэтай справы (а можа, і раней) знайшоў усё ж сабе аднадумцаў...» І тут жа, каб не ўзвальваць віну на Краскоўскага, робіць агаворку: «Можа быць, такую працу правёў хто-небудзь іншы...»

Як бачым, Смоліч адмаўляе сваё сяброўства ў СВБ і не ідзе на поўнае супрацоўніцтва са следствам. У тых умовах, калі пра адвакатаў на допытах і цывілізаваныя юрыдычныя працэдуры нельга было і думаць, падследнаму нічога не заставалася, як лавіраваць і бараніць сябе такім чынам. Чалавек, які прайшоў праз царскую жандармерыю, Смоліч яшчэ не ведаў, што ў новых «гаспадароў» сківіцы бульдога: учапіўшыся, яны ўжо не адстануць ад чалавека, і калі не зламаюць яго псіхіку, дык давядуць да такога стану, што ён падпіша самы страшны і самы абсурдны самаагавор (знакаміты тунэль ад Бамбея да Лондана не такая ўжо і гіпербала).

### Жорсткія абвінавачанні

З паказанняў Краскоўскага вынікала, што на Смоліча ў СВБ была ўскладзена праца «па лініі сельскагаспадарчага сектару» (НДІ сельскай і лясной гаспадаркі, яго доследныя станцыі, сельгасакадэмія ў Горках ды інш. установы). Гэтую працу, паведамляў Краскоўскі, Смоліч вёў разам з кааператарам і былым кіраўніком Беларускага нацыянальнага камісарыята ў Адэсе Аўсеем Трафімавым.

У адпаведнасці з дырэктывамі цэнтру СВБ, Смоліч у сваёй практычнай арганізацыйнай працы павінен быў захапіць у свае рукі ўплыў у апараце наркамата земляробства (НКЗ) БССР і праводзіць ідэі хутарской сістэмы гаспадаркі, якая заснавана на ідэі ўмацавання гаспадарчай магутнасці моцнага сялянства.

Як вядома, стварэнне ў БССР хутароў і малых пасёлкаў было афіцыйным курсам кампартыі і ўрада ў перыяд нэпа. Вядома таксама, што партыя памыляцца не можа. Таму ў канцы 1920-х, калі «генеральная лінія» рэзка хіснулася налева, вінаватым за хутарызацыю абвясцілі наркама земляробства Дзмітрыя Прышчэпава. Аднак з часам выявілася, што ў Прышчэпава былі «натхніцелі». «Натхніцелямі» нехта Г. Арцямкоў у часопісе «Сацыялістычнае будаўніцтва» назваў Смоліча, акадэміка Гаўрылу Гарэцкага ды прафесара Івана Кіслякова.

Уздзейнічаючы на Прышчэпава, Смоліч, як мы ведаем з паказанняў Краскоўскага, узначальваў адначасова сельгассектар СВБ. А ў СВБ уваходзіла «Сялянская суполка», якая працавала ў цеснай звязцы з сельгассектарам. Задачай суполкі было практычнае супрацьдзеянне калгаснаму руху шляхам аб'яднання антыкалгасных элементаў і падрыву калгасаў знутры. «Сялянская суполка», казаў Краскоўскі, мела свае гурткі ў Менскай, Віцебскай, Аршанскай і Полацкай акругах.

З паказанняў Краскоўскага і артыкула Арцямкова вынікала, што Смоліч быў ці не цэнтральнай постаццю ў антыкалгасным руху. Аднак гэта яшчэ не ўся яго віна перад бальшавіцкай уладай.

Калі некаторыя нашы сучасныя дзеячы любяць пакпіць з БНР, то бальшавікі ставіліся да яе з усёй сур'ёзнасцю. «Здань» БНР не давала ім спакою. І таму не выпадкова Краскоўскі ў сваіх паказаннях апавядае пра тое, што на адной з нарадаў цэнтру СВБ стаяла пытанне аб размеркаванні роляў у будучым урадзе Беларускай Народнай Рэспублікі, які прыйдзе на змену бальшавіцкаму. Луцкевічу і Ластоўскаму меркавалася аддаць кіруючыя пасады (прэзідэнта і прэм'ера), Краскоўскаму — народны сакратарыят асветы, Трамповічу — аховы здароўя, Лёсіку — унутраных спраў, а Цвікевічу — замежных спраў. Нехта выказаўся за тое, каб прыцягнуць ва ўрад у якасці кіраўніка вайсковых спраў генерала Станіслава Булак-Балаховіча, але прапанова сустрэла супраціў з боку большасці сяброў цэнтру СВБ. Смолічу ў будучым урадзе БНР быў прадугледжаны партфель народнага сакратара сельскай гаспадаркі.

Гэтыя паказанні Краскоўкага старшыня Савета Народных Камісараў БССР Мікалай Галадзед агучыў у снежні 1930-га на сесіі Цэнтральнага выканаўчага камітэта рэспублікі.

### Сетка антысавецкіх арганізацый

Тэрор — запалохванне рэальных і патэнцыйных апанентаў бальшавіцкай улады — не спыняўся ні на адзін дзень. Нават у гады нэпа, пасля Вялікага тэрору 1918—1921 гг. У гады нэпа знізілася яго інтэнсіўнасць. З канца 1920-х у СССР пачалося 10-годдзе інтэнсіўнага тэрору, якое пазначана дзвюма новымі хвалямі Вялікага тэрору: 1930—1931 (калектывізацыя, ліквідацыя сялянства і стварэнне класа калгаснага сялянства) і 1937—1938 (кардынальнае знішчэнне палітычнай апазіцыі, іншадумства, у тым ліку ў бальшавіцкай партыі, генеральная ратацыя кіруючых кадраў).

У канцы 1920-х — пачатку 1930-х у СССР (паралельна са стварэннем класа калгаснікаў) адбывалася стварэнне новай, савецкай інтэлігенцыі, якая ад інтэлігенцыі папярэдняга часу адрознівалася поўнай залежнасцю і поўным паслушэнствам палітычнай уладзе.

Мэце стварэння савецкай інтэлігенцыі былі падпарадкаваны некалькі гучных спраў. Першая з іх — Акадэмічная справа, або справа Акадэміі. Галоўнымі фігурантамі гэтае справы сталі вядомыя гісторыкі Сяргей Платонаў, Яўгеній Тарле і Мацей Любаўскі (апошні плённа даследаваў гісторыю ВКЛ). Праходзіў па гэтай справе і першы рэктар БДУ акадэмік Уладзімір Пічэта. Узяўшыся за гуманітарыяў, бальшавікі не маглі не ўзяцца і за тэхнічную інтэлігенцыю. У лістападзе і снежні 1930-га адбыўся судовы працэс у справе так званай Прампартыі. На лаву падсудных трапілі інжынеры і навукоўцы, якіх бальшавікі вінавацілі ў шкодніцтве ў прамысловасці і на транспарце. Паралельна раскручвалася справа так званай Працоўнай сялянскай партыі (ПСП). Галоўнымі фігурантамі сталі вучоныя ў галіне арганізацыі і эканомікі сельскай гаспадаркі: ужо ўспомнены тут Мікалай Кандрацьеў і Аляксандр Чаянаў (настаўнік акадэміка Г. Гарэцкага). Праходзіў у гэтай справе і настаўнік Смоліча, прафесар Аляксандр Чалінцаў, вядомы як заснавальнік арганізацыйна-вытворчай школы ў аграрнай навуцы, паплечнік Чаянава. У Расіі і ва Украіне пад каток тэрору трапілі сотні аграномаў, эканамістаў і статыстыкаў (бальшавікі стваралі і новую навуку статыстыкі). З Прампартыяй і ПСП, паводле ДПУ, былі цесна звязаныя былыя сябры Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі, у якіх нібыта мелася Саюзнае бюро меншавікоў.

Гэта ж стаім мы, першакурснікі, толькі што залічаныя, на калідоры ля акна. Падыходзіць дзядзька нейкі — мажны выглядам, у гарнітуры, пры гальштуку, тварам лагодны, усміхаецца: як, студэнты, навука? Яшчэ нешта запытаўся, кожнаму руку пацiснуў і пайшоў сабе далей.

Падыходзіць Ніна, сястра, — яна ўжо на трэцім курсе была, ці не ўсіх ведала. Мы да яе — хто, маўляў, за чалавек такі ветлы? А яна смяецца: каб вы ведалі, хто рукаўся з вамі, на калені перад ім сталі б. Аказваецца, гэта быў Смоліч. Дык жа яго «Геаграфію Беларусі» ці не кожны з нас ужо ведаў да ўніверсітэта. Раней жа так нас вучылі, што нічога вартага ў гэтых беларусаў няма. А тут такая раптам кніга: і прырода, і мінулае, і культура, і звычаі, ну і граніцы свае, беларускія. Краіна, Дзяржава, Народ! Хто раней падобнае чуў, чытаў?

**Мікалай Улашчык**

Маю больш за 20 лістоў Смоліча. Цікавая душа. Чалавек з вялікай літары.

**Зоська Верас**

Спецыфічнаю была справа выдуманага Саюза вызвалення Украіны (СВУ), бо тут тэрор ажыццяўляўся ў дачыненні да нацыянальнай (не расійскай) інтэлігенцыі. У сетку ДПУ трапіла 474 украінскія інтэлігенты, 15-ці з іх быў вынесены смяротны прысуд. Галоўным падсудным у гэтай справе стаў акадэмік Сяргей Яфрэмаў (прозвішча Яфрэмаў за царскім часам было дадзена ўкраінцам Ахрыменкам).

Справу так званага Саюза вызвалення Беларусі трэба разглядаць у гэтым кантэксце. Месца беларускай інтэлігенцыі павінна была заняць беларуская савецкая інтэлігенцыя, якая залежыць ад палітычнай улады і паслухмяная ёй.

### Сувязі з Украінай, Піцерам і Масквою

Натуральна, што СВБ «не мог не мець» сувязяў з дзеячамі СВУ. Не адзін раз згаданы тут Краскоўскі паведамляў, што цэнтр СВБ накіраваў ва Украіну гісторыка і краязнаўца Аляксандра Шлюбскага, якому «было даручана разам з агульнай інфармацыяй пра нашу працу даць Яфрэмаву інфармацыю і пра арыенціровачны склад будучага ўрада [БНР]». Арыштаванаму Шлюбскаму нічога не заставалася, як пацвердзіць: у 1928 г. Ластоўскі даў яму пакет для ўручэння акадэміку Яфрэмаву. Шлюбскі ўдакладняў: «Прычым Ластоўскім было адзначана, што ў пакеце знаходзяцца некаторыя дакументы і ў прыватнасці праект размеркавання міністэрскіх партфеляў». Чытаеш такое і думаеш: кепскі канспіратар гэты Ластоўскі!..

Былі ў нацдэмаў і сувязі з піцерскімі акадэмікамі. Што тычыцца акадэмікаў, то ў бальшавікоў Беларусі быў адзін даўні клопат — як расправіцца з ганаровым старшынёй Усебеларускага з'езда і ганаровым старшынёй Рады БНР Яўхімам Карскім. Дзякуючы Краскоўскаму, ім амаль удалося падвесці Карскага пад суд. Краскоўскі, як заявіў Галадзед на сесіі ЦВК БССР, паведаміў следству наступнае: «Не памятаю дакладна, але ў 1925—1926 годзе Некрашэвіч ездзіў у Ленінград, бачыўся там з акадэмікам Карскім і інш., у прыватнасці, здаецца, з Платонавым». «Здаецца» — тут лішняе слова, бо далей Краскоўскі без сумненняў апавядае пра сустрэчу Некрашэвіча з Платонавым як пра адбыты факт. Некрашэвіч, паводле Краскоўскага, інфармаваў Карскага і Платонава «аб палітычным становішчы ў БССР і аб той нацыянал-дэмакратычнай працы, якая намі тады вялася.... Яны, у сваю чаргу, інфармавалі аб становішчы ў Акадэміі навук СССР у сувязі з перавыбарамі і аб той антысавецкай рабоце, якая вялася ў Акадэміі навук. Агульны сэнс інфармацыі Некрашэвіча зводзіўся да таго, што Карскі, Платонаў ды інш. вялі работу па кансалідацыі антысавецкіх элементаў, накіраваную на стварэнне арганізацыі. У выніку яны дамовіліся аб падтрымліванні сувязі і ўзаемнай інфармацыі».

Паказанні Краскоўскага, агучаныя Галадзедам, былі шырока растыражаваныя. Можна думаць, што ад палітычнай расправы Карскага ўратавала яго смерць 29 красавіка 1931 г.

На той самай сесіі ЦВК Галадзед паведаміў і пра сувязь нацдэмаў з Працоўнай сялянскай партыяй. Сувязі гэтыя, сказаў ён, падтрымліваліся праз Г. Гарэцкага, Смоліча ды інш. Кім жа яшчэ, як не вучнямі маскоўскіх вучоных-аграрыяў?

### І тактычны цэнтр

Калі арганізоўваўся Навукова-даследчы інстытут сельскай і лясной гаспадаркі, паўстала пытанне: хто будзе дырэктарам? Смоліч прапанаваў на гэтую пасаду Г. Гарэцкага. Дарма, што той упарціўся і хацеў прадоўжыць сваю вучобу ў Маскве.

Малады дырэктар (ён нарадзіўся ў 1900 г.) узяўся за працу шчыра, з размахам. Была арганізавана праца шэрагу навукова-даследчых станцыяў — балотнай, лясной, бульбяной, буйной рагатай жывёлы, аховы раслін... За кароткі час выйшла 10 кніг рэгулярнага выдання «Сельская і лясная гаспадарка». Але і пад Гарэцкага пачалі «капаць». Супрацоўнік інстытута Пётр Пінчук у 1929 г. апублікаваў у маскоўскім часопісе «На аграрном фронте» адмоўныя рэцэнзіі на кнігі Івана Кіслякова ды Сяргея Ждановіча, выдадзеныя інстытутам. Кіслякова ён назваў неанароднікам, а Ждановіча — рэакцыянерам і кандрацьеўцам. Потым да Пінчука далучыўся вучань Гарэцкага, той самы Маргелаў, які ў 1928-м «капаў» пад Смоліча.

Г. Гарэцкага арыштавалі 24 ліпеня 1930 г. у Хосце каля Сочы, куды ён прыехаў на курорт. З Прычарнамор'я па этапу яго адправілі ў Менск.

**Працяг на старонцы 23.**

# Замах на імператара

Справа пана Любанскага пачалася ў беларускай глыбінцы (не кожны адкажа на пытанне, дзе тая вёска Мішаны), але дайшла да самых высокіх кабінетаў імперыі. Але спачатку было каханне. Піша гісторык-архівіст **Зміцер Дрозд**.

### Анёльскія вочы

«Францішка Любанская, застаўшыся ўдавою пасля смерці першага мужа яе Багдановіча, пазнаёмілася з Любанскім, прыняла яго ў свой дом і, маючы намер выйсці за яго замуж, у 1829 выдала яму на маёнтак свой Мнішаны дарчы запіс... толькі з тою мэтай, каб даць яму права ўдзельнічаць у дваранскіх выбарах...»

Маёнтак Мнішаны стаў сённяшняй вёскай Мішаны Валожынскага раёна. Гісторыю кахання Францішкі з Ліпскіх, набеднай удавы, і Бенядзікта Гржымайлы Любанскага да нас данёс будучы беларускі класік Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч. Праўда, не ў вершаванай форме, а ў прашэннях. Малады юрыст Марцінкевіч быў судовым пaвераным Любанскай. Аднак нават афіцыйныя дакументы ён складаў так, што яны здольныя былі крануць сэрцы чыноўнікаў: «Даверніца мая, ...пазнаёміўшыся з адстаўным польскіх войскаў капітанам Любанскім, кранутая абсалютнай яго беднасцю, прыняла яго ў свой дом і, ашчаджаючы, у гадах 1827, 1828 і 1829 на ўтрыманні... не шкадавала выдаткаў у дастаўленні яму свабоднага жыцця; здолеў Любанскі прыхаваць лад сваіх думак, паказваючы сябе чалавекам чыстых правілаў, і не шкадаваў высілкаў і намаганняў даказаць да даверніцы маёй каханне сваё, так што яна мела намер выйсці за яго замуж. У такіх абставінах набліжаліся ў 1829 годзе дваранскія Мінскай губерні выбары, у якіх і Бенядзікт Любанскі абавязкова жадаў удзельнічаць ...даверніца мая, жадаючы даць яму сродкі, каб атрымаць годнасць памешчыка, выдала... на карысць Бенядзікта Любанскага на маёнтак Мнішаны дарчы запіс... У 1830 годзе Любанскі, уступіўшы ў шлюб з даверніцаю маёю, забыўся пра міласці жонкі сваёй, чалавечую годнасць і вернападданніцкага Гаспадара, прыгнятаў сялян, прыгнятаў жонку сваю і асмеліўся супроць Найвышэйшай улады...»

Аўтар не шкадаваў фарбаў, каб апісаць высакароднасць даверніцы і хцівасць альфонса. У Нацыянальным гістарычным архіве захавалася некалькі лістоў, канфіскаваных падчас вобшуку ў доме Любанскіх — найлепшая ілюстрацыя развіцця іх адносін. Адзін з першых, адрасаваны Бенядзіктам Францішцы ў самым пачатку адносін, пачынаецца ў рамантычным стылі: «Пані! Калі прамень ранняга сонца расплюшчыць твае анёльскія вочы, каб ты другім сонцам бліснула для свету, мае вочы, пакрытыя чорнай імглой ночы, заплюшчацца навекі...»

### Подлы характар

Але скора пасля вяселля сітуацыя кардынальна змянілася. Пра тое, што Любанскія дрэнна жывуць між сабою, было вядома ўсёй акрузе. Дакацілася нават да маршалка мінскай шляхты, сваяка Бенядзікта, Яна Любанскага. Ён пісаў рэзкія лісты, патрабуючы, «каб да жонкі, якая твой лёс забяспечыла, быў далікатным і ўдзячным ці вярнуў ёй маёнтак, інакш як фізічна, так і маральна будзеш шкадаваць».

Бенядзікт Любанскі ўмудрыўся пасварыцца і з іншымі сваімі братамі. Пра яго характар можа сведчыць ліст аднаго з іх (хутчэй за ўсё, Віктара Любанскага — актыўнага ўдзельніка паўстання 1830—1831): «І не спадзяваўся я, што ты такога подлага нораву, што будзеш ачарняць мяне перад маёй жонкай, нібыта я табе хваліўся, што з дзеўкаю Ульянкаю жыў, чаго ніколі не рабіў і пану не хваліўся. А ведаючы, што жонка мая раўнівая, там больш не павінен быў у шлюбе нашым тварыць падкопы, і з гэтага часу наша братэрская любоў скончана».

### Забойства сялян, разбэшчванне малалетніх...

Але найбольш перапала самым безабаронным людзям — прыгонным Любанскага. У маі 1834 звесткі пра яго жахлівае стаўленне да прыгонных дайшлі да губернскага начальства, пачалося расследаванне. У маёнтку Мнішаны зладзілі ператрус, а сам Любанскі быў затрыманы ў Мінску на сваёй кватэры. Прычым справа са сферы нораваў набыла палітычны паварот. Мінскі цывільны губернатар Аляксандр фон Дрэбуш пісаў з пазнакай «сакрэтна» чыноўніку па асаблівых даручэннях: «Жонка памешчыка Бенядзікта Любанскага падала да мяне запіскі, у якіх выкладае розныя мяцежніцкія як запіскі, так і дзеянні яе мужа. Бенядзікт Любанскі затрыманы мною ў Мінску пад паліцэйскім наглядам, і ў яго па даручэнні маім ...зроблены ператрус».

Сведчанні аб прыгнёце пацвердзіліся. «Уціск сялян у працах празмерны — пакаранне іх жорсткае, ад якога ён прыспешыў смерць двум сялянам. Забіранне жывёлы, крадзеж па загадзе Любанскага чужога лесу, гвалт ім жанчын і дзевак, паміж якімі па сутнасці малалетнія, няспелыя. Утрымальніцтва збеглага, самім Любанскім здадзенага рэкрута, і поўная беднасць сялян у харчаванні, ажно да таго, што яны, не маючы хлеба і солі, елі траву з асотам і шчаўе без іх...» — пісаў у рапарце следчы.

Але гэта блякла перад сур'ёзнасцю другога абвінавачання — удзел у тайнай арганізацыі ці нават падрыхтоўка новага бунту (на дварэ стаяў 1834, калі яшчэ з мінулым паўстаннем не да канца разабраліся): «Любанскі характару вельмі неспакойнага, смелага, прадпрымальнага і нядобразычлівага. У яго, напэўна, былі ў Мнішанах нейкія важныя паперы, але яшчэ да прыбыцця майго на месца захопленыя і вывезены кімсьці, у чым выяўляецца саўдзел эканома арандатара габрэя і мінскага вознага Гедройця».

Яшчэ з апытання суседзяў, служак і прыгонных удалося дадаць, што «Любанскі ...многія рабіў злосныя вымовы, а летам мінулага года насіў запушчаную бараду ў знак жалобы па Польшчы»... Падобна, што ў пытаннях маральнасці для следства значна большае значэнне меў не гвалт, а палітычная нядобразычлівасць, таму злосныя вымовы і барада былі большымі злачынствамі, чым смерць двух сялян або згвалтаванне непаўналетніх.

### Бунтаўнічая прысяга

Пры канцы жніўня ўмовы стрымання Любанскага пачынаюць пагаршацца. Спачатку па распараджэнні губернатара ў яго кватэры быў пастаўлены вайсковы каравул, а праз два дні Любанскага з-пад хатняга арышту перавялі на мінскую гаўптвахту.

Аказваецца, следчы адкапаў у яго паперах шуканае, і не абы-што — а новую паўстанцкую прысягу! На жаль, яе тэкст пакуль не выяўлены, бо тое, з якой цікавасцю вывучалі гэтую «бунтаўнічую прысягу» на самых высокіх дзяржаўных узроўнях, безумоўна, павышае яе гістарычную каштоўнасць. Яе чыталі ў Вільні паліцэйскія чыны, цывільны губернатар і генерал-губернатар. Высновы былі адназначныя: «Прысяга відавочна зламысная, ніколькі не падабенствае з той, што была ў мяцежнікаў падчас замяшання тутэйшага краю ў 1831 годзе; ...па ўласным прызнанні Любанскага, яна перапісана ім у 1833, праз два гады пасля паўстання ў вернутых ад Польшчы губернях; патрэцяе, у ёй згадваецца пра магчымае зламыснае таварыства...»

Аднак Любанскі, нават прыціснуты доказамі, выкладаў следчым іншую версію падзей, абвінавачваючы ва ўсім Францішку Любанскую. Нібыта прысягу, як ён сцвярджаў, перапісаў па яе просьбе, а прывезеная прысяга была ад другога даўняга ворага, суседа Караля Бжазоўскага. Мінскі губернатар вымушаны быў адзначыць у рапарце свайму начальству, што «...па цвёрдасці, а больш закаснеласці характару ...нельга спадзявацца звычайнымі допытамі атрымаць чыстасардэчнае прызнанне».

Цяжка сказаць, ці намякалі генерал-губернатару на неабходнасць асаблівых (незаконных) мер для таго, каб разгаварыць падазраваных. Пры жаданні і ў адказе з Вільні можна знайсці сакрэтны дазвол ужыць усе спосабы дазнання: «ужыць разнастайныя сродкі да выяўлення», «прыкласці ўсё старанне» і «адкрыццё гэтае, якое можа паказаць і іншых членаў такога шкоднага па сэнсе самой прысягі таварыства, будзе як для мясцовага начальства, так і ўвогуле для Урада вельмі важным, і я з нецярпеннем чакаць буду паведамленняў аб наступствах распараджэнняў Вашых»...

Любанскага было загадана «ўтрымліваць ...у Мінскім астрозе асобна ад усіх арыштантаў».

Справа хутка разрасталася, выходзячы на самыя высокія ўзроўні ў Расійскай Імперыі. Яна дакацілася да Санкт-Пецярбурга, трапіўшы на стол графу Бенкендорфу, начальніку тайнай паліцыі імперыі.

### Замах на галоўнакамандуючага

Следчыя імкнуліся знайсці яшчэ хоць нейкія доказы супраць Любанскага, і хутка «бунтаўнічая прысяга» здалася ім кветачкамі. А вось ягадкі: следства высветліла, што братам Бенядзікта быў Францішак Любанскі, які «падчас знаходжання ў Мінскім павеце пражываў па прычыне хваробы ў мястэчку Койданава ў ксяндза Завусцінскага і нібыта меў нейкі злы намер пры праездзе праз гэта мястэчка яго сіяцельства галоўнакамандуючага дзейнай арміяй...»

У студзені 1832 галоўнакамандуючым быў граф Паскевіч-Эрыванскі, які задушыў паўстанне 1830—1831, — аб'ект нянавісці для ўсіх, хто марыў аб аднаўленні незалежнасці палякаў.

Аднак праведзены ў Франца Любанскага ператрус нічога не даў, а на допытах ён і не збіраўся каяцца, сцвярджаючы, што «ў 1833 сапраўды пражываў у названага ксяндза па прычыне хваробы, якая здарылася падчас перамяшчэння яго з Мінска ў Варшаву для адшукання службы; ...знаходжанне ў ксяндза Завусцінскага было відавочнае і падчас хваробы не чуў нават, ці праязджаў хто-небудзь са значных рускіх асоб праз Койданава».

Прыйшлося пакінуць Франца Любанскага на волі, праўда, пад негалосным паліцэйскім наглядам. Справа, якая, здавалася, і так ужо на максімуме па сур'ёзнасці выстаўленых абвінавачванняў, у верасні 1834 выйшла на самы высокі ўзровень. Падобна, Францішка Любанская, якая стамілася чакаць суда над мужам, вырашыла выкласці апошнія козыры і напісала губернатару яшчэ адну запіску...

### Замах на імператара!

«Муж яе Бенядзікт Любанскі, калі бываў у добрых з ёю стасунках, прызнаваўся ёй: што гасудар Імператар мае быць забітым пры передачы кніжачкі, але на дзве гадзіны спазніліся. Іван Любанскі, які складаў і падаваў гэтую кніжачку, стацкі саветнік, што называецца маршалкам, і цяпер сядзіць у Санкт-Пецярбургу не дарэмна, і на яго трэба мець вочы».

Замяшаны ў гэтай справе яшчэ адзін Любанскі граў не апошнюю ролю ў Мінскай губерні і быў вельмі ўплывовым чалавекам — Францішка ў сваім даносе пісала, што ў выпадку поспеху «бунту» ён меў бы прэтэнзію на трон польскага караля. Сышчыкі без цяжкасці ўзрабілі пра яго даведку: «У ваенны 1812 года час, прадпрымаючы супраць Расеі, фармаваў полк, атрымаў чын палкоўніка. Кніжачка, якую падносіў гасудару Імператару, складзена ім, Любанскім, і пададзеная ў сакавіку месяцы 1826 года. Віктар і Бенядзікт Любанскія — гэта стрыечныя яго браты, з якіх першы, як і Аляксандр Валадковіч, дакладна былі паўстанцамі ў Вілейскім павеце 1831 года, і абодва яны да сёння знаходзяцца за мяжою. Сам жа ён, стацкі саветнік Іван Любанскі, ад'ехаў у Санкт-Пецярбург па квітку 26.08.1833 года за №616/14523 на год, і хоць ён нядаўна даслаў прашэнне аб аднаўленні выдачы білета, але яно застаецца без зацвярджэння».

Аднак, калі ўчытацца ўважліва ў рапарты, у іх заўважаецца некаторы недавер. Генерал-губернатар піша мінскаму губернатару, што «толькі словы жонкі Бенядзікта Любанскага, якая захвочаная ў паказаннях сваіх, бо ахопленая злосцю супраць мужа, не могуць яшчэ служыць верным доказам на Івана Любанскага падазрэння». Выдатная прэзумпцыя невінаватасці! Нават калі і сам казаў — гэта нічога не даказвае.

Відаць, следчыя ўнізе стараліся як маглі, вышукваючы ўсё новых падазраваных, а высокае начальства ім не верыла, спісваючы ўсё на выхадкі пакрыўджанай жанчыны. Але пакідаць без увагі такія абвінавачванні ніхто не мог. За Янам Любанскім і ўсімі яго саўдзельнікамі ў Санкт-Пецярбургу былі ўведзены негалосны паліцэйскі нагляд. Але, відаць, для яго гэтым усё і скончылася.

### «Даказаў нашэннем на барадзе адрошчаных валасоў»

Прайшло больш за паўгода, як было распачата следства, што патрабавала нямала чалавечых рэсурсаў і выйшла далёка за межы губернскага Мінска. Часы былі такія, што адной бунтаўнічай прысягі было дастаткова, а яна была ў руках следчых. Таму генерал-губернатар Далгарукі загадаў аддаць гэтую справу на разгляд вайсковаму суду: «Любанскі ў вымаўленні дзёрзкіх словаў на Высокую Асобу, з намерам замахнуцца на яе жыццё; нядобразычлівасці да Расійскага Урада; захаванні ў сябе прысягі і папер, якія даказваюць шкодныя схільнасці яго з мэтай парушэння грамадскай бяспекі; ...зласлівых пачуццях шкадавання пра страту ўяўнай сваёй айчыны, што відавочна даказаў нашэннем на барадзе адрошчаных валасоў, не прапанаваў у апраўданне сваё ніякіх грунтоўных доказаў. Таму, прызнаючы Любанскага ва ўсіх вышэйпададзеных злачынствах вінаватым, пакорліва прашу Вашу Вялікасць перадаць яго неадкладна да менскага камендanta



**Зміцер Дрозд**

гісторык-архівіст, аўтар кніг «Землеўласнікі Мінскай губерні 1861—1900», «Землеўласнікі Мінскай губерні 1900—1917». Пасля Плошчы-2010 быў асуджаны за ўдзел у «масавых беспарадках» на тры гады калоніі ўзмоцненага рэжыму. Выйшаў на волю ў жніўні 2011.

# ці жончын нагавор?

для перадачы вайсковаму суду...»

І ўсё гэта злачынства выявілася ў адпусканні барады! Канчатковага рашэння Любанскаму давялося чакаць яшчэ год, пасля чаго ён быў «прызначаны да адпраўлення на жыхарства ў Вяцкую губерню, а маёнтак яго вырашана пакінуць у ведамстве дваранскай апекі да рашэння Мінскай крымінальнай палатай справы аб жорсткім яго абыходжанні з сялянамі».

Адтуль Любанскі пачаў барацьбу за «сваю» нерухомасць — маёнтак Мнішаны, у якую быў замяшаны і наш будучы класік. З 1841 Вінцэнт будзе паверaным Любанскай, якая, знаходзячыся ў вялікай нястачы, нават нейкі час жыла ў яганым доме. Як растлумачыць такі клопат паверaны Любанскага: «Марцінкевіч дамовіўся з ёю набыць Мнішаны».

### «Дзеўку трымаў на жалезным ланцугу»

Следства ж па крыўдах, учыненых сялянам, працягвалася і тады, калі Любанскі насалоджваўся суровымі вяцкімі пейзажамі. І толькі ў 1837 Мінская крымінальная палата вынесла па гэтай справе рашэнне. Следчыя далі фактычны матэрыял, здольны ўпрыгожыць любое даследаванне пра жахі прыгоннага права. Высветлілася, што Любанскі «дзеўку Франку Аляксандравічаву трымаў на жалезным ланцугу, прыкаванай да сцяны, і абстрыг ёй валасы», «селяніна свайго Франца Гіля... пабіў нібыта жалезным гакам», «за правінасці караў жорстка, ад чаго нібыта Павел Жылінскі і Мацей Акула памерлі». Але ўсё гэта бляклa перад сэксуальнымі «подзвігамі» 56-гадовага Любанскага: «жанчын і дзевак, чыіх паказанняў лікам дзевятнаццаць, гвалтаваў і вёў з імі блуднае жыццё, большай часткай прымушаючы іх да таго страхам і збіццём». Гэта абвінавачанне пацвердзілі ўсе 19 пацярпелых, сярод якіх былі як дзяўчаты і ўдовы, так і замужнія жанчыны. Малодшым ахвярам было ўсяго па 12, а старэйшым — па 40 год.

Аднак Любанскі трымаўся абранай тактыкі, «тлумачыў, што наветы на яго ўзведзеныя сялянамі па нагаворы жонкі». Ці то сапраўды не быў вінаваты, ці то быў пэўны ў сіле сваіх сувязяў у мінскіх судах.

Мінская палата крымінальнага суда знайшла ў следстве працэсуальныя памылкі. Напрыклад, многія паказанні, якія пацвярджалі скаргі мнішанскіх сялянаў, заснаваныя «на чутым невядома ад каго». Частка сведкаў мела рахункі з Любанскім, і іх паказанні не ўлічылі. Сам абвінавачаны казаў, што следчы Багдановіч «быў жонкі яго, па першым шлюбе Багдановічавай, паверaным».

Былі і іншыя сур'ёзныя апраўданні: напрыклад, медычнае асведчанне паказала, што з дзяўчат, якія вінавацілі Любанскага ў згвалтаванні... тры аказаліся цнатлівымі. А адзін з сведкаў паказаў, што Франку Аляксандравічаву пасадзіла на ланцуг сама Францішка Любанская.

Любанскага апраўдалі! Але гэтага суду падалося недастаткова, і ўсе 19 жанчын, якія расказалі пра згвалтаванне ці блуднае жыццё з панам, былі пакараныя: аддадзеныя на царкоўнае пакаянне, трапілі пад духоўны суд, а адну з тых, што выявіліся цнатлівымі, загадана было «трымаць пры паліцыі тыдзень»!

У чым прычына такога рашэння? Магчыма, нейкую ролю адыграла стаўленне да чалавека, які і так ужо быў высланы ў тайгу. Магчыма, справа ў сувязях: Мінскую цывільную палату суда тады ўзначальваў сябар і сваяк Любанскіх Яўстах Прушынскі, а засядацелем у крымінальнай палаце быў Мечыслаў Прушынскі... А магчыма, Бенядзікт Любанскі сапраўды быў ахвярай падступнай жонкі і яе хаўруснікаў, але суд разабраўся — і праўда перамагла...

### Перад смерцю памірыліся

Чым жа скончылася гэтая гісторыя для саміх Любанскіх? «У лютым 1847 Бенядзікт і Францішка Любанскія падалі міравое прашэнне аб спыненні як судовай справы... так і следства... прычым патлумачылі, што яны маёнтак Мнішаны, з нагоды якога паўсталі азначаныя справы, прадалі дваранам Клімантовічам і атрыманую суму за пагашэннем даўгоў згадзіліся паміж сабою размеркаваць». Планы Вінцэнта Марцінкевіча атрымаць суседні з Люцынкай маёнтак праваліліся. Любанскім нядоўга заставалася пражываць пакінутыя ад продажу Мнішанаў грошы: Францішка памерла 16 ліпеня 1848, а Бенядзікт Любанскі — 27 жніўня 1849 года. Абое памерлі ў Мінску.

Паказальна, што, выступаючы ў гэтай гісторыі на баку Любанскай, якая фактычна «здала» свайго буйнага мужа ў рукі расейскіх уладаў, Марцінкевіч выступае супраць польскіх патрыётаў, якія ваявалі на баку Напалеона за адраджэнне Польшчы, а потым актыўных удзельнікаў паўстання 1830—1831 гадоў. Супраць тых, хто, як ён сам сфармуляваў у заяве, забыў пачуцце «вернападданага Гасудара... і асмеліўся супроць Найвышэйшай улады». Напэўна, гэта шмат у чым характарызуе і самога будучага класіка, і яго стаўленне да «польскага пытання». Больш за ўсё ў тыя гады яго цікавіла ўладкаванне ўласнага жыцця — у канцы 1831, калі Бенядзікт Любанскі насіў жалобу, Вінцэнт выкраў сваю будучую жонку і адсвяткаваў вяселле. Але ў гісторыі з Мнішанамі ён, падобна, не нажыў нічога, акрамя непрыемнасцяў, якія яшчэ 10 гадоў пераследавалі яго.

Чаго ж было больш у тых гісторыях аб рыхтаваных замахах: нагавору пакрыўджанай жонкі, п'янай балбатні Любанскага, жадання тагачасных спецслужбаў зарабіць ордэны, званні і чыны ( «сілавікі» ўсіх часоў аднолькавыя) або рэальных планаў патрыётаў, якія і праз 40 гадоў акупацыі марылі адпомсціць за зняважаную Радзіму?

# Магілы паўстанцаў, брукаванка, міква: топ-20 аб'ектаў, што сталі гісторыка-культурнымі каштоўнасцямі

Стаў вядомы спіс аб'ектаў, якім Савет міністраў Беларусі надаў статус гісторыка-культурнай каштоўнасці. «Наша Ніва» склала рэйтынг найбольш цікавых аб'ектаў, якія цяпер будуць знаходзіцца пад аховай дзяржавы.

**Трышынскія могілкі (Брэст)**
Маюць назву ад паселішча Трышын, якое ў ХХ стагоддзі ўвайшло ў межы Брэста. Гэта, мабыць, самыя старыя могілкі Брэста. Многія надгробкі цікавыя з гістарычнага гледзішча.

**Свята-Траецкая царква ў Вялікай Сваротве (Баранавіцкі раён)**
Пабудаваная ў 1823 годзе. Адзіная ў сучаснай Беларусі трохкутная царква.

**Крыж і капліца ў гонар бітвы пад Мілавідамі (Баранавіцкі раён)**
Праваслаўны крыж пастаўлены ў 1913 годзе ў гонар расійскіх жаўнераў, што загінулі ў 1863 годзе пад Мілавідамі. Капліцу ўзвялі ў 1933 ужо ў гонар паўстанцаў Каліноўскага.

**Чыгуначная станцыя ў Дубіцы (Брэсцкі раён)**
Самая паўднёвая станцыя Брэсцкага раёна. Прыцягвае ўвагу кінематаграфістаў з розных куткоў за сваю маляўнічасць.

**Магіла паўстанцаў у Косаве (Івацэвіцкі раён)**
Парафіянамі мясцовага Свята-Траецкага касцёла былі пахаваныя тры паўстанцы — Лукашэвіч, Красінскі і яшчэ адзін невядомы. У 1928 годзе на гэтым месцы з'явіўся гранітны крыж.

**Могілкі часоў Першай сусветнай вайны ў Няхачаве (Івацэвіцкі раён)**
Пахаванні аўстрыйскіх і нямецкіх салдат датаваныя 1914—1918 гадамі.

**Царква ў Лескавічах (Шумілінскі раён)**
Маляўнічая царква ў рэтраспектыўна-рускім стылі.

**Драўляная забудова вуліцы Парыжскай Камуны (Гомель)**
Адна з візітных картак Гомеля — унікальная драўляная забудова. Хаця не ўсе будынкі дачакаліся надання статусу гісторыка-культурнай каштоўнасці.

**Касцёл Святога Міхаіла Арханёла (Ашмяны)**
Пабудаваны ў 1906 годзе па праекце архітэктара Вацлава Міхневіча. Архітэктура — неабарока.

**Помнік Францішку Багушэвічу ў Жупранах (Ашмянскі раён)**
Пастаўлены ў 1958 годзе. Аўтар помніка — Заір Азгур.

**Свята-Траецкая царква (Зэльва)**
Доўгі час прыхаджанкай царквы была вядомая паэтка Ларыса Геніюш.

**Касцёл Святых Сымона і Юды Тадэвуша ў Лаздунах (Іўеўскі раён)**
Неараманскі храм у цэнтры вёскі Лаздуны.

**Комплекс касцёла Святога Уладзіслава ў Суботніках (Іўеўскі раён)**
Неагатычны храм на радзіме Зянона Пазняка.

**Крыжаўзвіжанская царква ў Дзяляцічах (Навагрудскі раён)**
Помнік народнага дойлідства. Пабудаваны ў 1876 годзе з дрэва.



Упершыню помнікам прызнаная брукаванка. Гэта дарога Новы Свержань — Мір (Стаўбцоўскі раён).



Свята-Траецкая царква ў Вялікай Сваротве (Баранавіцкі раён) — адзіны ў краіне трохкутны храм.

**Свята-Раства-Багародзіцкая царква ў Міжэвічах (Слонімскі раён)**
Помнік драўлянага дойлідства, маецца драўляны іканастас. Пабудаваная ў 1867 годзе.

**Царква Святой Параскевы ў Берштах (Шчучынскі раён)**
Пабудаваная ў 1816 годзе з дрэва. Бершты — радавое гняздо палітыка Аляксандра Мілінкевіча.

**Міква ў Зембіне (Барысаўскі раён)**
Міква — гэта рытуальная габрэйская лазня. Зембін — мястэчка, якое мае вялікую габрэйскую гісторыю.

**Магіла паўстанцаў у Плябані (Маладзечанскі раён)**
Яшчэ адно месца ўшанавання паўстанцаў 1863 года. Тут пахаваны кіраўнік паўстання на Маладзечаншчыне Юльян Бакшанскі.

**Хата Максіма Танка (Мядзельскі раён)**
Пількаўшчына — месца, дзе нарадзіўся вялікі беларускі паэт.

Зміцер Панкавец

# Мангольскі варыянт

Як у 1924-м праваліўся план абвясціць Ашмянскую народную рэспубліку і «паклікаць на дапамогу» Чырвоную Армію. Піша гісторык **Андрэй Вашкевіч**.

Халодная ноч 4 жніўня 1924 г. Па плошчы перад будынкам павятовай адміністрацыі ў Стоўбцах нясе варту ўзброены паліцыянт Лявон Пікерт. Раптам ён чуе крык: «Стоять, ні с места!» Пікерта ратуе маланкавая рэакцыя. Ён паспявае ўскочыць у староства ў той момант, калі па будынку пачынаюць ляскаць кулі, выпушчаныя з дзясятка вінтовак і некалькіх ручных кулямётаў. Адначасова пачынаецца атака вакзала, аддзелаў паліцыі і мясцовай турмы. Штурмавікі выкарыстоўваюць гранаты, піраксілінавыя шашкі і, захапіўшы турму, выпускаюць адтуль зняволеных (большасць з іх ранкам вяртаецца назад). Уланы, якія з боку Новага Свержаня скачуць да Стоўбцаў на дапамогу паліцыі, затрыманыя агнём некалькіх кулямётаў.


«Чырвоныя партызаны» — удзельнікі памежных дыверсій пачатку 1920-х.

А палове трэцяй ночы дыверсійны аддзел сыходзіць з мястэчка ў бок савецкай мяжы. Польскія жаўнеры наганяюць яго, аднак змушаны залегчы пад агнём кулямётаў і вінтовак... савецкіх пагранічнікаў, якія прыкрываюць уцекачоў. На вачах у польскіх афіцэраў некалькі дзясяткаў узброеных людзей пераходзяць мяжу. У Стоўбцах ды ваколіцах застаюцца сем забітых паліцыянтаў і некалькі цывільных асоб, а таксама два паранения і ўзятыя ў палон баевікі.

Гэтую і іншыя акцыі беларускіх партызан гадамі праслаўлялі ў шматлікіх публікацыях, пра ўзяцце Стоўбцаў напісаў адзін з арганізатараў і ўдзельнікаў гэтай акцыі Герой Савецкага Саюза этнічны літовец Станіслаў Ваўпшасаў. Адзіная акалічнасць, пра якую не згадваў ніхто з савецкіх гісторыкаў ды мемуарыстаў, — тое, што большасць партызанскіх атрадаў атакавала палякаў не з беларускіх лясоў ды балот, а проста з-за мяжы СССР.

Польскія ўлады вельмі хутка даведаліся, што партызанамі называць тых, хто атакаваў Стоўбцы, можна толькі ўмоўна.



**Андрэй Вашкевіч**

нар. 1982 г. Гісторык і краязнаўца. Скончыў Гродзенскі дзяржаўны універсітэт імя Янкі Купалы. Піша пра гісторыю Гродна і розныя аспекты гісторыі беларускага нацыянальна-вызваленчага руху першай паловы XX ст. Аўтар і суаўтар некалькіх кніг. Апошняя кніга «На гродзенскім бруку» выйшла ў ліпені 2016. Жыве і працуе ў Гродне.


Пастарунак паліцыі ў Стоўбцах пасля атакі 4 жніўня 1924 г.

Узяты ў палон баявік Пётр Ёда расказаў следчым, што іх аддзел некалькі месяцаў праходзіў трэніроўкі ў Менску ў казармах на вуліцы Нямецкай і перайшоў мяжу з Польшчай толькі за суткі да нападу на Стоўбцы. Добра трэніраваныя «паўстанцы» былі ўзброены вінтоўкамі, наганамі, ручнымі кулямётамі, мелі шмат гранат і маглі спакойна ўступаць у бой з невялікімі атрадамі польскай арміі. Галоўнай мэтай нападу на Стоўбцы было вызваленне дзеячаў Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі Лагіновіча і Мертэнса, якіх палякі схапілі пры спробе пераходу мяжы і збіраліся адправіць у Вільню.

Партызаны Ваўпшасава былі дыверсійным аддзелам, падпарадкаваным Разведупру — упраўленню вайсковай разведкі пры штабе Чырвонай Арміі. Нягледзячы на мірныя дамовы, заключаныя Савецкай Расіяй з большасцю краін-суседзяў, савецкія спецыяльныя службы вялі за блізкай мяжой так званую «актыўную разведку», якая заключалася ў падтрымцы ўзброеных камуністычных або проста антыўрадавых фарміраванняў з мэтай дэстабілізацыі палітычнай сітуацыі ў гэтых краінах. Такая дзейнасць добра ўпісвалася ў стратэгію «перманентнай рэвалюцыі», паводле якой перамога бальшавікоў у Расіі была толькі першым крокам да хвалі рэвалюцый па ўсім свеце, а савецкі ўрад быў быццам толькі дадаткам да Камінтэрна і павінен быў забяспечваць камуністаў-замежнікаў усім неабходным для рэвацыйнай барацьбы.

З восені 1918 да восені 1923 г. некалькі камуністычных паўстанняў адбываецца ў Германіі, да лета 1921 г. савецкі экспедыцыйны корпус знаходзіцца ў Іране, у верасні 1923 г. адбываецца паўстанне ў Балгарыі, дзейнічаюць навучаныя савецкімі ваеннымі саветнікамі партызаны ў Румыніі і Чарнагорыі, плануюцца камуністычныя перавароты ў краінах Балтыі і Фінляндыі. У лістападзе 1924 г. у выглядзе пратэктарату СССР абвяшчаецца Мангольская Народная Рэспубліка, якая больш чым два дзесяцігоддзі была прызнана толькі Савецкім Саюзам.

Выглядае на тое, што многім беларускім дзеячам імпанаваў варыянт паўстання на заходнебеларускіх землях нейкай квазінезалежнай беларускай рэспублікі пад савецкім пратэктаратам па мангольскім варыянце. Тым больш што некаторы ўплыў на сітуацыю ў Заходняй Беларусі беларускія камуністы мелі. З 1921 г. дзейнічала заграпічнае бюро пры ЦК КП(б)Б, а летам 1924 г. было ўтворана спецыяльнае бюро дапамогі Заходняй Беларусі, куды ўвайшлі беларускія дзеячы-камуністы Ігнатоўскі, Адамовіч і Чарвякоў. Сувязь Менска і Вільні наладжваў вядомы беларускі патрыёт Пётр Ільючонак. З канца 1923 г. актыўна дзейнічала Камуністычная партыя Заходняй Беларусі, адным з лідараў якой стаў прысланы з-за савецкай мяжы ў пачатку 1924 г. выхадзец з наднёманскіх Ярэмічаў Міхаіл Ханевіч, беларускі камуніст, які дзейнічаў пад псеўданімамі Гурын і Маразоўскі. Перад ім была пастаўлена канкрэтная задача — арганізаваць КПЗБ на антыпольскае паўстанне.

Здавалася, інтарэсы беларускіх патрыётаў, зацікаўленых у з'яўленні і ўмацаванні хаця б якой формы беларускай дзяржаўнасці, і камуністаў, якія імкнуліся да сусветнай рэвалюцыі, супадалі. Аднак былы сакратар Сталіна Барыс Бажанаў у сваіх успамінах згадвае, што для большасці членаў Палітбюро, апрача хіба толькі Троцкага, спробы пачаць «рэвалюцыю» ў Еўропе ўжо першай палове 1920-х гг. выглядалі больш гульнёй, а не рэальнай стратэгічнай мэтай. І найменш зацікаўленым у вялікім еўрапейскім канфлікце з удзелам СССР быў Сталін. Ён быў апантаны перспектывай захопу поўнай улады ўнутры краіны, таму цягам 1924 г. з высокіх партыйных трыбун усё часцей згадвалася тэорыя пабудовы «сацыялізму ў адной асобна ўзятай краіне». Троцкі спрабаваў ёй супрацьстаяць, апублікаваўшы восенню гэтага года вялікі артыкул «Урокі Кастрычніка», ён адкрыта гаварыў, што партыйная эліта пераўтвараецца ў бюракратыю, якой ужо не патрэбна ніякая сусветная рэвалюцыя, а Камінтэрн становіцца звычайнай агентурай СССР. Але час «дэмана рэвалюцыі» Троцкага быў ужо на сыходзе.

У беларускіх лясах пра партыйную барацьбу не ведалі амаль нічога і працягвалі рыхтаваць да паўстання. Самы пачатак 1925 года... Беларускія сяляне з палкамі ў руках замест вінтовак трэніруюцца хадзіць у атаку, Міхаіл Гурын у Вільні агітуе на карысць антыпольскага паўстання, а Станіслаў Ваўпшасаў пачынае планаваць вясенні напад на Ашмяны.

У сваіх успамінах Ваўпшасаў пісаў, што Ашмяны падыходзілі для штурму, бо ў горадзе была вялікая турма са шматлікімі палітычнымі зняволенымі. Аднак з пункту гледжання простай дыверсіі атака на Ашмяны выглядае як самагубства. Ад вырашальнай мяжы БССР Ашмяны знаходзяцца далекавата і аддзелены ад яе горадам Маладзечна, дзе размяшчаўся магутны польскі гарнізон. Тут значна менш лясоў, дзе можна схавацца пасля аперацыі. Куды больш рацыянальна было штурмаваць якія-небудзь Ракаў, Івянец або Валожын. Зусім інача выглядае справа захопу Ашмян, калі ўспрымаць яе не проста як партызанскую акцыю, а як частку вялікага антыпольскага паўстання. Партызаны Ваўпшасава займаюць Ашмяны, перарубаючы зносіны паміж Вільняй і Маладзечнам, а ў гэты час па ўсёй Заходняй Беларусі пачынаюць узрывацца масты і чыгуначнае палатно, знікае тэлефонная і тэлеграфная сувязь. Літаральна суткі-двое — і польскія ўлады апамятаюцца і паўстанцы будуць знішчаны, але за гэты час можна паспець рэалізаваць самыя розныя сцэнары. Можна абвясціць Ашмянскую народную рэспубліку і «паклікаць» на дапамогу Чырвоную Армію, а можна паспець «сфарміраваць» уласнае войска. Чым не ўкраінскі Славянск вясны 2014 г. і не «купленыя ў краме» танкі і рэактыўныя сістэмы «Град»?!



**Міхаіл Гурын**

(1891—1928) — сапр. прозвішча Ханевіч. Беларускі дзеяч. Нацыянал-камуніст. Удзельнік грамадзянскай вайны ў Расіі. Жыў у Менску, друкаваўся ў часопісе «Полымя», рэдагаваў газету «Савецкая Беларусь». У 1924 пасланы на падпольную работу ў Заходнюю Беларусь. Імкнуўся да большай самастойнасці КПЗБ у рамках Камуністычнай партыі Польшчы. Не падпарадкаваўся рашэнню аб адмене ўзброенага антыпольскага паўстання. Пазней, расчараваўшыся ў савецкай палітыцы, перайшоў на пазіцы супрацоўніцтва з польскімі ўладамі. Забіты камуністычным агентам Сямёнам Клінцэвічам у 1928.



**Станіслаў Ваўпшасаў**

(1899 —1976) — савецкі разведчык-дыверсант. Нарадзіўся пад Коўнам. Удзельнік грамадзянскіх войнаў у Расіі і Іспаніі, адзін з арганізатараў партызанскага руху на Міншчыне ў 1942—1944. У першай палове 1920-х вёў дыверсійную дзейнасць у Заходняй Беларусі. Ад 1925 — у органах НКВД—ГПУ. У тым ліку загадваў участкам гулагаўскага будаўніцтва канала Масква—Волга. Пасля вайны — начальнік разведаддзела МГБ Літоўскай ССР, знішчаў «лясных братоў». Ад 1958 у запасе. Пахаваны ў Маскве.

Аднак паўстанню не суджана адбыцца. Сталін і ягоныя паплечнікі імкліва збіваюць экспартную рэвалюцыйную хвалю. Ім на карысць дзейнічаюць наступныя падзеі. Па-першае, няўдачай заканчваецца крывавае снежаньскае паўстанне 1924 г. у Таліне, калі некалькі соцень камуністаў, у тым ліку і перапраўленых з СССР эстонцаў, паспрабавалі захапіць эстонскую сталіцу, але былі перабітыя курсантамі вайсковых вучылішч. Па-другое, у пачатку 1925 г. савецкі дыверсійны аддзел быў прыціснуты да мяжы польскімі войскамі і змушаны перайсці на Савецкую Украіну. Але савецкія дыверсанты былі пераапрануты ў польскую форму, таму ім прыйшлося ўступіць у бой з савецкімі памежнікамі, якія падпарадкоўваліся ДПУ і не валодалі поўнай інфармацыяй пра дзейнасць вайсковай разведкі.

Усе гэтыя падзеі далі нагоду Палітбюро згарнуць дзейнасць вайсковых аддзелаў па-за межамі СССР, а ў канцы студзеня 1925 г. Троцкі страціў пасады наркама па вайсковых справах і старшыні ваеннага савета, а таксама любы ўплыў на савецкую знешнюю палітыку. Беларускіх нацыянал-камуністаў у Менску абвінавачваюць у празмерным прасоўванні беларускіх спраў. Бюро дапамогі Заходняй Беларусі і загранічнае бюро пры ЦК КП(б)Б ліквідаваны, а справы КПЗБ перадаюцца ў распараджэнне Камінтэрна і польскіх ды літоўскіх камуністаў, якія нават прапаноўваюць перайменаваць КПЗБ у Камуністычную партыю Літвы і Беларусі. Ігнатоўскі, Чарвякоў, Ільючонак і іншыя беларускія камуністы, заангажаваныя ў працу з Заходняй Беларусі, вымушаны апраўдвацца перад партыйнымі органамі.

Атрады камуністычных «паўстанцаў» былі расфарміраваны. Ваўпшасаў, каштоўны спецыяліст па дыверсіях, застаўся ў СССР, перажыў чысткі 1930-х гг. і моцна спатрэбіўся пасля апошняй вайны ў барацьбе супраць літоўскага патрыятычнага падполля. Міхаіл Гурын упарта трымаўся плана паўстання і марна заклікаў Камінтэрн прыняць у свой склад КПЗБ асобна ад польскіх камуністаў. Хутка ён быў арыштаваны польскай паліцыяй (я перакананы, што яго здалі паліцыі былыя паплечнікі), абвешчаны правакатарам і застрэлены камуністычным агентам у Вільні вясной 1928 г. Усе беларускія патрыёты з БССР, што спадзяваліся на «мангольскі варыянт», не перажылі 1930-х гг.

У самай складанай сітуацыі аказаліся беларускія сяляне — сябры і прыхільнікі КПЗБ, якіх, дэмаралізаваных звесткай пра адмену паўстання, польскія ўлады сотнямі саджалі ў турмы, да восені 1925 г. амаль знішчыўшы структуры Камуністычнай партыі па ўсёй Заходняй Беларусі. З гэтага часу Масква кінула вялікія сродкі на легальныя беларускія палітычныя структуры — сялянска-работніцкую грамаду і пасля сялянска-работніцкі пасольскі клуб «Змаганне». Прайшло некалькі гадоў, і для актыўнага беларускага маладзёна з Заходняй Беларусі звычайным стаў наступны жыццёвы шлях: КПЗБ — польская турма — уцёкі ў БССР — расстрэл у сталінскай турме...

Мангольскі варыянт у Заходняй Беларусі не быў рэалізаваны.





Пастаянныя інцыдэнты на польска-савецкай мяжы прывялі да стварэння восенню 1924 польскімі ўладамі Корпуса аховы пагранічча (КАП) — спецыяльных частак польскай арміі, якія павінны былі бараніць усходнюю мяжу Польшчы ад савецкіх дыверсійных аддзелаў. КАП пачаў узвядзенне на мяжы спецыяльных стражніц — пагранічных застаў.

Ні Ашмянская народная, ні Беларуская народна-дэмакратычная рэспублікі не паўсталі. Але бальшавікі атрымалі іншую, куды больш значную перамогу. Да сярэдзіны 1920-х гг. яны змаглі амаль поўнасцю падпарадкаваць сабе беларускі нацыянальны рух і з дапамогай папулярных у народзе паслоў польскага сейма адцягнулі масы ад барацьбы за незалежную беларускую дзяржаўнасць на карысць аб'яднання з БССР. Наступствы гэтай трагічнай «змены арыенціраў» у беларускім нацыянальна-вызваленчым руху мы, нават праз чвэрць стагоддзя незалежнасці, добра адчуваем і сёння.

19-25.09
ТЫДЗЕНЬ
БЕЛАРУСКАГА
МЫСЛЕННЯ

### Дзе варта быць

«Тыдзень беларускага мыслення» пройдзе з 19 па 25 верасня. Наведвайце яго падзеі ў Мінску («Корпус 8», галерэя «Ў», ЦЭХ, Галерэя Tut.by, Punkt, Press Club Belarus, Imaguru), Астраўцы, Бабруйску, Берасці, Віцебску,Гомелі, Горадні і Магілёве. Праграма — на сайце fly-uni.org.



# Жыгамонт вяртаецца

Самы вядомы дылетант Беларусі пасля хваробы вяртаецца да падарожжаў. Каманда «Падарожжаў дылетанта» абвясціла пра чарговы старт любімай многімі каларытнай праграмы.

Выпускі праграмы будуць з'яўляцца на сайце **zhygamont.by** штотыдзень.

# Марта

Апавяданне. Піша Алесь Кіркевіч.

Вільня, канец мая 1924 года. Два месяцы таму з Менска сюды прыехаў Міхаіл Гурын. Ягоная мэта: арганізацыя паўстання ў Заходняй Беларусі.

Таварыш Кожухаў піў больш за ўсіх. Хоць, можа, так толькі здавалася, бо разліваў заўжды ён. Піў больш, а размаўляў — менш. Ды як размаўляў? Жарты ўсялякія, байкі пра жыдоў, цырульнікаў, лістаношаў, анекдоты розныя — усё гэта сыпалася з яго як бульба з парванага меха. А вось пра палітыку, польскія ўлады ці, крый Божа, беларускія справы — не, ніколі.

Ён задаваў адно пытанні. Пытанні, на якія адказвалі іншыя. Або кідаў правакацыйныя сцверджанні, якія былі насамрэч пытаннямі, кшталту: «Палякі самі сваё войска разваляць...» або «Уся Вільня за Пілсудскага!» А там ужо з-за стала шквал пратэсту падымаўся. Слухаў, ківаў галавой. Праца такая. Вывучка. А можа, наўпрост прафесійная дэфармацыя.

А мне гэта ўсё навошта было? Тая самая кватэра, той самы стары каштан ва ўнутраным дворыку, тыя самыя пустыя дзверы на балконную галерэю, куды ўжо ніхто ніколі не ўвойдзе, нат калі я буду спаць тут сам. Як тады, тыдні са два таму...

Марта ды ўсё, што з ёй звязана, патанула недзе, згасла. У рэальнасці, але не ў памяці. Калі ты ляжыш уначы, праз сон чуючы, як адбіваюць званы святога Казіміра, а пасля страпянешся ўвесь, так сабе знянацку, прымроіўшы перад сабой белую панну — чарнавалосую дзяўчыну ў начнушцы, якая нарэшце прыйшла, як усе пайшлі спаць. Да цябе. Адмыслова. Не, не, такога больш не будзе. І не варта было. Хаця...

— Што ты робіш?

— Пішу.

— Но-о-о... Курва маць. Ты на пару дзён хоця ж не можаш ад гэтага адарвацца?

— Не.

— А што пішаш?

— Апавяданне.

— Пепшыш... Не веру.

— ...

— А куды пасля збіраешся?

— У горад.

— Не-е-е. Зараз прыйдзе Сергіюш, пойдзем разам.

— Ведаю, што прыйдзе. Але я сам пайду.

Чарнявая дзяўчына з блытанай польска-беларускай гаворкай звешвалася праз парэнчы, пускаючы струменьчыкі дыму ў сусвет, які пакоіўся на вецці таго самага велічнага каштана. Сусвет, дзе было ўсё. Нябёсы з праведнікамі, святымі пакутнікамі ды раскаянымі грэшнікамі месціліся недзе вышэй, па-над страхой з бляхі ды чырвонай дахоўкі. Ніжэй было напаўвысахлае вецце з завялым лісцем — для людзей гэтага свету з іх паронкамі і дабротамі. Бліжэй за карэнне, якое пяшчотна аплятала падмуркі барочнай камяніцы, пакоіліся душы заўзятых грэшнікаў, бязбожнікаў ды заходнебеларускіх камуністаў. Недзе там, пад пліткамі з пазнакай віленскага магістрату, некалі спачну і я.

Так, я хацеў бы па смерці вярнуцца ў гэты дворык. Паслухаць, як увосень шапаціць прырэчаная на смерць лістота, адчуць вясёлы тупат жыдоўскіх дзяцей, што жывуць на першым паверсе, усмактаць кроплі дажджавой вільгаці з адарванай сцёкавай трубы... Я ведаю, што заўжды буду вяртацца менавіта сюды. Тут будзе маё асабістае пекла і мой вырай, не прызначаны Камінтэрнам або Разведупрам, не прысуджаны польскім судом, не прымроены паплечнікамі-ідэалістамі. Мой асабісты выбар. Я так хачу. Шукайце мяне тут, калі знойдзеце.

* * *

Спусціўшыся па пакручастай лесвіцы камяніцы, дзе мы спыніліся, мінуўшы залізаны мяккімі промнямі адыходзячага да сну сонца галоўны калідор з мазаічнай падлогай, я выйшаў на Дамініканскую. Кватэра была неймаверна зручная, адсюль паўсюды блізка, куды б ні ішоў — хоць да ратушы, хоць да Зялёнага моста, хоць да руінаў замка. Сярод летніх столікаў адной з кавярняў на Замкавай мяне ўжо чакаў чалавек сярэдняга росту з сівой барадой ды ў круглых амерыканскіх акулярах.

Ягоны столік знаходзіўся трохі воддаль ад іншых, а твар толькі мільгаў з-за газетных разваротаў, якія мужчына час-почас нервова перакідваў. На стале — кава ды нязменная шклянка вады. Пабач з крэслам — такі ж нязменны чорны кій.

— Вітаю!

— Чэсць, стары! Хадзем усярэдзіну, няма чаго тут свяціцца... — барадаты акуратна склаў газету ды прысунуў да стала гнутае драўлянае крэсла.

Было яму пад пяцьдзясят, але мянушку Стары мой знаёмы атрымаў зусім не з-за веку, а праз звычку называць «старымі» ўсіх калегаў. Такі зварот, зрэшты, тут пашыраны, таму і пытанняў ні ў кога не выклікаў. Стары быў народжаны палякам, але доўга жыў у Расеі, дзе і адседзеў некалі месяцаў з дзевяць, а мо і год. З таго часу, кажуць, ён не трапляўся ніколі, жывучы пад чужымі прозвішчамі, практыкуючы невядомыя прафесіі, начуючы на неіснуючых адрасах... Паўжыццця на нелегальным становішчы. Жывая легенда, карацей.

Яшчэ раней я заўважыў, што ў кожнага са старых падпольшчыкаў быў свой фетыш. Нехта лічыў, што галоўнае — збіранне ды назапашванне зброі, хай нават яна і не будзе ніколі выкарыстаная. Нехта быў апантаны вывешваннем чырвоных сцягоў, якія, нібы іконы, меліся разганяць чорныя сілы капіталістычнай рэакцыі ды набліжаць святло з усходу. Профілем Старога быў друк ва ўсіх ягоных формах.

Не маючы дакладнай палітычнай лініі акрамя крытыкі маладзейшых камуністаў, якіх інакш як «смаркачамі» ён не называў, барадаты быў фанатычным тэхнікам, якога вабіў сам працэс. Часам я ўяўляў сабе, як Стары сядзіць у сваім падвале, адчуваючы, што ніводная душа ў свеце не ведае цяпер яго дакладнага месцазнаходжання. Побач з ім — табліцы са шрыфтамі, стосы ўлётак, газетаў, адозваў, колькасць якіх ён можа вызначаць на вока, падсунуўшы пачак да пачка і параўнаўшы.

Усё гэта — шрыфты, наклады газет, тысячы тыражаваных улётак — заваражвае яго, надае сілы. У такія моманты, упэўнены, ён шчаслівы і можа знаходзіцца ў сваёй таемнай друкарні бясконца доўга, нават без дай прычыны. Бо адозвы, якія маюць з'явіцца ўначы на бетонных гарадскіх тумбах для афішаў — яго сцягі, улётачкі памерам з далонь з заклікам да байкоту дзяржаўных тавараў — яго набоі, а ўсё разам — гэта ягоны бог, без якога сусвет ды ўсё ў ім не мае сэнсу.

Усярэдзіне кавярні Стары як заўжды сеў у самым куце, каб бачыць уваход, знаходзячыся ў прыцемку. Нібы дэман, збянтэжаны святлом сонца, якое ніяк не схаваецца за далягляды. Скрозь круглыя акуляры на мяне глядзелі яго ўчэпістыя шэрыя вочы, а скупыя на словы вусны хавала знакамітая барада, што стала падставай для другой партыйнай мянушкі — Барада. Я паклаў на стол «апавяданне», якое дапісваў у апошні момант пры Марце.

— Тут інфармацыя, якую ты прасіў, ды грошы...

— Ціш-ш-ш, Міша, — стары пасмоўніцку падсунуўся бліжэй да мяне. — Не забывайся, дзе ты цяпер ёсць. Калі цябе не слухае паляк, гэта не значыць, што побач няма немца або літоўца. Гэта Вільня, скрыжаванне шляхоў ды інтарэсаў.

Стары акуратна загарнуў мае паперы ў газету, якую чытаў некалькі хвілін таму, ды адклаў на край стала. Пасля палез у кішэнь пінжака ды працягнуў па ліпкай сталешніцы да мяне кулак.

— Бяры.

— Што гэта?

— Гэта табе. З мінулай сумы. Тваёй жа сумы.

— Я маю на што жыць.

— Бяры.

Я ўзяў некалькі скамечаных банкнотаў ды пастараўся незаўважна схаваць у кішэнь нагавіцаў. Стары выдыхнуў, нібы развітаўшыся з ношай, якая яго мучыла.

— Ну што там, дагэтуль жывяце кагалам на той кватэры?

— Так.

— Даяце... Няўжо нельга было па розных раскідаць?

— Слухай, там купа народу заўжды. Нехта сыходзіць, нехта прыходзіць, а нас трое ўсяго. Там нават лягчэй згубіцца. Уласнік — паляк, стары сацыяліст...

— Яшчэ лепш.

— ...Ты ж сам паляк, здаецца.

— Так. Таму і палякаў ведаю. І польскую кампартыю, ад якой тут больш шкоды, чым карысці. І з маршалкам з 1905 года знаёмы, калі ён, кур-рдэ, як твой уласнік кватэры, лічыў сябе сацыялістам...

— Маршалкам Пілсудскім?

— Ціш-ш-шэй, Міша!

— Выбач.

— Не кажы «выбач», наўпрост не рабі так болей.

Калега заварушыўся ў крэсле, мабыць, адчуўшы сябе таксама ніякавата, як і на пачатку сустрэчы, седзячы звонку з газетай.

— Любіце вы крычаць, натоўпамі хадзіць, добра, хоць не з бантамі чырвонымі на грудзях. Я і смаркачам гэтым кажу: «Я супраць адчыненых дзвярэй у арганізацыі». Балбатуны гэтыя хай цягаюцца на мітынгі, а каб справу рабіць — шмат народу не трэба. Я табе ўжо казаў, ячэйка — гэта тры чалавекі. Не пяць, не дзесяць, не трыццаць. Бо як не будзе канспірацыі — нічога не будзе.

— Я разумею...

Стары яшчэ раз паглядзеў на мяне, прымружыўшы левае вока, нібы спраўджваючы, ці сапраўды я «разумею», ці наўпрост стаміўся слухаць ягоныя мантры і абыякава пагаджаюся.

— Колькі тут будзеш яшчэ?

— Не ведаю. Пару тыдняў дакладна буду...

— Ну і файна. Давай у нядзелю ў «Белым Штралі». Гэта блізка, праз пару дамоў. У адным месцы не трэ заседжвацца.

— Добра.

Дэман падпольнага руху ўстаў моўчкі, хітнуў галавой у мой бок ды скіраваўся на вуліцу, каб знікнуць за дрэнна вымытым вітрынным шклом у набрыдлых сонечных промнях. Я выцягнуў з кішэні пачак падораных таварышам Кожухавым папяросаў «Cow-Boy», запаліў ды ўзяўся пералічваць пад сталом атрыманыя банкноты.

* * *

Наш караван цягнуўся па цьмянай ды мокрай пасля дажджу Вільні, нібы нейкі начны дазор або працэсія мёртвых са старых сярэднявечных гравюраў, прысвечаных апанаваным пошасцю гарадам. Наперадзе, самыя цвярозыя, у бок кватэры ішлі прафесар Вальдэк з Верай, ціха пра нешта шапталіся. Імаверна, ён распавядаў ёй пра горад. Наш сябар Вальдэк, дарэчы, і быў гаспадаром тых апартаментаў з шырока адчыненымі дзвярыма. Далей ішлі мы з таварышам Кожухавым, добра выпіўшыя лікёру ды гарэлкі недзе на рагу Міцкевіча і Арсенальнай. Апошнімі цягнуліся Марта з нейкім польскім афіцэрам, вечаровым знаёмцам. Яна ўжо не мела сілы ісці, шмат смяялася, нешта крычала рэдкім мінакам, трымаючы свайго збянтэжанага і шчаслівага адначасна знаёмца пад руку.

Вера, невысокае дзяўчо з каштанавымі валасамі па плечы, часамі азіралася, ветліва робячы выгляд, што ўважліва слухае Вальдэкавы гавэнды пра Гедыміна, жалезнага ваўка ды іншыя гістарычныя байкі. Я апускаў вочы, калі яе пранізлівы і крыху жаласлівы погляд сутыкаўся з маім, бо ўсё разумеў. Гэты погляд я ведаю з Менска, дзе ў казармах на Нямецкай вуліцы нас усіх рыхтавалі да камандзіроўкі, з якой, Бог ведае, ці каму давядзецца вярнуцца. Мы ехалі па Беларусь, а рыхтавалі нас развальваць Польшчу... Тэрор, дыверсіі, выведка — карацей, прасоўванне ідэі сусветнай рэвалюцыі.

Час-почас я таксама абяртаўся назад, назіраючы, як Марта нешта даводзіць паляку, то павышаючы на яго голас, то падаючы ў абдымкі. У гэтым была ўся сутнасць гэтай чарнявай шэльмы, якая рэдка каго пакідала абыякавым. Яна была абсалютна выпадковым спадарожнікам нашай групы, у адрозненне ад прафесара Вальдэка, не сімпатызавала ані камуністам, ані польскім урадоўцам, якіх называла «скарумпаванымі свіннямі». Яе цікавіла жыццё ва ўсіх яго праявах. Мужчынам, як ні дзіўна, гэтай цікавасці перападала значна больш...

Таварыш Кожухаў, наш інструктар, хутка зарыентаваўся ў сітуацыі, таму не перашкаджаў ані папойкам у Вальдэка, ані тлумам народу, які штодня праходзіць праз кватэру з адчыненымі дзвярыма, ані выхадкам Марты, знаёмай прафесара, якая прыклеілася да нас пару тыдняў таму. Лепш так, чым соўгацца па гатэлях ці кватэрах «надзейных таварышаў». Хочаш схаваць нешта — пакладзі на самае віднае месца. Хочаш абдурыць паліцыю — пі з намеснікамі начальнікаў камэндаў, з якімі нават знаёміцца не трэба — самі па Марту прыйдуць. У адрозненне ад нас, ягоная камандзіроўка мела тактычныя задачы, доўга затрымлівацца ў Вільні ён не планаваў.

Прозвішча, вядома, было несапраўдным. Кожухаў наогул быў літоўцам, хоць не меў для сваіх землякоў аніякага сантыменту. Чыя Вільня? Савецкая, адказаў бы паголены пад ноль афіцэр, якога я ані разу, нават у Менску, не бачыў апранутым па форме. Чалавек з амаль празрыстай да ружовага скурай, белымі вейкамі ды халоднымі блакітнымі вачыма. Не ведаю, ці быў ён фанатыкам ідэяў Камінтэрну, хутчэй, фанатыкам сваёй працы ды Разведупра, які яго сюды скіраваў. Сёння Вільня, заўтра, магчыма, Рыга, Львоў ці Данцыг...

— Не оборачівайся, — з усмешкай, зацягваючыся папяросай, кінуў Кожухаў.

— Я не абяртаюся.

— Я віжу. Страх і жалосць, Гурін, твоі врагі. А есчо соплі і раманцика, — літовец падміргнуў ды зноў лёгка пасміхнуўся.

Я прамаўчаў, хоць быў, здаецца, больш выпіўшым за калегу. Мы ж не ў БССР, квіток наш з Верай быў толькі ў адзін канец, таму, падавалася, акурат зараз я і мог сказаць яму ўсё, што думаю. І пра «беларускі дом» на ўсходзе — «чысты і светлы», — дзе кіруюць усе, апроч беларусаў. І пра Разведупр, які толькі прыкрываўся ідэямі сусветнай рэвалюцыі, але прасоўваў палітыку Чырвонай Расеі. І пра Марту... Але я стрымліваўся.

— Вам бы кніжкі пісаць, сціхі, п'есы, — працягваў паголены цвярозы, як шкельца, — а тут революцію делать нужно. Дадут денег на агітацыю — вы букварі децям напечатаеце. Дадут на оружіе — цэатральный кружок откроеце. Самі как дзеці...

— Не ўсе ж такія.

— Фсе, фсе. І ваш Ігнатовскій, который цебя праважал в Мінске. І твой здешній знакомец в круглых амерыканскіх ачках — ні рыба ні мяса...

Мая далонь пацягнулася ў кішэнь па вальтэр на шэсць набояў. Абхапіўшы яго маленькую ручку з рэльефнымі



**Алесь Кіркевіч**

Нар. 1989 у Гродне, у сям'і гісторыкаў. Быў адным з лідараў Маладога фронту. Пасля Плошчы-2010 асуджаны на чатыры гады пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Памілаваны ў верасні 2011. Працуе журналістам-фрылансерам.

шчочкамі, я адчуў, як пальцы імгненна зрабіліся вільготнымі. Указальны лёг на халодны гачок. Хопіць, хай усё ідзе да чорта. У Менску ўжо наслухаўся гэтага ...

Раптоўна ззаду пачуўся жаночы войк. Я азірнуўся. Марта, здаецца, паслізнулася ды ўпала. Паляк з усмешкай узяўся яе падымаць, махаючы нам рукой, маўляў, усё пад кантролем.

— Пошлі, пошлі, — Кожухаў прыабняў мяне за плячо, — без цебя справяцца.

Я выцягнуў спацелую руку з кішэні ды палез па цыгарэту.

* * *

Калі я прачнуўся, там, на галерэі пад каштанам, ужо пачынала світаць. За пару метраў ад мяне на плеценым крэсле сядзела Марта з нязменнай папяросай, захутаная ў польскі вайсковы шынель. Абярнуўшыся ў мой бок, яна пасміхнулася.

— Хэй!

— ...Дабранак.

Я прысеў, машынальна абмацаў рукой шыю і патыліцу, нібы правяраючы, ці ўсё на месцы. Скінуў набок плахту, якой прыкрываўся, калі спаў на двары (Кожухаў, прыкладам, заўжды спаў у пакоі, бо «паходных умоваў яму па жыцці і так хапала»). Намацаўшы пачак папяросаў, я выцягнуў адну ды падышоў да дзяўчыны.

— Як пачуваешся?

Яна не адказала нічога, толькі задуменна пахітала галавой з боку ў бок ды зноў расплылася ва ўсмешцы.

— Ранак, а ты не спіш.

Марта паціснула плячыма, выпусціла струмень дыму ды яшчэ больш захуталася ў шынель.

— Слухай... У мяне пытанне. Толькі адно.

Яна зацікаўлена паглядзела на мяне, нахіліўшы галаву ўбок ды апусціўшы папяросу.

— Тады, два тыдні таму... Навошта?

— Мне было цікава.

Не зводзячы з мяне вачэй, яна зноў паднесла папяросу да вуснаў. Бачна было, што грудзі, ледзьве прыкрытыя чужым форменным строем, выдыхнулі, каб зноў набраць дыму. Мабыць, яна чакала больш складанага пытання.

— Але... На нейкі час застанеш в моей глове. Буду памятаць.

З гэтымі словамі яна ўзняла далонь і лёгка дакранулася пустой часткай папяросы, якая толькі што выплыла з яе рота, да маёй скроні.

— Але мы можам... Так сабе гутарыць. Гэта ж файна, не?

— Ну так.

— Зрэшты, Міхал... Вера толькі на цябе і глядзіць. Таму, лічы, маеш пэвен аўторытэт у паненак.

Я крыва ўсміхнуўся і паглядзеў убок. Гэтым часам яна жбурнула недапалак у калодзеж двара. Знічка даляцела да падножжа каштана ды разбілася на некалькі іскрыстых аскепкаў, каб умомант згаснуць. Праходзячы поруч, Марта правяла рукой па маім плячы ды, не абяртаючыся, знікла ў дзвярах кватэры. Недзе высока над кронай волата быў чутна гром, над якім старое дрэва не мела аніякай улады.

* * *

Гэтым жа ранкам я прачнуўся яшчэ раз, увесь мокры. Было ўжо даволі светла, хоць неба і зацягнула шэрымі хмарамі. Дождж пайшоў раптоўна ды адразу сцяной, як гэта бывае ўвесну. Стары каштан быў не пры справах, яго лістота шапацела пад ударамі кропляў, нібы прабачаючыся перада мной за тое, што не папярэдзіла ўчасна. Я адкінуў мокрую шмату ды асцярожна, каб не вылецець у калодзеж за недапалкам Марты, пасунуўся па слізкай плітцы ў кватэру, трымаючыся за хісткія парэнчы.

Усярэдзіне было ціха. На стале на кухні ўзвышалася некалькі парожніх бутэлек ад гарэлкі ды недапітая шкляніца з нейкай мутнай наліўкай — помнікі ўчорашняму вечару. На пасрэбранай тацы з карункавымі мадэрнымі ўзорамі стаяла некалькі кілішкаў. Са спінкі крэсла звісала нядбайна кінутая афіцэрская партупея. З пакояў было чутно, як нехта пахропвае. Мабыць, той жвавы паляк, а можа і халасцяк-Вальдэк, які, здаецца, не замарочваецца такімі дробязямі.

Трэба было недзе прылегчы, каб схапіць яшчэ гадзінку сну. У першы пакой... Не, не зараз. Да Кожухава таксама не пройдзеш, бо каморка, дзе ён ночыць, у самым канцы. Усё адно ісці праз паляка і... Дарэчы, ёсць яшчэ калідор, можна тудой.

Паміж дзвярыма, за якімі ўжо пачыналася лесвіца да парадннага, і карычневай кафлянай печчу стаяў маленькі ложак. Пад копіяй «Рацлавіцкай бітвы» Матэйкі ў залачонай гіпсавай раме, тварам да сцяны, скруціўшыся слімаком, спала дзяўчо з каштанавымі валасамі. Калі я прыпадняў коўдру ды лёг побач, ахінуўшы цёплае трапяткое цела сваім, яна не сказала ані слова, адно моцна, як магла, сціснуўла маю далонь.

Насупраць нас, нібы прыхадзень у сваёй хаце, на лаве хроп прафесар Вальдэк. За акном шапацеў каштан, граючыся кроплямі веснавога дажджу.

* * *

*Міхаіл Гурын-Маразоўскі, звінавачаны ў здрадзе, загіне падчас другога замаху на сябе ў Вільні ў 1928 годзе, страляць будзе яго былы падначалены баевік КПЗБ Клінцэвіч. Вера народзіць сына, падчас вайны возьме актыўны ўдзел у дзейнасці савецкага падполля ды будзе закатаваная немцамі, пра яе будуць пісаць кнігі, яе імем назавуць дзясяткі вуліцаў. Марта стане выпадковай ахвярай аблавы на вуліцах Гродна вясной 1944-га. Таварыш Кожухаў, ён жа Бес, стане легендарным савецкім дыверсантам, перажыве ўсе чысткі, дaслужыцца да высокіх чыноў у МДБ і ціха памрэ ад інфаркту на дачы пад Масквой у 1970-х. Лёс Старога застанецца для ўсіх таямніцай, розныя беларускія дзеячы будуць яшчэ доўга лічыць яго агентам Дэфензівы або II Аддзела польскай выведкі.*

# «А дачка ў яе была плечавой на трасе»

Віктар Шукеловіч.
Апавяданне.

А вунь, вунь, глядзі, прыйшла ўжо, сядзіць на прыступках пад крамай, галаву звесіўшы, а з носа яшчэ смаркачы вісяць. Блізка не падыходзь — смярдзіць мачой, што не стрываць. Засцаўшыся ходзіць цэлымі днямі. Кажуць, у яе, гэтай старой, печ у хаце разваліласся, дык яна есці варыць на цяпельцы ў падворку. Добра, што яшчэ агню пасярод хаты не раскладае, але пачакай зімы, то, пэўна, і хату спаліць.

Я ж добра знаю гэтую старую. Яна з Ордзевічаў, жыла каля нашай кумы, плот у плот хаты стаялі. Цяпер, во, глядзі: прыходзіць сюды ды жабруе пад магазінам, каб яе халерыя. Раней жа такой не была. Добрая была жанчына, чыстая, дбайная, гэта цяпер прыдурнела ці што, у галаве ў яе пакруцілася. Мужык ейны шмат старэйшы за яе быў, дзевяць гадоў жылі разам, дзяцей не мелі, а пазней неяк удалося ім дачку зрабіць. Ужо як яны яе песцілі, ледзь не ў сраку дзьмухалі. З такога гадавання то ніякага толку няма, ты ўжо мне павер. І дачка ж гэная не дурная была, паступіла ў тэхнікум у Ашмяну, але за хлопцамі млела, аж міжджэла, аж пара з вушэй ішла. З некім лабідудам, афэлкам сышлася, вучобу кінула і ў Расію з'ехала. Тым часам бацька памёр, а яна нават на паховіны не прыехала, бо, бач ты, білет дарагі. Потым той ейны кавалер, мусі, яе выгнаў ці што, але яна вярнулася, плечы ўгнуўшы, да маткі ў Ордзевічы. Лазіла па вёсцы, глюму перавярнуўшы, шукала толькі, дзе выпіць, зегры заліць. Ужо раней яна чалавекам не была, а як з Расеі вярнулася, дык і зусім. Электрыкі раз былі ў машыне з будой у Ордзевічы прыехаўшы, нешта там рамантавалі, па слупах лазілі. Знаеш, іх там і шмат было, смяюцца, гудуць на ўсю вёску. Дык яна да іх была паляцеўшы. Матка ўзяла біч у рукі і пайшла яе ганяць. А яна пры тых электрыках біцца да маткі ляцела, падумай ты, хапала матку за грудзі, за цыцку тузала, з якой малако некалі ссала... Кажа пры людзях да маці: «Што? Ужо і патрахацца не можна выйсці». Такога стыду матцы была нарабіўшы... Дык выйдзі ты, сабачая скура, і патрахайся цішком, чаго ты пхаешся, каб усе людзі бачылі ды смяяліся. От як, ці не праўду я кажу? А пазней усё горай была, матка ўжо ёй ніякай рады не давала. Грошы старая хавала дык ці ведаеш дзе? У лес насіла і ў мурашнік закопвала, каб хаця тая лайдачка не знайшла і не адакрала.

Яна пайшла плечавой на трасу, ездзіла ўсюды ў фурах, цягалі яе там, як хто хацеў. Казалі, немавед колькі тых хваробаў усялякіх яна мела. Аднаго лета вярнулася дахаты сцяганая, высахлая, ногі, як штакеціны, сінякі пад вачыма, а яшчэ і брухатая. Нарадзіла і была пры хлопчыку. Кажуць, што матка была яе пасадзіўшы ў пакой і замкнуўшы на ключ. Але потым яна зноў на трасу зляцела, каб ёй кроў з носу ляцела. А матка, старая ўжо, гадавала адна гэтае дзіцё. А тая, дачка-пястушка, каб хоць раз прыехала ці грошы якія перадала. Нічога! А магла ж пры матцы жыць, памагаць, у маткі пенсія нейкая, а і матку б абмыла, памагла б у нечым, і гадавалі б разам хлопчыка, дык не, свярбела ёй на трасу.

Потым зноў неяк з'явілася. Ды ці знаеш ты што? Матка яе на ланцуг у хаце пасадзіла. Ну, не ведаю, ці на ланцуг, ці на вяроўку, але кум Юзюк бажыўся, што яна на ланцугу наважаная ў хаце сядзела. Але дзе той ланцуг чартоўку ўтрымае. Яна зноў уцякла, праз акно вылезла, а потым яе павешаную ў лесе, там, як на Ябравічы ехаць, знайшлі. Можа, сама павешалася, а можа, і кавалеры ёй смерць зрабілі. Ніхто гэнага ўжо не правяраў, мусіць.

**Матка яе на ланцуг у хаце пасадзіла. Але дзе той ланцуг чартоўку ўтрымае**

А гэтая старая сама выгадавала хлопчыка, ужо ўнука свайго. Выправіла яго ў Мінск вучыцца. А той там, у Мінску, і прыжаніўся. Пярвей і часта прыязджаў. Абкосіць усё каля хаты, плот паправіць, страху залатае, студню пачысціць. А цяперака дык і прыязджаць перастаў. Кажуць, жонка нібыта ягоная надта благая. Не пускае да гэтай старой у Ордзевічы. І сама яна не любіць з Мінска сюды прыязджаць. А то і вядома, трэба гэтую старую закарэлую мыць, у хаце шараваць. А гэна ж чужы чалавек ёй... От як, братка, такія пірагі.

А старая ўжо з галавой зусім не дружыць. У пяску, казалі, гуляе каля хаты, набярэ ў жмені зямлі і ў людзей шпурляе. І гаварыць амаль нічога не гаворыць. Нешта запытаешся, а яна табе: «Ці-лі-лі, ці-лі-лі». Цілілікае ўсё нешта, от і ўся гутарка.

Здурнеў ты ці што? До, не давай ёй шмат грошай, дай якую тысячу — і досыць, і так страціць. Дзе ты ўсім надаешся... Усяму свету не надаешся. Ну добра, дай пяць, хай ёй ужо будзе. Чакай, я злётаю скоранька, то сардэлек і пячэння ў магазіне куплю, то ёй вынесу. Не давай грошай зусім, бо адкрадуць у гэтай дурнаватай яшчэ. Во, глядзі, сядзіць, расцяперыўшыся, а з носа які смаркач доўгі вісіць...

*Жупраны*

**Віктар Шукеловіч**

пісьменнік. Нарадзіўся ў 1982 у Жупранах (Ашмянскі раён). Скончыў беларускі філфак БДУ (2004), тэалагічны факультэт Люблінскага каталіцкага ўніверсітэта (2011).

# Зорны час і галгофа Аркадзя Смоліча

Працяг са старонкі 18.

У сталіцы БССР Гарэцкі доўга не затрымаўся. Ужо 24 жніўня яго пад канвоем прывезлі на Беларускі вакзал у Маскве, а з Беларускага вакзала — на Лубянку. Там ён сустрэне сваіх настаўнікаў з Пятроўскай (Ціміразеўскай) сельскагаспадарчай акадэміі. Настаўнікі і вучань сталі фігурантамі справы ПСП.

Тым часам ДПУ БССР (пэўна, з ведама Масквы) распрацоўвала версію аб існаванні ў рэспубліцы аб'яднанага антысавецкага падполля, так званага Тактычнага цэнтра, стварэнне якога пачалося ў 1929 г. і ў які нібыта ўваходзілі прадстаўнікі СВБ і беларускіх філіяў ПСП, Прампартыі і меншавікоў. Інакш Тактычны цэнтр называлі Цэнтрам вызвалення Беларусі. На чале ЦК гэтай структуры чэкісты паставілі Смоліча. Атрымлівалася, што пад яго кіраўніцтвам Тактычны цэнтр рыхтаваў паўстанне супраць савецкай улады, а на нарадах абмяркоўвалася пытанне пра будучы ўрад БНР і пра тое, які статус будзе мець БНР — незалежнай дзяржавы ці аўтаноміі.

У пэўных кабінетах было вырашана далучыць да новай справы і Гарэцкага — як кіраўніка беларускай філіі ПСП. Калі яго з Масквы этапавалі ў Менск і паведамілі пра існаванне Тактычнага цэнтра, Гарэцкі заявіў, што гэта выдумкі, што такога цэнтру не было. Тады Гарэцкаму прад'явілі паказанні фігурантаў справы з прызнаннем сваёй віны. Сярод іх былі і надрукаваныя на машынцы, але падпісаныя паказанні Смоліча. Гарэцкі запатрабаваў вочную стаўку са Смолічам, аднак у гэтым яму было адмоўлена.

Чытаючы дакумент, у якім Смоліч апавядае пра нарады з прадстаўнікамі беларускіх філіяў ПСП, Прампартыі і меншавікоў, я раблю дзве высновы. З увагі на тое, што цэнтральнаю постацю гэтых нарад да яго ад'езду ў Маскву быў Краскоўскі, можна меркаваць, што ДПУ спачатку дамаглося патрэбных паказанняў ад Краскоўскага, а потым прад'явіла іх Смолічу. Другая ж выснова: як і многія, як і большасць тых, хто праходзіў у справе СВБ і Тактычнага цэнтра, Смоліч не вытрымаў маральна-псіхалагічнага ціску, які аказваўся на яго цягам 8 месяцаў. Не выключаю, што яго выпрабоўвалі і карцарам, у якім нельга было ні легчы, ні сесці. Ужо тады ў арсенале гэбістаў быў так званы канвеер: следчыя змянялі адзін аднаго, і допыт мог доўжыцца суткі і болей. Калі б следства правяло вочную стаўку Смоліча і Гарэцкага, многае праяснілася б.

Застаецца пытанне, чаму справа Тактычнага цэнтра не была завершана ў судовым парадку. Смоліча судзіла калегія АДПУ СССР як сябра СВБ. Прысуд быў стандартны: 5 гадоў ссылкі. Да чарговай хвалі Вялікага тэрору заставалася шэсць гадоў.

**Анатоль Сідарэвіч**


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Помнік стваральнікам беларускай нацыянальнай класічнай оперы, кампазітару Станіславу Манюшку і драматургу Вінцэнту Дуніну-Марцінкевічу, усталявалі ў скверы каля Ратушы на плошчы Свабоды. Аўтары скульптуры — Леў і Сяргей Гумілеўскія. Іх творчую прапанову абралі па выніках конкурсу на стварэнне скульптурнай кампазіцыі «Жыхары Мінска XIX стагоддзя: кампазітар Станіслаў Манюшка і драматург Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч — стваральнікі беларускай нацыянальнай класічнай оперы».**


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Бізнэсмен Уладзімір Япрынцаў выйшаў на волю пасля года турмы. Суд даў Япрынцаву штраф у 500 базавых велічыняў (арт. 405 ч.1 КК «Укрывальніцтва злачынства»), што раўняецца 10,5 тыс. рублёў (або каля 5,2 тыс. даляраў). Уладзіміру вяртаецца яго канфіскаваная падчас следства маёмасць. А вось сын Уладзіміра Казбек Япрынцаў асуджаны да 8 гадоў зняволення з канфіскацыяй маёмасці па артыкуле «Махлярства». «Забойцам меней даюць», — пракаментавала прысуд жонка Казбека.**



МІКІТА НЕДАВЕРКАЎ

**Чароўная беларуская гімнастка Меліта Станюта займела ўласную краму біжутэрыі і аксесуараў на трэцім паверсе ГЦ «Сталіца». Новая крама з'яўляецца рэбрэндынгам папярэднікаў — крамы «Variety».**


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**З'явіўся яшчэ брэнд моднага адзення з элементамі вышыванкі. Яго можна знайсці ў сацыяльных сетках пад тэгам #белорусомбытьмодно. Іх стварае 23-гадовая мадэльерка Ганна Эгліт.**



УЛАД ШВЯДОВІЧ

**Фатограф Антон Матолька прайграў суд Белтэлерадыёкампаніі, якая выкарыстала здымак аўтар без яго дазволу. Матолька прасіў у якасці кампенсацыі 1 капейку. Аднак суд палічыў, што здымак паўночнага ззяння не вынік творчай дзейнасці фатографа. У суд Матолька прыйшоў у майцы «Няма фота — няма праблем?»**



## Анекдоты і жарты

* * *

— Мам, заўтра бацькоўскі сход, пойдзеш?

— Не, сынок, лепш мы на гэтыя грошы ў Егіпет з'ездзім!

* * *

Калі вы заблукалі ў лесе ў жніўні, то супакойцеся і дачакайцеся восені — птушкі паляцяць на поўдзень.

* * *

— Ты зарадку робіш раніцай?

— Раніцай я спазняюся. Гэта лепей за зарадку.

* * *

Калі Усэйн Болт спазняецца на аўтобус, атлет чакае яго на наступным прыпынку.

* * *

Я не баязлівец і люблю прыгоды, але ў ванне стараюся трымацца ля берага.

* * *

Аднойчы я катаўся на «Бэнтлі». Калі пераходзіў дарогу на чырвонае.

* * *

– Ваш сын нам пастаянна хлусіць.

– Перадайце яму, што ён вельмі добра ўмее хлусіць, бо ў мяне няма ніякіх дзяцей.

* * *

Ты кажаш, што ніколі не быў шчаслівы, але я бачыў у цябе ў тэлефоне будзільнік на 14:00.

* * *

– Чым ты займаешся ў вольны час?

– Шпіёню.

– Сур'ёзна? А я люблю гуляць у парку ці хадзіць у кіно з сябрамі.

– Я ведаю.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Раманава. Горацкі павет.** Дыякан В. навязаў каня на лузе дзячка П. Дзячок пайшоў забіраць каня, узяўшы з сабой стрэльбу, баючыся, як кажуць, шалёнага сабаку. Калі прыйшоў да каня, то знайшоў там дыякана з жонкай, якія пачалі з ім спрачацца, не даючы каня. Ці па абмылцы, ці ад болю сэрца дзячок стрэліў і лёгка зраніў дыякана. Кансісторыя выдаліла са службы дзячка, нягледзячы на тое, што дыякан дараваў яму і яны памірыліся.

**«НН». №36. 1911.**

**8 верасня**, у Дзень беларускай вайсковай славы, стартуе сайт «НН» у новым фармаце. Экран камп'ютара перастаў быць копіяй газетнай старонкі. «НН» цяпер можна не толькі чытаць, але і пісаць, і спрачацца ў ёй, а неўзабаве — чуць яе. Дык заходзь, не стой адзін. Далучайся і заставайся.

**«НН». №33. 2006.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

шэф-рэдактар Андрэй Дынько
сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 6001. Газета выдаецца 30 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 06.09.2016.
Замова №3378.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614
9 771819 161008 16027